**Бібліятэка “Беларускі калегіюм” рэпрэзентуе тэксты вядомых беларускіх інтэлектуалаў. Гэта неакадэмічная аналітыка, эсэі і дыялёгі пра Беларусь, грамадства, культуру і час.**

Выказваем падзяку Паўлу Данейку

Аўтар выказвае падзяку
“Central European University Special and Extension Programs”, а таксама “Freedom House” (Будапешт) за дапамогу, якая зрабіла магчымай напісанне гэтай працы.

Гэта кніга — пасьмяротнае выданне аднаго з найбольш важных тэкстаў выбітнага беларускага інтэлектуала Віталя Сіліцкага, у якім на аснове параўнальнага аналізу апісваюцца працэсы паўставання і фарміравання персаналісцкіх рэжымаў у Сербіі і Беларусі.

# Змест

# Уводзіны

Напрыканцы XX ст. Еўропа сутыкнулася з дзвюма антыдэмакратычнымі рэжымамі, кіраўнікі якіх Слабадан Мілошавіч і яго беларускі калега Аляксандр Лукашэнка падзялілі рэпутацыю апошніх дыктатараў на кантыненце. Адметныя характарыстыкі абодвух рэжымаў адпавядалі вызначаным вядомым палітолагам Хуанам Лінцам крытэрам аўтарытарызму як сістэмы "з абмежаваным... палітычным плюралізмам, без вызначанай і абавязковай ідэалогіі, але ж з выразнымі ўстаноўкамі, без экстэнсіўнай ці інтэнсіўнай палітычнай мабілізацыі, апрача як на некаторых стадыях развіцця, у якой лідэр распараджаецца ўладай у слабавызначаных, але вельмі прадказальных межах"[1]. Да таго ж, абодва рэжымы вызначаліся высокай канцэнтрацыяй фармальнай і нефармальнай улады ў руках адной асобы, што дазваляе ахарактарызаваць іх як персаналісцкія, "дзе доступ да ўлады і перавагі ад улады залежаць найболей ад рашэння асобнага лідэра"[2]. І хоць персанальны аўтарытарызм — з'ява звыклая, скажам, на постсавецкай прасторы, адметнасцю Мілошавіча і Лукашэнкі была іх здольнасць усталяваць "квазідэмакратычную легітымнасць", г. зн., заваяваць рэальную падтрымку грамадства ў канкурэнтнай палітычнай барацьбе для таго, каб потым пабудаваць яскрава недэмакратычную сістэму ўлады. У гэтым Сербія і Беларусь адрозніваліся ад большасці краінаў Цэнтральнай

1 Juan J. Linz and Alfred Stepan. Problems of Democratic Transition and Consolidation: Southern Europe, Latin America, and Post-Communist Europe. Baltimore: Johns Hopkins University Press, 1996. P. 38.

2 Barbara Geddes. What do We Know About Democratization after Twenty Years? // Annual Review of Political Science. Vol.2 1998. P. 121.

Азіі і Закаўказзя, дзе пераход ад савецкага таталітарызму да персанальнай аўтакратыі адбыўся ў мяккім рэжыме (Казахстан, Узбекістан, Туркменістан) альбо ў выніку грамадзянскай вайны (Азербайджан і Таджыкістан). Высокаперсаналізаваная сістэма ўлады, падобныя прынцыпы адносінаў паміж дзяржавай і грамадствам, ізаляцыя рэжымаў (а ў выпадку Сербіі — і самой краіны) міжнароднай супольнасцю — усё гэта рабіла Сербію і Беларусь у 1990-х гг. падобнымі адна да адной і адметнымі ад большасці краінаў Усходняй Еўропы. Гэтыя падабенствы кантраставалі з надзвычай рознай "спадчынай мінулага", якая, здавалася б, запэўнівала, што дзве краіны апынуцца на супрацьлеглых палітычных траекторыях пасля краху камуністычнай сістэмы. Так, дастаткова напісана і сказана пра гістарычныя, сацыяльна-эканамічныя і культурныя перадумовы лукашэнкаўскага аўтарытарызму ў Беларусі. Аднак Сербія, якая апынулася ў падобных умовах, вызначалася за часамі Ціта больш высокай ступенню эканамічнай і палітычнай лібералізацыі ды адкрытасцю перад Захадам, у чым мела відавочныя перавагі перад Беларуссю — эканамічным і вайсковым фарпостам савецкай імперыі. Моцнае пачуццё нацыянальнай самасвядомасці ў сербаў таксама радыкальна кантрастуе са станам беларускай "дэнацыяналізаванай нацыі"[3]. А менавіта адсутнасцю нацыяналізму некаторыя даследнікі тлумачаць узыход Лукашэнкі[4] (цікава тое, што менавіта нацыяналізм вызначаўся большасцю даследнікаў як галоўная крыніца сербскага аўтарытарызму). Далей, існавалі істотныя адрозненні ў дынаміцы будавання посткамуністычнай аўтарытарнай сістэмы, такія, як паходжанне двух лідэраў, час і паслядоўнасць пераходу ад

3 David Marples. Belarus: A Denationalized Nation. Harwood Academic Publishers, 1999.

4 Гл.: Kathleen Mikhalisko. Belarus: A Return to Authoritarianism // Democratic Changes and Authoritarian Reactions in Russia, Ukraine, Belarus, and Moldova / Ed.Karen Dawisha and Bruce Parrot. Cambridge: Cambridge University Press, 1998; Stephen Eke, Taras Kuzio. Sultanism in Eastern Europe: Explaining the Roots of Authoritarian Populism in Belarus // Europe-Asia Studies. Vol. 52, no. 34. 2000. P. 523—537.

камуністычнай да посткамуністычнай дыктатуры, а таксама роля вайны ў фарміраванні палітычнага рэжыму. Нарэшце, нягледзячы на падабенствы, дзве краіны размінуліся напрыканцы стагоддзя. Рэжым Мілошавіча скалапсаваў пасля таго, як ён прайграў у 2000 г. прэзідэнцкія выбары, ім жа і арганізаваныя. Аднак прэзідэнцкія выбары ў Беларусі ў 2001 г. паказалі, што здольнасць беларускага аўтакрата пацвердзіць свае прэтэнзіі на ўладу шляхам маніпуляцыі выбарчым працэсам застаецца надзвычай высокай. Найбольш сумным аспектам паразы для апанентаў Лукашэнкі з'яўляецца тое, што беларускі прэзідэнт сапраўды здолеў заваяваць большасць галасоў, а парушэнні выбарчага права і маніпуляцыі дазволілі яму толькі задэклараваць большую ступень перамогі, а не выкрасці яе ў апазіцыі.

Гэтая праца мае тры мэты. Першая мэта — растлумачыць прычыны, з якіх посткамуністычныя аўтарытарныя рэжымы ўзнікаюць як больш жыццяздольная альтэрнатыва дэмакратыі, выжываюць на працягу даволі доўгага часу, нягледзячы на эканамічны заняпад і моцны ціск звонку, і ўрэшце знікаюць ці трансфармуюцца. Другая — больш тэарэтычная. Я паспрабую прааналізаваць, як наяўныя тэорыі трансфармацыі палітычных рэжымаў пасуюць да вывучэння ўзнятай праблематыкі і якія існуюць магчымасці для канцэптуальнай і тэарэтычнай інавацыі ў гэтай галіне. Трэцяя мэта — на падставе вопыту Сербіі я паспрабую прааналізаваць магчымыя сцэнары палітычнай трансфармацыі Беларусі ў будучым.

Распачынаецца даследаванне з аналізу фарміравання персаналісцкіх рэжымаў у Сербіі і Беларусі. Ідэнтыфікуючы ключавыя структурныя фактары, якія дазволілі аўтарытарным лідэрам прыйсці да ўлады, я паказваю, як сацыяльна-эканамічныя і культурныя супярэчнасці, што існавалі ў абодвух грамадствах задоўга да пачатку палітычных пераменаў, трансфармаваліся ў палітычныя падзелы і прывялі да сітуацыі, у якой грамадствы былі расколатыя па самых фундаментальных пытаннях,

уключна з пытаннем дэмакратыі. Гэтыя расколы былі ўдала выкарыстаныя Мілошавічам і Лукашэнкам, якія здолелі мабілізаваць грамадскую падтрымку, апелюючы да найбольш кансерватыўных і аўтарытарна настроеных частак грамадства, выкарыстоўваючы тактыку “культурнага” і “сацыяльнага” папулізму. Здольнасць абодвух лідэраў да фарміравання “аўтарытарнай большасці” ў грамадстве была ўзмоцненая расколам у кіраўнічых на той час элітах і самагубнымі палітычнымі стратэгіямі, што былі абраныя прыхільнікамі дэмакратычных пераменаў, якія ці не здолелі эфектыўна супрацьстаяць папулісцкім памкненням пераможцаў у палітычнай барацьбе, ці хоцькі-няхоцькі дапамагалі іх перамозе.

Другая частка гэтай працы прысвечаная аналізу арганізацыі і функцыянавання персаналісцкіх аўтакратый. Паспяховая канцэнтрацыя амаль неабмежаванай асабістай улады адкрыла для абодвух лідэраў магчымасці “перараблення” дзяржаўных інстытутаў на сваё жаданне, фарміравання механізмаў захавання ўлады і будавання адносінаў паміж дзяржавай і грамадствам, што мелі падобныя асноўныя рысы ў дзвюх краінах. Аднак калі механізмы выжывання рэжымаў былі амаль аднолькавыя, дык механізмы функцыянавання мелі пэўныя адрозненні, што тлумачылася розніцай у часе і дынаміцы пераходу ад камуністычнай да посткамуністычнай дыктатуры ў кожнай з краінаў. Неперарыўны пераход ад адной формы недэмакратычнага рэжыму да іншай у Сербіі і паходжанне Мілошавіча з былой партнаменклатуры дазволілі яму зрабіць сваю Сацыялістычную партыю Сербіі (пераемніцу кампартыі) адным з інструментаў улады. Гэта стварыла неабходнасць легітымізацыі партыйнага ўплыву ў новых умовах, а таксама магчымасць выкарыстання больш “цывільных” метадаў кантролю і нават стварэння дэмакратычнага фасаду. Паводле фармальных крытэраў, Сербія ў 1990-х гг. была напаўпрэзідэнцкай рэспублікай, і выжыванне Мілошавіча ў значнай меры залежала ад яго здольнасці да кааліцыйнай тактыкі ў

парламенце. Наадварот, Лукашэнка прыйшоў да ўлады як палітычны аўтсайдэр без трывалых каранёў у кіраўнічай наменклатуры. Яго ўзлёт стаў магчымым дзякуючы "дэмакратычнаму эпізоду" ў беларускай палітыцы ў 1991—1994 гг. У гэтых умовах Лукашэнка мусіў ажыццяўляць кансалідацыю ўлады, уводзячы больш фармалізаваныя механізмы персанальнай прэзідэнцкай улады. Розніца ў арганізацыі палітычных рэжымаў таксама была прадыктавана ўздзеяннем вонкавых фактараў.

Выжываючы ва ўмовах "жорсткай" міжнароднай ізаляцыі, Мілошавіч быў вымушаны адаптавацца да эканамічнага заняпаду шляхам стварэння комплекснага механізму парушэння санкцыяў, што патрабавала ўзнікнення і ўзмацнення "ўнутранага кола" крыміналізаванай алігархіі (партыйная бізнэс-алігархія ў Сербіі пачала паўставаць яшчэ за часамі рынкавага сацыялізму ў "старой" Югаславіі; але ж яе росквіт, безумоўна, прыпаў на часы Мілошавіча). Лукашэнка тым часам меў магчымасць мінімізаваць наступствы мяккай ізаляцыі з боку Захаду шляхам стварэння палітычнага і эканамічнага саюзу з Расіяй, што дазволіла яму працягваць папулісцкую палітыку, ажывіць камандную эканоміку і дасягнуць на пэўны час высокай ступені сацыяльнай стабільнасці.

У трэцяй частцы я аналізую, наколькі стратэгіі дэмакратычнай апазіцыі ў абедзвюх краінах адпавядалі прыродзе палітычных рэжымаў, сацыяльным умовам, у якіх яны функцыянавалі, і ці былі яны сапраўды накіраваныя супраць падмуркаў аўтарытарнай улады. Я зыходжу з таго, што некаторыя фактары — такія, як высокая ступень падтрымкі аўтарытарнай улады грамадствам, сацыяльная і культурная моц аўтарытарных рэжымаў ды іх інстытуцыянальная канструкцыя, — стваралі перад апазіцыяй неабходнасць барацьбы з рэжымамі за грамадскую падтрымку. У той жа час, неабходнасць атрымання "квазідэмакратычнай легітымнасці" Мілошавічам і Лукашэнкам у некаторай ступені адкрывала магчымасці для канкурэнтнай стратэгіі (але не абавязкова

праграмавала яе поспех). Палярна супрацьлеглыя адказы двух апазіцыйных рухаў на выклікі, створаныя рэжымамі Мілошавіча і Лукашэнкі, запраграмавалі іх розныя здольнасці да палітычнага поспеху.

Гэтая розніца праявілася падчас прэзідэнцкіх кампаній 2000 г. у Сербіі і 2001 г. у Беларусі. Аналізу дзвюх кампаній прысвечаная чацвёртая частка. Перамога дэмакратычнай апазіцыі Сербіі не толькі адлюстравала грамадскі попыт на палітычныя перамены, але і з’явілася вынікам “работы над памылкамі”, якую зрабіла сербская апазіцыя пасля дзесяцігоддзя беспаспяховай палітычнай барацьбы. У Беларусі параза апазіцыі была запраграмаваная яе папярэдняй тактыкай палітычнага самазабойства (асноўнымі элементамі якой з’яўляліся ўнутраныя супярэчнасці, сістэматычнае існаванне ў паралельным грамадстве, адмова ад удзелу ў “сістэмнай палітыцы” і няздольнасць улічыць у палітычнай дзейнасці інтарэсы шырокіх грамадскіх колаў, за выключэннем свайго ўласнага). У гэтых умовах беларуская апазіцыя выявілася бездапаможнай перад падвойнай заслонай адміністрацыйнага рэсурсу і грамадскага непрымання, прычым пераадоленне менавіта другога, як паказвае сербскі досвед, з’яўляецца найбольшым выклікам для яе будучых дзеянняў.

Нарэшце, у **Высновах**, базуючыся на выніках аналізу, робіцца спроба абмаляваць некаторыя магчымасці і імаверныя сцэнары палітычнай трансфармацыі ў Беларусі.

# Частка I

## 1. “Выкрадзеная трансфармацыя”: паходжанне аўтарытарнай улады

Палітычныя працэсы, што прывялі да фарміравання аўтарытарных рэжымаў у Сербіі і Беларусі, разгарнуліся ў розныя прамежкі часу і ў рознай паслядоўнасці. “Антыбюракратычная рэвалюцыя” (такую назву атрымала кампанія Мілошавіча, скіраваная супраць найвышэйшага рэспубліканскага і федэральнага кіраўніцтва), што прывяла сербскага прэзідэнта да ўлады, адбылася ва ўмовах аднапартыйнай сістэмы, была распачатая прадстаўніком вышэйшага эшалону наменклатуры (адзначым, аднак, што структура ўлады ў Югаславіі была такой, што кіраўнік рэспубліканскай кампартыі не з’яўляўся фігурай нумар адзін) і прывяла да аднаўлення палітычнай дамінацыі Саюзу камуністаў Сербіі, пазней Сербскай сацыялістычнай партыі, якая перамагла ў першых шматпартыйных выбарах у 1990 г. Лукашэнка пачаў адкрытае змаганне за пасаду прэзідэнта Беларусі ў 1993 г., ужо пасля распаду СССР і знікнення КПСС. Адрозненнем беларускага досведу ад сербскага быў кароткі, але істотны дэмакратычны эпізод, падчас якога краіна жыла ва ўмовах адноснай палітычнай свабоды[5]. Дарма што падзеі жніўня 1991 г. не прывялі да заняпаду старой наменклатуры, асноўным сродкам захавання яе ўлады на працягу трох год было выкарыстанне большасці ў Вярхоўным Савеце. Таксама, хоць беларускі парламент быў абраны ў 1990 г. пры аднапартыйнай сістэме, прадстаўнікі апазіцыі мелі магчымасць удзельнічаць у выбарах у якасці незалежных

5 Паводле ацэнак Freedom House, Беларусь мела ў 1992–1993 гадах адзін з самых высокіх узроўняў палітычных і грамадзянскіх свабод у былым СССР.

кандыдатаў і здолелі заваяваць 37 з 345 месцаў (разам з дэпутатамі, што на пачатку працы парламента ўваходзілі ў дэмакратычны клуб, супольны "апазіцыйны рэсурс" таго парламента дасягаў, а часам і перавышаў 100 галасоў, што прыблізна адлюстроўвала расклад сіл у грамадстве на той час). Менавіта існаванне "дэмакратычнага эпізоду" і, як вынік, аслабленне былой наменклатуры прывялі да таго, што на першых прэзідэнцкіх выбарах перамог аўтсайдэр, які кінуў выклік усёй палітычнай эліце, як дзяржаўнай, так і апазіцыйнай.

Нягледзячы на важныя адрозненні, што існавалі паміж гістарычнымі, сацыяльнымі і культурнымі спадчынамі, з якімі Сербія і Беларусь наблізіліся да посткамуністычнага перыяду свайго існавання, можна выдзеліць і фундаментальныя падабенствы. Яны, на мой погляд, і стварылі ўмовы для фарміравання вельмі падобных адзін да аднаго палітычных рэжымаў у 1990-я гг. Некаторыя з іх стануць зразумелымі, калі прааналізаваць структуру грамадскай падтрымкі абодвух рэжымаў і пабачыць яе поўную ідэнтычнасць у двух выпадках з дыяметральна супрацьлеглай палітычнай спадчынай ад часоў камунізму.

Найбольш абодвух лідэраў падтрымлівалі асобы старэйшага веку, з адукацыяй, ніжэйшай за сярэднюю, жыхары сельскай мясцовасці і нізкакваліфікаваныя работнікі. Сярод маладых, адукаваных гараджан падтрымка была значна меншаю. Болей за тое, звесткі сведчаць, што падтрымка палітычных рэжымаў была шчыльна звязаная з пэўнымі культурнымі каштоўнасцямі, якія самі па сабе былі атрыбутам таго ці іншага сацыяльнага статусу. Прыхільнікі і апаненты двух прэзідэнтаў з'яўляліся ў той жа час носьбітамі супрацьлеглых тыпаў палітычнай культуры: аўтарытарнай і традыцыйнай з аднаго боку, дэмакратычнай і мадэрнізаванай з іншага. "Гледзячы на лічбы, можна прыйсці да высновы, што ў Беларусі жывуць два народы. Іх аб'ядноўвае толькі адно — жабрацтва", — каментаваў сітуацыю ў Беларусі дырэктар незалежнага

аналітычнага інстытута Алег Манаеў[6]. Тое самае можна было сказаць і аб сербскай рэчаіснасці часоў Мілошавіча. Табліцы 1–4 выразна сведчаць пра гэта.

**Табліца 1.** Сацыяльная падтрымка Сацыялістычнай партыі Сербіі па дэмаграфічных, прафесійных, тэрытарыяльных і іншых групах, %

| | **1990** | **1991** | **1992** | **1993** |
|---|---|---|---|---|
| **Кваліфікацыя** | | | | |
| Рабочыя, занятыя ручной працай | 40 | 34 | 36 | 29 |
| Кваліфікаваныя рабочыя | 42 | 36 | 27 | 23 |
| Менеджэры | 46 | 45 | 21 | 26 |
| Спецыялісты | 20 | 19 | 12 | 14 |
| Прыватныя прадпрымальнікі | 16 | 13 | 23 | 12 |
| Сяляне | 50 | 35 | 38 | 57 |
| Іншыя | 37 | 23 | 39 | 36 |
| **Род дзейнасці** | | | | |
| Студэнты | 15 | 20 | 2 | 5 |
| Беспрацоўныя | 25 | 15 | 8 | 9 |
| Сяляне | 51 | 35 | 38 | 53 |
| Занятыя ў прыватным сектары | 17 | 17 | 23 | 12 |
| Занятыя ў грамадскім сектары | 45 | 31 | 15 | 25 |
| Пенсіянеры | 68 | 49 | 50 | 52 |
| Хатнія гаспадыні | 48 | 52 | 40 | 51 |
| **Узровень даходаў** | | | | |
| Высокі | 33 | 23 | 29 | 18 |
| Вышэйшы за сярэдні | 43 | 29 | 23 | 31 |
| Ніжэйшы за сярэдні | 39 | 40 | 31 | 22 |
| Нізкі | 43 | 41 | 31 | 36 |
| **Век** | | | | |
| Да 25 | 22,8 | 11,9 | | |
| 26—45 | 33,3 | 25,2 | | |
| Болей за 46 | 59,4 | 43,3 | | |

6 Манаев О. Электорат Лукашенко: за и против президента // Белорусская деловая газета. 1998. 25 марта.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Рэгіён | | | | |
| Поўнач | 42,5 | 25,5 | 32,7 | |
| Поўдзень | 57,8 | 40,2 | 54 | |
| **Адукацыя** | | | | |
| Ніжэйшая за сярэднюю | 52,3 | | | |
| Сярэдняя | 39,4 | | | |
| Вышэйшая | 21,4 | | | |

Крыніца: Srbobran Brankovic, "Social Class and Political Choice", in *Challenges of Parliamentarism: The Case of Serbia in the Early Nineties*, ed. Vladimir Goati (Belgrade: Institute of Social Science, 1995), p. 69—92.

**Табліца 2.** Сацыяльна-эканамічная структура электарату Лукашэнкі, %

| | Галасавалі б за Лукашэнку, калі б прэзідэнцкія выбары адбыліся заўтра, чэрвень 1997 г.* | Жадалі пераабрання Лукашэнкі на новы тэрмін, красавік 2001 г.** |
|---|---|---|
| **Усяго** | 45,4 | 36 |
| **Пол** | | |
| Мужчыны | 39,8 | н/з |
| Жанчыны | 50,2 | н/з |
| **Век** | | |
| 16—19 | 31,7 | 12,7 |
| 20—24 | 30,4 | 14,9 |
| 25—30 | 19,7 | 14,1 |
| 30—39 | 29,3 | 23,4 |
| 40—49 | 40,1 | 33,5 |
| 50—59 | 48,6 | 33,5 |
| 60 і болей | 81,7 | 60,9 |
| **Адукацыя** | | |
| Пачатковая | 88,2 | 67,0 |
| Сярэдняя | 54,3 | 43,0 |
| Сярэдняя спецыяльная | 35,6 | 26,1 |

| | | |
|---|---|---|
| Тэхнікум | 34,3 | 30,1 |
| Вышэйшая, студэнты | 24,6 | 23,8 |
| **Род заняткаў** | | |
| Менеджэры | 21,6 | н/з |
| Спецыялісты | 29,4 | н/з |
| Дзяржаўныя служачыя | 31,4 | н/з |
| Кваліфікаваныя рабочыя | 32,6 | н/з |
| Некваліфікаваныя рабочыя | 46,7 | н/з |
| Пенсіянеры | 77,9 | 58,6 |
| Студэнты | 32,9 | 8,0 |
| Хатнія гаспадыні | 46,1 | 24,2*** |
| Беспрацоўныя | 30,3 | |
| Занятыя ў дзяржаўным сектары | н/з | 27,6 |
| Занятыя ў прыватным сектары | н/з | 19,3 |
| **Месца жыхарства** | | |
| Менск | 17,5 | 24,6 |
| Абласныя цэнтры | 35,8 | 34,4 |
| Вялікі горад | 38 | 22,0 |
| Малы горад | 40,2 | 38,0 |
| Вёска | 69,9 | 41,8 |
| **Вобласць** | | |
| Менская | 50,0 | 32,5 |
| Берасцейская | 46,5 | 40,5 |
| Гарадзенская | 36,1 | 27,9 |
| Гомельская | 54 | 44,3 |
| Віцебская | 52,8 | 29,3 |
| Магілёўская | 64,1 | 39,0 |

Крыніца:* Манаев Олег. Электорат Александра Лукашенко // Белоруссия и Россия: Общества и Государства. Москва: Права

человека, 1998. С. 278—295.
** Новости НИСЭПИ, №2(20). 2001. С. 24—25.
*** Хатнія гаспадыні і беспрацоўныя былі аднесеныя ў гэтым апытанні да адной катэгорыі.

**Табліца 3.** Каштоўнасныя арыентацыі партыйных электаратаў у Сербіі, 1992: Сацыялістычная партыя Сербіі (СПС) С. Мілошавіча, Сербскі рух аднаўлення (СРА) В. Драшкавіча, Дэмакратычная партыя (ДП) З. Джынджыча, Дэмакратычная партыя Сербіі (ДПС) В. Каштуніцы, Сербская радыкальная партыя (СРП) В. Шэшаля, %

| | СПС | СРА | ДП | ДПС | СРП |
|---|---|---|---|---|---|
| Сіндром настальгіі | 72 | 9 | 21 | 15 | 29 |
| Мадэрнізм / традыцыяналізм | 13/32 | 53/6 | 67/7 | 73/5 | 9/48 |
| Гіперпатрыятызм (Ліст. 1993) | 62 | | 15 | 14 | 84 |
| Талерантнасць / неталерантнасць | 3/71 | 35/41 | 30/37 | 58/19 | 7/82 |
| Лібералізм / кансерватызм | 17/83 | 70/30 | 78/22 | 71/29 | 32/68 |
| Давер да дзяржаўных інстытутаў (Ліст. 1993) | 41 | — | 6 | 2 | 4 |
| Давер да пануючага рэжыму (Трав. 1993) | 88 | 6 | 6 | 4 | 45 |

Крыніца: Dragomir Pantic, “Voters’ Value Orientations,” in *Challenges of Parliamentarism: The Case of Serbia in the Early Nineties*, ed. Vladimir Goati (Belgrade: Institute of Social Science, 1995), P. 93—140.

**Табліца 4.** Сацыяльны статус і каштоўнасныя арыентацыі электарату Лукашэнкі ў Беларусі, %

| | Усяго | Галасавалі б за Лукашэнку з гэтай групы |
|---|---|---|
| Усё насельніцтва | 100 | 45 |

| Узровень даходаў | | |
|---|---|---|
| Беднасць | 22,3 | 52,5 |
| Ніжэйшы за сярэдні | 39,0 | 44 |
| Сярэдні | 36,6 | 43,2 |
| Вышэйшы за сярэдні і высокі | 2,0 | 34,5 |
| Падтрымка планавай эканомікі | 30,3 | 66,6 |
| Падтрымка рынкавай эканомікі | 30,4 | 19,9 |
| Перавага нізкім цэнам і дэфіцыту | 19,4 | 68,3 |
| Перавага высокім цэнам і наяўнасці тавараў | 77,9 | 39,7 |
| Адмоўнае стаўленне да прыватнага прадпрымальніцтва | 38,6 | 58 |
| Дадатнае стаўленне да прыватнага прадпрымальніцтва | 32,6 | 30,2 |
| За суверэнітэт Беларусі | 85,4 | 44,1 |
| Супраць суверэнітэту Беларусі | 12,8 | 59,6 |
| За далучэнне да Расіі ў якасці рэгіёна | 16,3 | 61,4 |
| Супраць далучэння да Расіі ў якасці рэгіёна | 41,4 | 34,6 |
| NATO нясе пагрозу Беларусі | 31,2 | 55,9 |
| NATO не нясе пагрозы Беларусі | 20,1 | 20,8 |
| У благім жыцці вінаватыя ўнутраныя і вонкавыя ворагі | 13,7 | 70,4 |
| У благім жыцці вінаваты ўрад | 69,8 | 41,2 |

Крыніца: Манаев Олег. Электорат Александра Лукашенко // Белоруссия и Россия: Общества и государства. Москва: Права человека, 1998. С. 278–295.

Такое падабенства можна растлумачыць толькі наступствамі позняй і імклівай эканамічнай ды сацыяльнай мадэрнізацыі, што адбылася ў другой палове XX ст. У адрозненне ад больш працяглай, паступовай і роўнай (якая закранала ўсе бакі грамадства) мадэрнізацыі, што адбылася ў заходніх краінах, падобны тып эканамічнага развіцця не прывёў да аўтаматычнага ўзнікнення сацыяльных варункаў, якія спрыялі б фарміраванню перадумоваў дэмакратыі. Грамадствы трансфармаваліся

такім чынам, што традыцыйныя сацыяльныя адносіны руйнаваліся ў тых галінах, дзе мадэрнізацыя ішла наперад, і захоўваліся нязменнымі там, дзе яна не паспявала закрануць жыццё. Такім чынам, наступствам няроўнай мадэрнізацыі было ўзнікненне каласальнага разрыву ў ладзе жыцця, арыентацыях і каштоўнасцях паміж горадам і вёскай, а таксама паміж меншасцю карэнных гараджан і большасцю новапрыбылых з вёскі “гарадскіх сялян” (гараджан у першым пакаленні з сельскай ментальнасцю), паміж маладым і старэйшым пакаленнямі ды паміж рэгіёнамі, што больш ці менш знаходзіліся пад уплывам мадэрнізацыйных/вестэрнізацыйных плыняў (у Сербіі гэта прывяло да палітычнага падзелу на “прагрэсіўную” поўнач і “рэакцыйны” поўдзень, у Беларусі — да адпаведнага падзелу на захад і ўсход). Заўважым, аднак, што самы істотны палітычны разлом у абодвух грамадствах праходзіў па мяжы пакаленняў.

## 2. Гістарычнае ўзнікненне сацыяльных разломаў у двух грамадствах

Абедзве краіны наблізіліся да перыяду палітычнай трансфармацыі з глыбокім (і які ўсё паглыбляўся) крызісам нацыянальнай самаідэнтыфікацыі. Хаця гэты крызіс і меў дыяметральна супрацьлеглыя прычыны і формы, ён усё ж выклікаў вельмі падобныя ўнутрыпалітычныя (у адрозненне ад замежнапалітычных) наступствы для двух грамадстваў. Калапс федэральнай дзяржавы ў былой Югаславіі прывёў да ўзнікнення фундаментальных супярэчнасцяў паміж "дэмасам сербскай нацыі" (што ўключаў у сябе сербаў па ўсёй тэрыторыі СФРЮ) і "дэмасам сербскай дзяржавы" ў форме Рэспублікі Сербіі (які быў выключна поліэтнічны з вялікімі нацыянальнымі меншасцямі, што, дарэчы, мелі шырокую аўтаномію за камуністычнымі часамі). Гэты крызіс прывёў да неабходнасці перавызначэння "Сербіі" і "сербскасці", якое ў крайняй форме вяло да канфлікту з настолькі ж радыкальнымі нацыянальнымі і тэрытарыяльнымі прэтэнзіямі з боку іншых нацый былой Югаславіі і да этнічных канфліктаў унутры самой Сербіі. У Беларусі прычынай крызісу стаў нізкі ўзровень нацыянальнай самасвядомасці грамадства, што пасля распаду СССР прывяло да надзвычай нізкага ўзроўню лаяльнасці да новай дзяржавы і мінімальнага пачуцця адзінства, неабходных для таго, каб даць старт дэмакратычнай трансфармацыі грамадства. Аднак важнай акалічнасцю з'яўляецца тое, што з розных прычынаў і ў Сербіі, і ў

Беларусі адсутнічала супольнае, прынятае пераважнай большасцю грамадства вызначэнне нацыянальнай ідэнтыфікацыі ды яе палітычная, гістарычная і культурная інтэрпрэтацыя (зазначым, што ані гіпернацыяналізм у Сербіі, ані поўнае непрыманне нацыяналізму ў Беларусі не падзяляліся ўсім грамадствам). Неабходнасць перавызначэння саміх сябе ва ўмовах расколу прыводзіла да "культурных войнаў" унутры самой тытульнай нацыі. Гэтыя войны маглі быць "гарачыя" ці "халодныя", але іх сутнасцю было адно і тое ж: палітыкі атрымлівалі магчымасць маніпуляваць распаўсюджанымі ў часткі грамадства каштоўнасцямі і ідэнтычнасцю, каб прывязаць да іх сваю спецыфічную палітычную ідэалогію, легітымізаваць свае палітычныя амбіцыі, а пры патрэбе і палітыку, што накіроўвалася на маргіналізацыю ці дыскрымінацыю культурных ці палітычных меншасцяў. Ва ўмовах, калі палярныя ідэнтыфікацыі (ці інтэрпрэтацыі адной і той жа ідэнтыфікацыі, напрыклад, не толькі "ці з'яўляюся я сербам або беларусам", але і "што ў палітычным сэнсе значыць быць сербам або беларусам") належалі да групаў, падзеленых вышэйазначанымі сацыяльнымі чыннікамі, імавернасць разгортвання аўтарытарнымі апартуністамі "культурных войнаў" была надзвычай высокай.

Афіцыйная ідэалогія цітаўскай Югаславіі спалучала камуністычную дактрыну ў яе "мяккай форме" з "мадэрнізатарскім" бачаннем федэральнай дзяржавы і новага поліэтнічнага грамадства (мадэрнізацыяй у галіне нацыянальнай палітыкі, камуністычнай лібералізацыяй, адкрытасцю Захаду, схільнасцю да рынкавых эксперыментаў у эканоміцы і інш.). Грунтуючыся на традыцыях антыфашысцкага партызанскага супраціву часоў Другой сусветнай вайны, нацыянальная дактрына Ціта рабіла акцэнт на ідэях "братэрства і адзінства", якія супрацьстаялі спадчыне этнічных войнаў і канфліктаў на Балканах. Палітычнай канструкцыяй, што адпавядала такой ідэалогіі, была камбінацыя неабмежаванай персанальнай улады самога Ціта і старанна

падтрымліванага балансу сілаў і інтарэсаў паміж рознымі рэспублікамі ды этнічнымі групамі, у якім Сербія магла лічыцца метраполіяй толькі вельмі ўмоўна. Пасля смерці Ціта асноўным апанентам ягонай дактрыне стаў сербскі нацыяналізм, які жывіўся тэзісам аб дыскрымінацыі сербаў у камуністычнай Югаславіі. Кульмінацыяй выкліку стала публікацыя ў 1986 г. мемарандуму Сербскай акадэміі навук і мастацтваў. Занепакоенасць пераследам этнічных сербаў у Косаве трансфармавалася ў ім у заклік да стварэння новай "сербскай нацыянальнай праграмы", што мусіла прывесці да кансалідацыі адзінай сербскай этнічнай бацькаўшчыны. Сербская гісторыя інтэрпрэтавалася як чарада пакутаў, ахвяраў і чужаземнага гвалту, а федэральны праект — як частка стратэгіі іншародных сілаў па знішчэнні сербскай нацыі. Гэты выклік афіцыйнай ідэалогіі прывёў да вяртання ў сербскі палітычны дыскурс "нацыянальнага традыцыяналізму", угрунтаванага на сукупнасці каштоўнасцяў і стэрэатыпаў, якія можна апісаць як "патрыярхальны патрыятызм". Ён ідэалізаваў базавыя рысы сербскасці, патрыярхальную сацыяльную арганізацыю на вёсцы — традыцыйную сістэму грамадаў, а таксама каштоўнасці сацыяльнага канфармізму, эгалітарызму і неабмежаванай лаяльнасці да палітычных лідэраў[7]. У гэтай трактоўцы сапраўдная Сербія захоўвалася ў вёсках, тады як Бялград і іншыя мадэрнізаваныя гарады былі папросту "заходнімі шлюхамі"[8].

Асноўнай ідэалагічна-культурнай лініяй разлому, якая абумовіла палітычныя падзелы ў Беларусі, стала супрацьстаянне "нацыянальна-дэмакратычнага дыскурсу" з "расійскім" і "савецкім кансерватызмам" — гэтых дзвюх сістэм мыслення і самавызначэння. "Нацыянальна-дэмакратычны" дыскурс будуецца на бачанні цяперашняй Беларусі як гістарычнай спадкаемцы Вялікага Княства Літоўскага, якое разглядаецца як прататып беларускай

7 Lenard Cohen. Serpent in the Bosom: The Rise and Fall of Slobodan Milosevic. Westview Press: 2000. P. 82—85.

8 Eric Gordy. The Culture of Power in Serbia: Nationalism and the Destruction of Alternatives. Pennsylvania State University Press, 1999.

дзяржавы, і Беларускай Народнай Рэспубліకі, крыніцы сучаснай нацыянальнай дзяржаўнасці. Беларусь прызнаецца неад'емнаю часткай заходняй цывілізацыі, што было парушана напрыканцы XVIII ст. яе анексіяй Расійскай імперыяй. Гэтая трагічная падзея прывяла да сыходу з еўрапейскага шляху развіцця, да разбурэння асноваў дзяржаўнасці і нацыі, яе мовы, культуры і нацыянальнай эліты. Беларуская нацыянальная праграма ўключае ў сябе не толькі дасягненне незалежнасці, але і дэрусіфікацыю — як палітычную, так і культурную.

Расійскі ж дыскурс разглядае Беларусь як неад'емную частку трыадзінства Вялікае, Малое і Белае Русі. Ён адмаўляе ў праве на існаванне Беларусі не толькі як самастойнай дзяржавы, але і як нацыі, "штучнае" ўзнікненне якой было выклікана шэрагам трагічных гістарычных абставінаў[9].

"Савецка-беларускі" дыскурс займае сярэднюю пазіцыю паміж двума антаганістычнымі. Ён, з аднаго боку, прыхільна ставіцца да ідэі "трыадзінага славянскага народа", з іншага, ён прызнае абмежаванае права Украіны і Беларусі на дзяржаўнасць і культурна-моўную адметнасць. Чаму беларусаў часта называюць "самымі савецкімі" з усіх народаў былога СССР? Акрамя палітыкі сістэматычнай русіфікацыі і знішчэння нацыянальнай эліты, забыцця традыцый нацыянальнай дзяржаўнасці і еўрапейскай спадчыны ў масавай свядомасці, адыграў ролю і той факт, што савецкая прапаганда паспяхова ператварыла сваю ідэалогію ў сурагат нацыянальнага светапогляду. Савецкі рэжым, па-першае, падаў сябе стваральнікам беларускай дзяржаўнасці ў форме БССР у 1919 г. і аб'яднальнікам нацыі ў выніку падзеяў 1939 г. Па-другое, ён выпрацаваў свой уласны гістарычны міф аб партызанскай барацьбе за часамі Другой сусветнай вайны як нацыянальна-вызваленчым руху[10]. Па-трэцяе, ён падкрэсліваў сваю ролю

9 Сергеев Н., Фадеев А. Анатомия Союза России и Белоруссии // Независимая газета. 1998. №8.

10 "Партызаны і вызваліцелі-чырвонаармейцы запоўнілі ролю адсут-

ў імклівым эканамічным развіцці і мадэрнізацыі беларускага грамадства ў часы пасляваеннай індустрыялізацыі. Такім чынам, савецкая міфалогія адлюстроўвала гістарычную памяць да- і паваенных генерацый, што к сярэдзіне 1990-х склалі асноўную частку беларускага электарату, і прывяла да ўзнікнення ў постсавецкі час "савецкага кансерватызму". Варожае стаўленне значнай часткі беларускага грамадства да нацыянальна-дэмакратычнай ідэалогіі не азначае, што ў яе цалкам адсутнічае беларуская самасвядомасць. Як адзначае заходняя даследчыца, "не выклікае здзіўлення, што шматлікія заходнія назіральнікі трапілі пад уплыў памылковага меркавання, нібыта беларусы лічаць сябе расійцамі. Гэта не так, але справа ў тым, што шмат хто з іх не ведае, што значыць быць беларусам па-за савецкім кантэкстам"[11].

Супярэчлівыя і канкурэнтныя інтэрпрэтацыі нацыянальнай ідэнтычнасці і гісторыі палярызавалі грамадствы прыкладна па тых жа лініях, што і сацыяльна-эканамічныя фактары. Мадэрнізавальны югаславізм у Сербіі закрануў пераважна буйныя гарады і асяродкі, дзе пражывалі этнічныя меншасці. Наступствы сістэматычнай русіфікацыі ў XIX—XX ст. і адсутнасць памяці пра ўласную дзяржаўнасць у масавай свядомасці не дазволілі нацдэмаўскай ідэалогіі ў Беларусі стварыць моцную канкурэнцыю "савецкаму" дыскурсу ў якасці асновы нацыянальнага светаўспрымання. За выключэннем асобных рэгіёнаў на паўночным захадзе Беларусі, дзе захавалася беларуская мова і ў значнай ступені нацыянальная самасвядомасць, нацдэмаўскі дыскурс знайшоў наступнікаў хіба што ў асяроддзі адукаванай моладзі ў той ступені, у якой беларускі нацыяналізм адпавядаў іх памкненням да рэформаў і еўрапеізацыі.

Супадзенне сацыяльнага і культурнага падзелаў дазволілі

ных у масавай свядомасці нацыянальных герояў з беларускай гісторыі, і гэта, у сваю чаргу, падштурхнула працэс фарміравання нацыянальнай ідэнтычнасці на масавым узроўні". Michalisko K. Op. cit. P. 223.

11 Michalisko K. Op. cit. P. 236.

Мілошавічу і Лукашэнку мабілізаваць грамадскую падтрымку на платформе, якая спалучала "культурны" і "сацыяльны" папулізм. Абодва лідэры здолелі такім шляхам заваяваць падтрымку пераважна сярод сялян старэйшага веку, што на доўгія гады ўтварылі іх "жорсткія" электараты, а таксама, асабліва на пачатку палітычных кар'ер, узмацніць сваю сацыяльную базу за кошт "гарадскіх сялян", якія таксама вылучаліся схільнасцю да аўтарытарнай палітыкі і палітыкаў. "Сацыяльны" папулізм даў магчымасць простага і зразумелага тлумачэння прычын эканамічных і палітычных крызісаў, што апанавалі краіны ў выніку краху старой сістэмы (звычайна роля "ахвярнага казла" адводзілася старым бюракратычным элітам), і каналізацыі грамадскай незадаволенасці (якая ў дзвюх краінах падчас прыходу да ўлады адпаведна Мілошавіча і Лукашэнкі была надзвычай высокай) супраць дэмакратычных пераменаў, а не на іх карысць. "Культурны" папулізм заключаўся ў маніпуляцыі калектыўнай памяццю і масавымі каштоўнасцямі дзеля стварэння надзвычай палітызаванага "маральнага коду" грамадства, вылучэння ўнутраных і вонкавых ворагаў, легітымізацыі палітычных мэтаў асобных дзеячоў як мэтаў калектыўных і прызначэння іх выразнікамі калектыўнай волі.

Культурны папулізм быў асноўнай палітычнай зброяй Мілошавіча. Яго ператварэнне з лаяльнага цітаўца ў часы панавання старой сістэмы ў галоўнага сербскага нацыяналіста адбылося 24 красавіка 1987 г. у Косаве, куды ён прыехаў як лідэр сербскіх камуністаў. Мітынг пратэсту сербскай меншасці супраць уціску з боку албанцаў каля будынка, дзе Мілошавіч трымаў нараду, выліўся ў сутыкненні між дэманстрантамі і мясцовай, пераважна албанскай, паліцыяй. Умяшальніцтва Мілошавіча ў сутыкненне на баку сербаў, яго словы "ніхто не мае права біць вас" сталі легендарнымі сярод сербаў усёй Югаславіі, якія пачалі бачыць у ім новага лідэра і надзею на бяспеку ва ўз'яднанай бацькаўшчыне. Пасля вяртання з Косава Мілошавіч склікаў пленум Саюза камуністаў Сербіі, на якім заявіў, што "пытанне Косава — гэта ўжо

не палітычнае пытанне, гэта пытанне жыцця ці смерці бацькаўшчыны”[12]. Узяўшы за ідэалагічную аснову мемарандум Сербскай акадэміі навук, Мілошавіч пачаў кампанію мабілізацыі масавай падтрымкі на платформе ўтварэння “адзінай дзяржавы, у якой будуць жыць усе сербы”. Яго антыалбанская і антыцітаўская кампанія ажыццяўлялася праз масавыя мітынгі, якія атрымалі назву “народных святаў”. Такія мітынгі, у якіх за 1987–1989 гг. узялі ўдзел не меней за паўтара мільёна чалавек, часцяком сканчаліся пагромам сялібаў не ўпадабаных Мілошавічам мясцовых кіраўнікоў і партыйных камітэтаў (асабліва часта гэта здаралася ў аўтаномных правінцыях, дзе Мілошавіч не меў фармальнага права мяняць кіраўніцтва). Гэтая кампанія таксама адлюстроўвала “сацыяльны” папулізм мабілізацыі паводле Мілошавіча, які, нагадаем, называў сваю кампанію “антыбюракратычнай рэвалюцыяй”. Яго крытыка цітаўскага эканамічнага і палітычнага ладу старанна скіроўвалася супраць вышэйшага федэральнага і мясцовага (але не сербскага) кіраўніцтва, якое абвінавачвалася ў тых самых грахах, што і партнаменклатура ва ўсім посткамуністычным рэгіёне (зажраліся, абраслі прывілеямі, адарваліся ад народа), але з іншым падтэкстам: рэгіянальныя і федэральныя апаратчыкі абвяшчаліся ворагамі сербскай нацыі.

У адрозненне ад Мілошавіча, асноўным палітычным метадам Лукашэнкі ў барацьбе за ўладу быў сацыяльны папулізм. Прызначаны ў 1993 г. кіраўніком парламенцкай камісіі па барацьбе з карупцыяй, ён скарыстаўся з росту незадаволенасці эканамічным крызісам, што напаткаў Беларусь пасля распаду СССР. На новай пасадзе Лукашэнка сканцэнтраваў сваю дзейнасць на барацьбе супраць усёй палітычнай эліты, што сфарміравалася пасля перабудовы. Паваротным момантам у яго кар’еры быў выступ перад парламентам 14 снежня 1993 г., у якім ён абвінаваціў усіх дзеючоў урада і парламенцкай апазіцыі ў карумпаванасці. Лукашэнка здабыў сабе імідж

12 Robert Thomas. The Politics of Serbia in the 1990s. Columbia University Press: 1999. P. 44.

“народнага Робін Гуда”, які ў адзіночку змагаецца супраць прадажнай дзяржаўнай бюракратыі і мафіі. Праз некалькі дзён невядомы правінцыйны палітык ператварыўся ў нацыянальнага героя. Праз некалькі месяцаў ён трыумфальна выйграў прэзідэнцкія выбары, праўда, у другім туры. Культурны папулізм, аднак, таксама быў важнай часткай лукашэнкаўскай палітычнай стратэгіі. Ён матэрыялізаваўся ў палітыцы рэсаветызацыі Беларусі (у сімвалічным, а не палітычным сэнсе) і вяртанні той самай канцэпцыі і бачання нацыі, народа, гісторыі, ворагаў ды сяброў, што дамінавалі ў масавай свядомасці. Цікава, што па вяртанні БССРаўскага сцяга і герба ў якасці дзяржаўнай сімволікі Лукашэнка звярнуўся да сваіх самых верных паплечнікаў — да ветэранаў, абʼявіўшы, што ён вярнуў на самай справе іх годнасць і ідэнтычнасць: “Мы вярнулі вам сцяг дзяржавы, за якую вы змагаліся. Мы вярнулі вам памяць і сэнс чалавечай годнасці”[13]. Лукашэнка працягваў усталяванне сімвалічнай сувязі паміж сваёй уладай і савецкай спадчынай, абвясціўшы (праз рэферэндум) 3 ліпеня, дзень вызвалення Менска ад нямецкай акупацыі, Днём незалежнасці Беларусі.

Нягледзячы на ўсю розніцу ў кантэксце, Мілошавічаў нацыяналізм і Лукашэнкава саветызацыя мелі падобныя палітычныя вынікі. Па-першае, абедзве стратэгіі легітымізавалі лідэраў, прывязваючы іх да каштоўнасцяў, стэрэатыпаў і памяці сваіх прыхільнікаў у грамадстве, праводзячы выразную лінію паміж “сваімі” і “чужымі”. Па-другое, нацыянальны традыцыяналізм у Сербіі і савецкі кансерватызм у Беларусі звязвалі ідэнтыфікацыю з канкрэтнай палітычнай платформай, фармулюючы асноўныя прыкметы “серба” і “савецкага беларуса” ў тэрмінах, не сумяшчальных з прынцыпамі дэмакратыі, якая абʼяўлялася канцэпцыяй разбуральнай, чужароднай і навязанай звонку, пераважна сіламі, што неслі адказнасць за гістарычныя пакуты абодвух народаў. Быць супраць Мілошавіча ў Сербіі азначала быць паплечнікам албанцаў,

13 Лукашэнка А. Выступ перад ветэранамі // Советская Белоруссия. 1996. 8 мая.

харватаў, ЗША, Ватыкана, Германіі, Турцыі, сусветнага габрэйства і г. д. (камбінацыя па патрэбе)[14]. Лукашэнка, са свайго боку, увесь час называў сваіх апанентаў фашыстамі, такім чынам выкарыстоўваючы глыбокую гістарычную траўму свайго народа, пакінутую ў спадчыну Другой сусветнай вайной. Этнічныя войны на Балканах Мілошавіч атаясамліваў з гістарычнай бітвай на Косавым полі ў 1389 г. (у якой, дарэчы, албанцы ваявалі на баку сербаў), тады як Лукашэнка выкарыстоўваў істэрыю вакол пашырэння NATO на ўсход, параўноўваючы яе з гітлераўскім Drang nach Osten (зноў-такі забыўшыся, што большасць сучасных сяброў NATO былі партнёрамі СССР па антыгітлераўскай кааліцыі). Косава і Брэсцкая крэпасць, магутныя сімвалы ў палітычных дыскурсах дзвюх краінаў, выкарыстоўваліся як гістарычныя прыклады супраціву заходняй цывілізацыі (недарэчнасці такіх інтэрпрэтацый можна пакінуць на сумленні тых, хто імі карыстаўся). Па-трэцяе, абодва лідэры выкарыстоўвалі традыцыі патэрналізму ў адносінах паміж дзяржавай і грамадствам, што падмацоўваліся ўведзенымі імі палітычнымі дыскурсамі, і часцяком ідэнтыфікавалі сябе з культавымі гістарычнымі фігурамі. Калі для Мілошавіча гэта быў цар Лазар, правадыр сербаў пад Косавам, то для Лукашэнкі — Пятро Машэраў. Эксплуатацыя патэрналізму, па-чацвёртае, спрыяла апраўданню палітыкі, накіраванай на гамагенізацыю грамадства, г. зн. на уніфікацыю каштоўнасцяў і інтарэсаў ды адмаўленне ў праве на індывідуальную свабоду і думку, а таксама ў праве на самаарганізацыю грамадства, паколькі любы палітычны пасярэднік паміж лідэрам і масамі трактаваўся як чужародны элемент.

---

14 Тыповае выказванне праўрадавай газеты аб апазіцыйным лідэры за часамі Мілошавіча: "Слухаеш выступ сп. Драшкавіча, а здаецца, што чуеш сп-ню Олбрайт (дзяржсакратара ЗША) ці сп. Сораса, сп. Мока (міністра замежных справаў Аўстрыі), Ізэтбегавіча (прэзідэнта Босніі) ці Туджмана (прэзідэнта Харватыі)... Мы мяркуем, што дзяржава мае ўладу і сродкі, каб абараніць сваю годнасць і годнасць грамадзян ад НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ПАРАЗІТАЎ" (вялікімі літарамі як у арыгінале. — Аўт.) Цытавана па: Gordy E. Op. cit. P. 76.

Папярэдні аналіз прыводзіць да высновы, што ў абедзвюх краінах існавалі сацыяльныя перадумовы для аўтарытарнага посткамуністычнага развіцця. Яно, аднак, ні ў якім разе не было запраграмавана ў той форме, у якой адбылося. Так, напрыклад, раскол і палярызацыя грамадства азначае існаванне сацыяльнай базы для альтэрнатыўных варыянтаў палітычнага развіцця. Безумоўна, што і ў Сербіі, і ў Беларусі сфарміраваліся значныя сегменты грамадства, якія адрозніваліся непрыманнем аўтарытарнай палітыкі. Гэтыя сегменты, аднак, не былі дастаткова вялікімі на пачатку 1990-х, каб прадухіліць пазнейшы ход падзеяў. Да таго ж яны былі і менш аднароднымі параўнальна з электаратам аўтарытарных палітыкаў. У той жа час дэмакратычныя палітычныя эліты не адрозніваліся воляй да кансалідацыі і пабудовы шырокіх кааліцый альбо не мелі адпаведнага досведу, як выкарыстоўваць грамадскі патэнцыял дзеля здабыцця палітычнай перавагі. Аднак прыклад некаторых пераходных краінаў з падобнымі “структурнымі” і “культурнымі” падзеламі сведчыць, што аўтарытарнага папулізму можна было пазбегнуць пры ўмове кампрамісаў паміж палітычнымі элітамі ці праз палітычную стратэгію, што мінімізавала б культурныя падзелы ў грамадстве. Напрыклад, параўноўваючы палітычныя працэсы ў былой Югаславіі і былым СССР, можна прыйсці да высновы, што распад Савецкага Саюза (я не кранаю чачэнскай вайны і інш.: важна тое, што аналагам сербска-харвацкага канфлікту на Балканах магла быць вайна Расіі і Украіны, а баснійскай вайны — татальны ўзброены канфлікт у Сярэдняй Азіі, уключаючы Казахстан і Узбекістан) адбыўся адносна мірна пераважна праз тое, што падчас падзеяў 1990—1991-га палітычныя эліты ў Расіі здолелі нейтралізаваць этнічны расійскі нацыяналізм, які ўжо пачалі выкарыстоўваць камуністычныя сілы ў спробе прадухіліць развал Саюза.

Успомнім, што менавіта ў той час намаганнямі праельцынскіх элітаў паўстала вызначэнне “расіяне”, якое, у адрозненне ад “расійцаў” (русских), уключала ў

сябе ўсіх жыхароў Расійскай Федэрацыі, але не расійцаў Украіны ці Прыбалтыкі. Палітыка тэрытарыяльнай экспансіі была на нейкі час дэлегітымізавана, і гэта паспела адбыцца яшчэ да таго, як імперскія настроі пачалі зноў узмацняцца; СССР паспеў знікнуць адносна мірна. У гэтай сувязі цікава прасачыць, як па-living рознаму фармуляваўся палітычны дыкурс у Расіі і Сербіі. Так, сербскі нацыяналізм актыўна культываваў падзел на дэнацыяналізаваных "сербіянцаў" (srbjanci, аналаг "расіянаў"), што жылі ў Рэспубліцы Сербіі, і сапраўдных "сербаў" з Босніі, Харватыі і Косава, што неслі ў сабе аўтэнтычныя нацыянальныя рысы і дух[15]. Цікава таксама параўнаць посткамуністычныя палітычныя траекторыі Беларусі і Украіны. Фарміраванне нацыянальнай дзяржавы і больш трывалых дэмакратычных інстытутаў у паўднёвай суседкі Беларусі таксама ішло ў падобных палітычных і культурных умовах[16]. Там, аднак, недахоп нацыяналізму быў кампенсаваны кампрамісам сярод палітычных элітаў, што дазволіла заблакаваць магчымасці палітычнымі і інстытуцыянальнымі сродкамі змяніць статус-кво, які склаўся пасля 1991 г. (маецца на ўвазе больш дэцэнтралізаваная канцэнтрацыя ўлады праз увядзенне напаўпрэзідэнцкай рэспублікі і адмова ад палітычнай практыкі паводле прынцыпу "пераможца забірае ўсё"). У Беларусі падобнага міжэлітнага кампрамісу не адбылося, наступствам чаго стала сама магчымасць прыходу Лукашэнкі да ўлады.

Падсумоўваючы, можна прыйсці да высновы, што галоўнымі фактарамі, якія абумовілі фарміраванне

15 Гл. Thomas R. Op. cit.

16 Як гэта ні дзіўна, але, нягледзячы на відавочна больш высокі ўзровень нацыянальнай самасвядомасці ўкраінскага грамадства, грамадскі энтузіязм наконт палітычнай незалежнасці ніколі значна не перавышаў таго ўзроўню, што існаваў у Беларусі. Нагадаем, што на рэферэндуме 1991 г. каля 70% украінцаў (і 82% беларусаў) галасавалі за саюз. У 1994 г. геапалітычныя арыентацыі ўкраінскага і беларускага насельніцтва выглядалі прыкладна аднолькава. І нават у 2001 г. больш за палову ўкраінцаў станоўча ставіліся да ідэі далучэння да саюзу Расіі і Беларусі. Як мы бачым, нацыянальны праект ва Украіне рэалізаваўся больш элітным, чым грамадскім шляхам.

канкрэтнай формы аўтарытарнага праўлення ў межах тых магчымасцяў, якія адкрывалі сацыяльныя фактары, былі, па-першае, канфрантацыя паміж асноўнымі палітычнымі элітамі, што на нейкі перыяд стварыла “вакуум улады” ў абодвух выпадках, і, па-другое, самагубчыя палітычныя стратэгіі асноўных апанентаў Мілошавіча і Лукашэнкі.

## 3. Мілошавіч і Лукашэнка — палітычныя апартуністы

На пачатку “антыбюракратычнай рэвалюцыі” Мілошавіча, у 1987 г., праз паноўную камуністычную наменклатуру пралёг глыбокі раскол. Адна яе частка трымалася старых цітаўскіх прынцыпаў федэралізму. Новая ж плынь была гатовая выкарыстаць сербскі нацыяналізм, каб прадухіліць распад дзяржавы і крах сістэмы. Ніводная з гэтых плыняў не мела свайго яўнага лідэра — гэта было важнай акалічнасцю. У тых умовах Мілошавіч актыўна ангажаваў абодва бакі, папераменна пазіцыянуючы сябе то як вернага цітаіста (менавіта ён калісьці назваў сербскі нацыяналізм “змяёю ў жываце” свайго народа), то як зацятага сербскага нацыяналіста, то як рэфарматара (у свой час за Мілошавічам, што меў вялікі досвед гаспадарчае працы і нават быў прадстаўніком найбуйнейшага югаслаўскага банку ў Нью-Йорку, замацавалася мянушка “балканскі Гарбачоў”), то як самага цвердалобага артадокса. (Як сведчаць некаторыя з удзельнікаў тагачаснага палітычнага працэсу ў Сербіі, Мілошавіч пачаў мэтанакіравана планаваць сваё ператварэнне ў сербскага нацыяналіста яшчэ ў сярэдзіне 1980-х, калі ён, хутчэй за ўсё, пад уплывам сваёй жонкі Мір’яны Маркавіч, старанна вывучаў розныя шляхі і магчымасці прарыву да вышэйшай улады.) Урэшце, Мілошавіч стварыў моцную базу падтрымкі ў дзяржаўным апараце, што дазволіла яму хутка адцясніць ад улады сваіх былых палітычных настаўнікаў, перш за ўсё тагачаснага прэзідэнта Сербіі Івана Стамбаліча, зацятага цітаўца, які актыўна прасоўваў Мілошавіча ўверх па партыйнай

іерархічнай лесвіцы. Дарэчы, за некалькі дзён да падзення Мілошавіча ў 2000 г. Стамбаліч знік без следу.

За кароткі час Мілошавіч стварыў моцную ўласную групоўку ў партыйным і дзяржаўным апараце, медыях, паліцыі і войску, актыўна прасоўваючы на высокія пасады верных сабе людзей з ніжэйшых і вышэйшых эшалонаў наменклатуры. Такім чынам палітычны адзіночка, якога некаторыя спадзяваліся скарыстаць ва ўласных мэтах, неўзабаве стаў паўнаўладным гаспадаром дзяржавы. Пасля кансалідацыі ўлады Мілошавіч прадэманстраваў тую ж гнуткасць і здольнасць да палітычных пераўвасабленняў, што дапамагла яму пратрымацца ва ўладзе, нягледзячы на катастрофу, у якую вылілася ягонае панаванне. На сваіх першых выбарах, у 1990 г., ён паўставаў перад грамадствам, напужаным перспектывай вайны, памяркоўным рэфарматарам. На другіх выбарах, у 1992 г., калі вайна ў Босніі і санкцыі міжнароднае супольнасці выклікалі гіперінфляцыю, ён ужо быў ястрабам, які адцягваў увагу ад унутраных праблемаў пошукам вонкавых ворагаў. У 1995 г., калі вайна ў Босніі скончылася паразай сербаў, ён паўстаў міратворцам, які падпісаннем Дэйтанскіх пагадненняў дамогся заканчэння вайны.

Як і Мілошавіч, але ў іншых палітычных варунках, Лукашэнка вырозніваўся выключным палітычным апартунізмам на мяжы з беспрынцыповасцю. Для пакалення, што ўзрасло падчас яго прэзідэнцтва, сёння будзе гучаць дзіўна, што Лукашэнка ўвайшоў у вялікую палітыку як дэмакрат, які змагаўся супраць партыйнай наменклатуры, падтрымліваў Шушкевіча на выбарах старшыні Вярхоўнага Савета БССР, выступаў на адных мітынгах з Пазняком, крытыкаваў урад за непрыняцце закону аб прыватнай уласнасці, выступаў за прыватызацыю, змагаўся супраць увядзення пасады прэзідэнта і нават уносіў бел-чырвона-белы сцяг (які сам пасля і скасаваў праз рэферэндум) у залу пасяджэнняў парламента. Усё гэта было, аднак, да 1992 г. Пасля, калі стала зразумела, што падтрымка прынцыпаў дэмакратыі

ў грамадстве падае, Лукашэнка спачатку далучыўся да ўрадавай большасці, а потым — да рэакцыйных камуністычных і прарасійскіх груповак накшталт Народнага руху Беларусі. Лукашэнка доўга гуляў у чужую гульню, пакуль не атрымаў магчымасці гуляць у сваю. Супрацьстаянне старой наменклатурнай эліты (вядомай як "партыя ўлады") і нацыянальна-дэмакратычнай апазіцыі, якую ўзначальваў БНФ, не дазволіла ажыццявіцца палітычнаму сцэнару, падобнаму да таго, што адбыўся ва Украіне. На працягу некаторага часу з моманту здабыцця незалежнасці партыя ўлады і апазіцыя пачалі дамагацца ажыццяўлення дыяметральна супрацьлеглых палітычных праграмаў, адна з якіх была скіраваная на будаванне новага палітычнага саюза былых савецкіх рэспублік, а іншая — на здабыццё поўнай незалежнасці на прыклад балтыйскіх дзяржаваў. Аднак ні БНФ, ні партыя ўлады не мелі палітычных магчымасцяў, каб ажыццявіць свае праекты цалкам і без дапамогі звонку. БНФ пераацаніў ступень грамадскай падтрымкі сваёй палітыкі, якая пайшла на спад разам з постсавецкай дэзінтэграцыяй эканомікі. Партыя ўлады, са свайго боку, пераацаніла сваю здольнасць кантраляваць палітычныя працэсы ва ўмовах адноснай адкрытасці палітычнай сістэмы.

Тым часам грамадская незадаволенасць эканамічным і палітычным становішчам вылілася ў непрыманне ўсёй палітычнай эліты — як уладнай, так і альтэрнатыўнай. У гэтых умовах тактыка Аляксандра Лукашэнкі, які выкарыстоўваў супрацьлеглыя бакі ў якасці "таранаў" для знішчэння апанентаў, і адкрыла яму шлях да ўлады. Нагадаем, што менавіта дэмакрат Станіслаў Шушкевіч, тагачасны старшыня парламента, прапанаваў Лукашэнку на пасаду старшыні антыкарупцыйнай камісіі, а апазіцыя БНФ падтрымала гэтае прызначэнне. У той жа час партыя ўлады заахвочвала Лукашэнку скіраваць сваю атаку супраць Шушкевіча. Праз некалькі месяцаў пасля трыумфальнага выступу Лукашэнкі на сесіі Вярхоўнага Савета да ягонай прэзідэнцкай кампаніі далучыліся многія маладыя незалежныя дэпутаты, тады вядомыя як

“маладыя ваўкі”, галоўнай мэтай якіх быў хуткі кар’ерны рост цераз галовы старой наменклатуры. Большасць “маладых ваўкоў” былі вычышчаны з дзяржструктураў праз некалькі месяцаў пасля перамогі на выбарах, а некаторых у будучым напаткаў трагічны лёс. Як ні дзіўна, ці абсурдна нават, але ўлада і нацыянальна-дэмакратычная апазіцыя ігнаравалі перадвыбарную кампанію Лукашэнкі аж да таго моманту, калі яе ўжо немагчыма было спыніць[17]. Фактычна і ўлада, і апазіцыя бачылі ў Лукашэнку свайго партнёра, спадзеючыся, што ён расколе, адпаведна, пратэставы і пракамуністычны электарат. Лукашэнка гэта і зрабіў, аднак так, што электараты былі ім аб’яднаныя ў адзін, што зрабіла яго абсалютным пераможцам. Цікава, што падчас барацьбы за ўладу і выкрышталізаваўся апартуністычны стыль, які надалей стаў характэрны для Лукашэнкі-прэзідэнта. Ужо тады ён быў здольны сумяшчаць несумяшчальнае, абяцаючы грамадству і “рынкавы сацыялізм”, і “інтэграцыю з поўнай незалежнасцю”, і “расійскі рубель з друкарным станком у Менску”. Наагул, супярэчлівы палітычны стыль і Мілошавіча, і Лукашэнкі сведчыць, што абодва лідэры імкнуліся перадусім да максімальнага пашырэння сваёй сацыяльнай базы па-за межамі ўласнага “цвёрдага электарату”. Гэта супярэчлівасць — тыповая тактыка палітычнага выжывання ў аўтарытарных умовах, дзе асноўнай крыніцай унутранай легітымнасці рэжыму з’яўляецца не ідэалогія, якой прымусова падпарадкоўваецца ўсё, а масавая свядомасць, на якую абапіраюцца лідэры. Гэтая тактыка абапіраецца на прынцып “Улада легітымная не тады, калі людзі вераць у тое, што яна кажа, а тады, калі яна кажа тое, у што вераць людзі”.

---

17 “Так здарылася, што крытыка ў барацьбе за галасы не выходзіла з кола Кебіч — Пазняк — Шушкевіч. Меркаванні гэтых кандыдатаў, а таксама іх моцныя і слабыя бакі былі добра вядомыя. Лукашэнка, у сваю чаргу, заставаўся па-за крытыкай. Пры гэтым ён не шкадаваў словаў супраць сваіх апанентаў” (Sergiej Owsiannik, Jelena Strielkowa. *Władza a Społeczęcstwo: Białorus 1991–1998.* Warszawa: Rzeczpospolita, 1998. S. 95). Магу дадаць некаторыя свае назіранні: за першае паўгоддзе 1994 г. найбуйнейшая апазіцыйная газета “Свабода” надрукавала больш за трыццаць крытычных артыкулаў пра Кебіча і толькі адзін — пра Лукашэнку.

# 4. Сербскія дысідэнты ўзгадавалі аўтарытарны нацыяналізм

Яшчэ адна прычына палітычных перамог Мілошавіча і Лукашэнкі палягала ў тым, што палітычныя і інтэлектуальныя эліты абедзвюх краінаў не здолелі супрацьстаяць іх тактыцы культурнага папулізму, якая патрабавала выпрацаваць антыдот палітыцы падзелаў і супрацьстаяння ў грамадствах. Выкарыстанне нацыяналістычнае рыторыкі сербскімі інтэлектуаламі-дысідэнтамі фактычна ўгнаіла глебу для ўзыходу Мілошавіча, якую ён скарыстаў, каб перавесці крызіс легітымнасці ўлады з рэспубліканскага ўзроўню на федэральны, апраўдаць выключэнне апазіцыйна настроеных нацыянальных меншасцяў з палітычнага працэсу і ўзаконіць разгром апазіцыі як "ворагаў сербскай справы". Расчараванне ў камуністычнай сістэме і крыўда на працяглую палітыку здушэння нацыянальных рухаў у Югаславіі 1970-х прывялі да таго, што апазіцыйна настроеныя сербскія інтэлектуалы пачалі зводзіць спароджаныя камунізмам праблемы да адной — варожасці да сербаў з боку ўсіх іхніх суседзяў, з чаго вынікала патрэба бараніць "свабоду і правы сербскага этнасу на захаванне духоўнай, культурнай і гістарычнай ідэнтычнасці без уліку цяперашніх рэспубліканскіх межаў у Югаславіі"[18]. Выходзіла, што шлях да дэмакратыі ляжаў праз вырашэнне сербскага пытання (нават за кошт іншых нацыяў), а не

18 Ліст Добрыцы Чосіча да сербскай інтэлігенцыі, цытуецца паводле: Dusan Janjic. Serbia between identity crisis and the challenge of modernization (1987–1994) // *Serbia Between Past and Future / E*d. Dusan Janjic. Belgrade: Institute for Social Sciences and Forum for Ethnic Relations, 1997.

наадварот. Такая тактыка барацьбы з камуністычнай ідэалогіяй фактычна запраграмавала змену адной дыктатуры іншай, бо ў ёй не было месца дэмакратычнаму нацыяналізму, які базаваўся б на ідэі грамадзянства і роўных правоў для ўсіх членаў супольнасці. Ідэалогія аўтарытарнага нацыяналізму, выпрацаваная сербскімі інтэлектуаламі, справакавала не толькі канфрантацыю паміж сербамі і нацыянальнымі меншасцямі, але і ў пэўнай ступені выбух нацыяналізму ў іншых югаслаўскіх нацыянальных супольнасцях, што прывяло да ўзмацнення аўтарытарных тэндэнцыяў і сацыяльнай гамагенізацыі ў кожнай з іх. Цікава, што ідэю "вялікай Сербіі" першымі "ўзнялі на штандары" не паплечнікі Мілошавіча, а тыя, хто правёў наступнае дзесяцігоддзе ў апазіцыі да яго, напрыклад, пісьменнік і прэзідэнт "малой" Югаславіі ў 1992—1993 гг. Добрыца Чосіч, а таксама адзін з лідэраў сербскай апазіцыі на працягу 1990-х, таксама пісьменнік Вук Драшкавіч. Аднак сумесь нацыянальнага калектывізму і этатызму ў выпрацаванай імі ідэалогіі расчысціла дарогу да ўлады не ім, а Мілошавічу.

# 5. БНФ у пагоні за немагчымым

Палітызаванасць “нацыянальна-дэмакратычнага” дыскурсу ў Беларусі прывяла да таго, што ён не змог вытрымаць рэстаўратарскай контратакі; з яго не нарадзілася таксама і новай нацыянальнай ідэалогіі, якая знайшла б шырокую грамадскую падтрымку. Гэтаму нямала паспрыяла тое, што БНФ, асноўны носьбіт нацыянальнай ідэалогіі, хуткаператварыўся з шырокага руху, якім ён быў на пачатку свайго існавання, у вузкую палітычную партыю нацыянальна-кансерватыўнай арыентацыі, захоўваючы пры гэтым прэтэнзіі на выключнасць і лідэрства ў дэмакратычным лагеры. Ідэалогія БНФ грунтавалася на ўяўленні аб этнічнай нацыі, якая была выключаная з натуральнага гістарычнага і культурнага развіцця замежным панаваннем (адсюль і бескампрамісная пазіцыя ў пытаннях беларусізацыі, вонкавай палітыкі і г. д.). Аднак такое бачанне не толькі не адпавядала светаўспрыманню той рэальна існай супольнасці, што насяляла Рэспубліку Беларусь (і справа тут не толькі ў заняпадзе нацыянальнай мовы, але і ва ўспрыманні свету, гісторыі і саміх сябе, што ў пераважнай большасці не супадала з нацыянал-дэмакратычным дыскурсам). Фактычна палітычная стратэгія, заснаваная на нацыянал-дэмакратычнай ідэалогіі, знаходзіла падтрымку ў вузкага кола інтэлігенцыі, моладзі і ў некаторых рэгіёнах на паўночным захадзе Беларусі[19]. Безумоўна, перспектывы пашырэння палітычнай

19 Так, на пачатку 1990-х толькі 6% беларусаў былі знаёмыя з асноўнымі датамі і падзеямі беларускай гісторыі, вядома ж, не ў інтэрпрэтацыі Абэцэдарскага. Гл.: Гапанович Ольга. Нам явно не хватает свежего воздуха культуры // Беларуская думка. 1993. №10.

базы “нацдэмаўшчыны” існавалі: БНФ мог бы пайсці на пэўныя кампрамісы ў сваёй ідэалагічнай арыентацыі і заангажаваць тую частку электарату, якая заставалася нацыянальна пасіўнай, але праявіла схільнасць да падтрымкі “грамадзянскай” версіі нацыянальнай праграмы, г. зн., прымаючы палітычную ідэю незалежнасці, заставалася расійскамоўнай. Фактычна, менавіта гэтая частка грамадства, якую сёння модна называць “крэоламі” (на маю думку, аднак, яны не большыя крэолы, чым англамоўныя ірландцы), і стварала на працягу мінулага дзесяцігоддзя сталую “незалежніцкую” частку беларускага палітычнага спектру. Аднак бескампраміснасць БНФ і ў першую чаргу яго лідэра Зянона Пазняка прывяла да таго, што рух адштурхнуў ад сябе гэтую частку грамадства і ўрэшце пачаў ператварацца ў маргінальную палітычную сілу. Заўважым, што сам па сабе БНФ на працягу свайго існавання заставаўся дэмакратычнай партыяй. Аднак унутраная яго структура і персанальная харызма лідэра справакавалі поўнае бяздзеянне руху ў той час, калі Пазняк фактычна стаў пераўтварацца ў беларускага Лё Пэна ці Шэшаля, прымаючы ўсё больш радыкальную рыторыку, што пераходзіла мяжу, за якой пачыналася ксенафобія, тэрытарыяльныя прэтэнзіі да іншых краінаў, падзел дэмакратычнага лагеру на “сваіх” і “чужых”. Гэтая версія нацыяналізму старанна асвятлялася дзяржаўнымі медыямі, што на доўгі час стварылі адпаведны брэнд, у якім усё беларускае нацыянальнае атаясамлівалася з Пазняком, а праз яго — з фашыстамі і іншымі знаёмымі грамадству ворагамі. Фактычна, паварот Пазняка на радыкальныя пазіцыі пакінуў беларускае грамадства без сапраўды дэмакратычнай нацыянальнай альтэрнатывы, якую, дарэчы, трэба яшчэ сфармуляваць.

Слабасць нацыянал-дэмакратычнай ідэалогіі абумоўлівалася, аднак, не толькі яе нераспаўсюджанасцю, але і антаганізмам паміж прыхільнікамі яе традыцыйнай версіі і так званага “беларускага расійскамоўнага нацыяналізму”. З аднаго боку, гэты феномен палітычнай культуры Беларусі, які пашырыўся на працягу апошняга

дзесяцігоддзя, пацвердзіў, калі верыць Яну Запрудніку, "павелічэнне розніцы паміж моўнай ды палітычнай русіфікацыяй. Расійская мова ў Беларусі ў шматлікіх выпадках стала такой жа мовай культурнага адраджэння краіны ды ўмацавання яе незалежнасці, як і беларуская. Можна нават правесці, хоць і грубае, параўнанне з ангельскай мовай у Ірландыі ды нямецкай у Аўстрыі"[20]. З іншага боку, узнікненне "беларускага расійскамоўнага нацыяналізму" паглыбіла палітычны раскол у незалежніцкім лагеры, які падзяліўся на прыхільнікаў "этнічнага" ды "грамадзянскага" нацыяналізму. "Этнічны" нацыяналізм апелюе да этнічнай/нацыянальнай моўнай ды культурнай традыцыі й культывуе міт аб "адвечнасці" нацыі. "Грамадзянскі" нацыяналізм адштурхоўваецца ад ліберальнага бачання нацыі як прадукту "грамадскай дамовы". Нацыя (таксама як і яе атрыбуты) у першым выпадку — вартасць метафізічная, у другім — інструментальная, сродак дасягнення іншых, у тым ліку палітычных мэтаў, такіх, як дэмакратызацыя, дэсаветызацыя ды вестэрнізацыя. Для прыхільнікаў "этнічнага" нацыяналізму нацыянальнае адраджэнне ёсць зарукай пабудовы дэмакратыі ў незалежнай дзяржаве, тады як для тых, хто аддае перавагу "грамадзянскаму" нацыяналізму, наадварот, дэмакратыя выступае рухавіком у справе пабудовы нацыі.

У Беларусі "этнічны" ды "грамадзянскі" нацыяналізм мае сваіх палітычных носьбітаў у дэмакратычным лагеры (БНФ — з аднаго боку, АГП — з другога, хаця ідэалагічныя бар'еры паміж гэтымі партыямі апошнім часам сталі менш адчувальнымі), а таксама свой базавы электарат (з аднаго боку — нацыянальная інтэлігенцыя ды моладзь, з іншага — касмапалітычнае гарадское насельніцтва, частка эканамічнай эліты ды дзяржапарату). Асноўнае адрозненне паміж "этнічнымі" ды "грамадзянскімі" нацыяналістамі праходзіць па стаўленні да нацыянальнай мовы. Калі ў традыцыі "этнічнага" нацыяналізму акурат

---

20 Jan Zaprudnik. Belarus: In Search of National Identity, 1990–2000 // Belarusian Review. Vol. 13. Issue 2.

нацыянальная мова ператварае насельніцтва ў нацыю, то з пункту гледжання нацыяналізму "грамадзянскага" асобна ўзятая беларуская нацыя можа быць і расійскамоўнай, і двухмоўнай.

Не збіраючыся тут абмяркоўваць плюсы ды мінусы той ці іншай рэдакцыі беларускага нацыяналізму, зазначым, аднак, што два супярэчлівыя міжсобку падыходы спарадзілі доўгатэрміновы падзел у дэмакратычнай апазіцыі на "нацыянальны" і "ліберальны" блокі, якія прывёў да падзення іх сукупнага ўплыву на беларускае грамадства. Не ў апошнюю чаргу праз гэта падзелены нацыянальна-дэмакратычны лагер не мог дагэтуль стварыць жыццяздольную альтэрнатыву лукашэнкаўскаму "савецкаму кансерватызму". Трэба сказаць, што і саветызаваная частка беларускага грамадства ўсё болей рабілася адной з палітычных меншасцяў. Таму натуральнае для кожнага аўтакрата імкненне легітымізаваць сваю ўладу, выкарыстоўваючы вартасці і сімвалы палітычнай культуры, якія пераважаюць у грамадстве, падштурхнула Лукашэнку стала імкнуцца да фарміравання "кааліцыі мяншыняў" (гэта значыць фармуляваць сваю палітычную праграму так, каб яна знаходзіла водгук у розных сацыяльных групах, часам з несумяшчальнымі інтарэсамі ды прэферэнцыямі). Такая тактыка звычайная для бальшыні аўтарытарных рэжымаў, якія ў выніку няздольнасці выпрацаваць сваю ўласную ідэалогію замяняюць яе "клопатам пра кожнага чалавека". Адсюль усе Лукашэнкавы апартуністычныя зігзагі ў рыторыцы, ад пагарджэння беларускай мовай да ўслаўлення беларускай незалежнасці, ад дэманізацыі NATO да "пагрозы" тэрмінова нармалізаваць стасункі з Захадам, ад "Славянскіх базараў" да параўнання самога сябе з "таварышам Сапегам"; адсюль і Лукашэнкаў "doublespeak" — тэрміны накшталт "рынкавага сацыялізму", "праваслаўнага атэізму" ды, нарэшце, "поўная інтэграцыя пры захаванні поўнага суверэнітэту". Дваістасць Лукашэнкавай рыторыкі сведчыць перадусім пра "раздваенне свядомасці" беларускага грамадства, ці, дакладней, пра яго падзеленасць на

некалькі палітычных мяншыняў. Істотна, што “савецкая” мяншыня знаходзіцца дзесьці пасярэдзіне паміж “нацыянальна-дэмакратычнай” ды “прарасійскай” мяншынямі. Акурат гэтая, прыкладна трэцяя частка грамадства, якая выступае і за інтэграцыю, і за суверэнітэт, дае пажыву для Лукашэнкавых апартуністычных выкрунтасаў — ад прызнання Расіі другой бацькаўшчынай беларускага народа да адстойвання святога права беларусаў на незалежнасць і суверэнітэт — з заўсёднай падтрымкай адной з узаеманесумяшчальных пазіцыяў, вызнаваных бальшынёй грамадства.

Важнай акалічнасцю, якая дазволіла і Мілошавічу, і Лукашэнку паспяхова захапіць уладу і ўтрымліваць яе ў кантэксце падзеленых грамадстваў, было, бадай, тое, што абодва лідэры мелі надзвычай багаты жыццёвы досвед па абодва бакі сацыяльнага разлому. Абодва выраслі ў патрыярхальных сацыяльных асяродках без бацькі, пачынаючы, такім чынам, з самага нізу сацыяльнай лесвіцы. Абодва навучыліся “караскацца” па іерархічнай вертыкалі пры камуністах, разлічваючы на камбінацыю ўласных сілаў і сілы выпадку. Абодва прыйшлі ў “вялікую” палітыку ў адносна маладыя гады (Мілошавіч заняў першую высокую партыйную пасаду ў 40 год). Усё гэта дазволіла будучым лідэрам лепей зразумець патрыярхальную палітычную культуру сваіх грамадстваў. Адначасова гэта навучыла іх маніпуляваць інтарэсамі і амбіцыямі ў антаганістычнай “гарадской” палітыцы, прычым як старой наменклатуры, якая цалкам згубіла сувязь з публічнай думкай, так і маладой, амбітнай, але непрафесійнай дэмакратычнай эліты, якая ў большасці выпадкаў трапіла ў палітыку дзякуючы выпадку, у абставінах непрадказальных палітычных пераменаў.

# Частка II

## 1. Modus operandi і modus vivendi персаналізаваных аўтакратый

Палітычныя рэжымы, усталяваныя Мілошавічам і Лукашэнкам, спалучалі ў сабе "папулісцкія" і "султанісцкія" рысы. Папулісцкія элементы праяўляліся ў імкненні абодвух прэзідэнтаў вызначыць сваю унікальную асабістую місію, у іх харызматычных якасцях, а таксама іх настойлівым звароце да даміноўных элементаў палітычных культураў сваіх грамадстваў. Папулізм (ці, папросту, імкненне быць папулярнымі) падштурхоўваў лідэраў легітымізаваць кожны свой крок воляй масаў. "Султанісцкія" элементы адбіліся ў сістэме персанальнага праўлення і манапалізацыі фармальнай і нефармальнай улады, у якой фармальная сістэма дзяржаўных інстытутаў і іерархіі, вызначальваная ўладаю, губляла сваё значэнне, а размеркаванне ўлады цалкам залежала ад выбару лідэра і ад лаяльнасці да яго, якая ў сваю чаргу падтрымлівалася палітыкай бізуна і перніка ў дачыненні да сваіх падначаленых[21].

Зазначым, што папулізм і султанізм — надзвычай супярэчлівыя формы арганізацыі ўлады і адносінаў з грамадствам. Папулізм падштурхоўвае лідэра да кантакту з электаратам і правядзення палітыкі, якая цалкам адпавядала б яго настроям. Папулізм прымушае лідэра трымаць руку "на пульсе" грамадскіх настрояў, захоўваць як мінімум бачнасць нейкіх дэмакратычных працэсаў

---

21 Наконт вызначэння султанісцкіх рэжымаў гл. H.E. Chelabi and Juan J. Linz. Sultanistic Regimes. Baltimore: Johns Hopkins University Press, 1998.

і ажыццяўляць дзеля захавання і ўзмацнення ўлады рызыкоўныя палітычныя праекты, такія, як выбары ці рэферэндумы (нагадаем, што Лукашэнка стаяў за некалькі крокаў ад імпічменту ў 1996 г.; як будзе растлумачана далей, менавіта ўпартая настойлівасць да легітымізацыі сваіх прэтэнзій на ўладу праз выбары і прывяла ўрэшце да аслаблення рэжыму Мілошавіча, а потым і да яго падзення). У той жа час султанізм у найвышэйшай сваёй форме абмяжоўвае ўсялякія кантакты лідэра з грамадствам, якія пачынаюць ажыццяўляцца выключна праз рэпрэсіўны апарат і жменьку лаяльных прызначэнцаў, у руках якіх канцэнтруюцца ўсе механізмы палітычнай і эканамічнай улады. Султанізм, урэшце, можа прывесці да страты палітычнай арыентацыі лідэра, які можа проста "праваронiць" той момант, пасля якога сітуацыя награецца настолькі, што працэсы ў грамадстве робяцца незваротнымі або само "ўнутранае кола" пачынае плесці змову вакол лідэра. Аднак у час росквіту сваіх рэжымаў аўтарытарныя лідэры могуць выкарыстоўваць папулісцкія аспекты сваёй улады (народную падтрымку), напрыклад, для вырашэння нейкіх сваіх унутраных праблемаў, а султанісцкія — для прыдушэння агмянёў апазіцыі ў грамадстве. Як сведчыць досвед рэжымаў Лукашэнкі і асабліва Мілошавіча, спалучэнне элементаў папулізму і султанізму застаецца трывалым у першую чаргу праз тое, што лідэрам удаецца захаваць шырокую грамадскую падтрымку (г. зн. калі лідэр здольны пераканаць падначаленых у тым, што ён можа захаваць уладу і без іх дапамогі).

Як ужо казалася, неабходнасць легітымізаваць статус былой кампартыі падштурхнула Мілошавіча да арганізацыі інстытутаў сербскай дзяржавы ў форме напаўпрэзідэнцкай рэспублікі, дзе існавалі і фармальны кантроль парламента над урадам, і выбары паводле партыйных спісаў, і выбарнасць мясцовых органаў улады (то бок Мілошавіч яшчэ ў 1990 г. сам выканаў "чатыры патрабаванні АБСЕ", калі праводзіць аналогіі з беларускай сітуацыяй, — што не перашкодзіла яму пратрымацца ва ўладзе яшчэ

дзесяць год пасля таго). Вядома, сістэма “стрымак і супрацьвагаў” была дэкаратыўнай, пакуль Мілошавіч і СПС захоўвалі поўны кантроль над уладай і кіравалі аднаасобна. Важнай акалічнасцю сербскай палітычнай гісторыі ў 1990-х, аднак, было тое, што Мілошавіч і асабліва яго партыя вельмі хутка страцілі статус большасці і знайшлі змогу гэта прызнаць. Так, СПС дасягнула адзнакі ў 50% галасоў выбарнікаў на рэспубліканскіх выбарах у 1990 г. у першы і апошні раз. Сам Мілошавіч апошні раз выйграў прэзідэнцкія выбары ў 1992 г. У 1997 г. прэзідэнтам Югаславіі яго выбраў ужо парламент. Падзенне папулярнасці ў грамадстве (выклікане войнамі і развалам эканомікі) прымусіла Мілошавіча змяніць тактыку і пачаць кааптаваць палітычных апанентаў ці прасоўваць паплечнікаў, што дазваляла яму дыверсіфікаваць базу падтрымкі і пашыраць яе ва ўмовах, калі палітычныя інстытуты прымушалі яго рабіць гэта. Так, у 1992 г., калі ход вайны ў Босніі прымушаў яго выкарыстоўваць радыкальную рыторыку, Мілошавіч, партыя якога набрала на парламенцкіх выбарах таго года толькі 28% галасоў (пры тым заўважым, што і на гэтых, і на ўсіх астатніх выбарах СПС чыніла масавыя фальсіфікацыі галасоў у Косаве, дзе албанскае насельніцтва, больш за 15% усяго электарату Сербіі, заўжды байкатавала выбары), пайшоў на хаўрус з ультранацыяналістычнай Сербскай радыкальнай партыяй Ваіслава Шэшаля. У 1993 г. дарогі Мілошавіча і Шэшаля разышліся, пасля таго як першы пачаў “здаваць” сербаў у Босніі пад ціскам ваенных паразаў і санкцый. Тады, зноў не дабраўшы большасці на датэрміновых выбарах, Мілошавіч завабіў у кааліцыю маленькую апазіцыйную партыю “Новая дэмакратыя”, што дазволіла яму стварыць новы ўрад. У піку апазіцыянеру Шэшалю ўлады раскруцілі другую ультрарадыкальную групоўку на чале з камандзірам сербскіх баевікоў у Босніі, вядомым мафіёзі Златкам Разнятавічам (на мянушку Аркан), які ў 2000 г. быў забіты пры нявысветленых абставінах. Пасля падпісання Дэйтанскіх пагадненняў, калі ідэя “вялікай Сербіі” пацярпела паразу, Мілошавіч дапамог сваёй жонцы рэстаўраваць камуністычную партыю пад

назвай “Аб’яднаныя югаслаўскія левыя”, каб падкрэсліць “інтэрнацыяналізм” сваёй новай палітыкі. Нарэшце, у 1997 г. Мілошавіч пайшоў на хаўрус з найбуйнейшай на той час апазіцыйнай сілай — “Сербскім рухам аднаўлення” Вука Драшкавіча, што зноў аблегчыла ягонае палітычнае выжыванне.

Паколькі “папулісцкі” складнік улады Мілошавіча паступова губляў сваё значэнне, той быў вымушаны павялічваць ролю “султанісцкага” складніка. Асаблівасцю яго ўнутранай тактыкі захавання кантролю за ўладным апаратам былі бесперапынная ратацыя высокапастаўленых работнікаў, якія тым самым не паспявалі “пусціць карані” ў дзяржаўным апараце, і прасоўванне асабіста адданых яму людзей, чыю залежнасць і амбіцыі Мілошавіч мог выкарыстоўваць незалежна ад таго, на якой канкрэтна пасадзе ў дзяржаве (прэзідэнта Сербіі ці Югаславіі) ён знаходзіўся. Мілошавіч стварыў вялікія магчымасці для ўзбагачэння сваіх паплечнікаў, паводле словаў назіральнікаў, “абраўшы каля дзесяці тысячаў людзей, якім было дазволена ў кароткі адрэзак часу назапасіць вялікі капітал, што стварыла новы эканамічны клас... Кіраўнічая пара (Мілошавіч і Маркавіч. — **Аўт.**) абыходзілася з дзяржаўнай прамысловасцю і дзяржаўнымі канцэсіямі як са сродкам заахвочвання паплечнікаў”[22]. Такім чынам, у Сербіі паўсталі алігархія і мафія, дабрабыт якіх наўпрост залежаў ад таго, ці знаходзіцца Мілошавіч пры ўладзе.

Іншай тэндэнцыяй было надзяленне фактычна цырыманіяльнымі, але фармальна важнымі дзяржаўнымі пасадамі верных Мілошавічу людзей для таго, каб абвяшчаць і праводзіць найбольш непапулярныя палітычныя і эканамічныя рашэнні, а потым, калі палітыка рэжыму цярпела няўдачу, ад іх дэманстратыўна пазбаўляцца. Фактычны падзел на “ўнутранае кола” і “цырыманіяльнікаў” прывёў да раздваення дзяржаўнага апарату на “фармальны” (які займаўся чарнавой працай

22 Lenard Cohen. Serpent in the Bosom: The Rise and Fall of Slobodan Milosevic. Westview Press: 2000. P. 112.

забеспячэння функцыянавання дзяржавы) і “паралельны” (які займаўся выключна забеспячэннем жыццяздольнасці рэжыму) урады. Такі падзел цалкам адпавядае прынцыпам султанісцкай арганізацыі. Адзначым, аднак, што ў дачыненні да рэжыму Мілошавіча можна казаць не аб цалкам усталяваным султанісцкім рэжыме, а толькі аб султанісцкіх тэндэнцыях, якія абмяжоўваліся існаваннем значнага “вольнага поля”, дзе дзейнічалі палітычная апазіцыя і грамадзянская супольнасць, прызнаваныя, прынамсі фармальна, уладай ды легітымізаваныя тымі інстытуцыйнымі механізмамі, што дазвалялі апазіцыі ўдзельнічаць у падзеле ўлады.

Рэжым Мілошавіча можна пазначыць тэрмінам “канкурэнтная аўтакратыя”. Ва ўмовах канкурэнтнай аўтакратыі Мілошавіч мусіў актыўна ўжываць тактыку подкупу апазіцыі. Па-за акрэсленымі вышэй выпадкамі рэкрутавання асобных палітычных партыяў, трэба адзначыць і выпадкі ўдзелу некаторых апазіцыйных палітыкаў у “шэрым” паддзяржаўным бізнэсе, што квітнеў падчас санкцыяў. Найбольшыя абвінавачанні наконт гэтага гучалі і працягваюць гучаць на адрас былога лідэра Дэмакратычнай партыі і прэм’ер-міністра Сербіі Зорана Джынджыча, забітага пры не да канца высветленых абставінах. Яго падазравалі ва ўдзеле ў кантрабандзе (іншы вядомы аб’ект абвінавачанняў — прэзідэнт Чарнагорыі Міла Джуканавіч, але ён сышоў у апазіцыю толькі ў 1997 г.).

## 2. Механізмы маніпуляцыі і кантролю ў Беларусі

У адрозненне ад Сербіі, неабмежаванасць персанальнай прэзідэнцкай улады ў Беларусі больш фармалізаваная (гэта было ў высокай ступені наступствам спецыфікі шляху да ўлады Лукашэнкі як палітычнага аўтсайдэра, які першапачаткова не меў моцнай базы ў дзяржаўным апараце, што і справакавала яго, пасля перыяду канфрантацыі з непадкантрольнымі яму дзяржаўнымі інстытутамі, на больш “жорсткую”, чым у сербскім выпадку, інстытуцыяналізацыю асабістай улады). Канстытуцыя 1996 г., якую Лукашэнка правёў праз рэферэндум, гарантавала яму неабмежаваны кантроль над урадам, міністраў якога ён можа мяняць са сваёй волі, над суддзямі, якіх ён прызначае, мясцовымі адміністрацыямі, што ўваходзяць у структуру прэзідэнцкай вертыкалі, Нацыянальным банкам, пракуратурай, а праз фактычна падначалены яму Савет Рэспублікі (большасць якога складаюць прызначаныя ім прадстаўнікі вертыкалі) — і над Цэнтральнай выбарчай камісіяй і Канстытуцыйным судом. Паўнамоцтвы парламента ў такой сістэме зведзеныя да мінімуму канстытуцыйнай нормай, што аддае прыярытэт прэзідэнцкім дэкрэтам над законамі. Канстытуцыя 1996 г. не была прызнаная на Захадзе, які настойваў на прызнанні Вярхоўнага Савета 13-га склікання (больш дакладна — той яго чвэрці, што не пагадзілася з абвешчанымі вынікамі рэферэндуму і не далучылася да Палаты прадстаўнікоў) як адзінага легітымнага беларускага парламента. Аднак дзеянні ВС 13-га склікання абмяжоўваліся міжнароднай сцэнай (на пэўны час ён ператварыўся ў інстытут

дэлегітымізацыі рэжыму Лукашэнкі на Захадзе, не маючы пры гэтым ніякага значнага ўплыву на палітычныя падзеі ў межах самой Беларусі).

Выключная манапалізацыя ўлады ў руках адной асобы дазволіла Лукашэнку эфектыўна кантраляваць дзяржаўны апарат, умешвацца ў эканамічныя працэсы, маніпуляваць грамадскай думкай, а таксама мінімізавала кошт адсочвання і здушэння апазіцыі ўнутры і за межамі краіны. Для Лукашэнкі не існавала ні фармальнай, ні фактычнай патрэбы выкарыстання тактыкі палітычнага гандлю і інкарпарацыі для таго, каб ліквідаваць пагрозы з боку апазіцыі. У той жа час, ён валодаў значна шырэйшымі магчымасцямі, каб падтрымліваць стабільна высокі рэйтынг сваёй папулярнасці. З іншага боку, Лукашэнка прадэманстраваў гэткія ж, як і Мілошавіч, здольнасці да кантралявання "ўнутранага кола". Сведкі яго першых палітычных крокаў на пасадзе прэзідэнта ўспамінаюць, што яго падручнай кнігай у той час быў зачытаны літаральна да дзірак і падкрэслены ў шматлікіх месцах "Князь" Макіявелі. Як некалі заўважыў яго былы паплечнік, а цяпер адзін з лідэраў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Уладзімір Нісцюк, тактыкай Лукашэнкі было "ператварэнне сяброў у ворагаў, а ворагаў у рабоў". Менавіта так ён на пачатку сваёй дзейнасці пазбавіўся ад "маладых ваўкоў", замяніўшы іх найбольш адыёзнымі прадстаўнікамі старой кебічаўскай наменклатуры.

Іншай яго тактыкай было прызначэнне "землякоў" з Магілёўскай вобласці на вышэйшыя дзяржаўныя пасады (як правіла — з ніжэйшых эшалонаў абласной бюракратыі, скажам, былога школьнага настаўніка — на пасаду віцэ-спікера парламента, былога раённага пракурора — на генеральнага пракурора, былога сакратара райкама — на віцэ-прэм'ера па сельскай гаспадарцы і г. д.). Такім чынам, магілёўская наменклатура атрымала магчымасць хуткага кар'ернага ўзлёту. Відавочна, што і яе статус, і ўсе сённяшнія фінансавыя датацыі Магілёўшчыне залежаць выключна ад знаходжання Лукашэнкі пры ўладзе. Акрамя

таго, Лукашэнка, як і Мілошавіч, выкарыстоўвае тактыку няспыннай ратацыі кадраў — не засталося дзяржаўнай установы, дзе раз у год, у два гады не адбываліся б кадравыя змены. Такім чынам максімальна змяншаецца аўтаномнасць дзяржаўнай бюракратыі.

Наступная тэндэнцыя, аб якой некалі ўзгадваў былы міністр унутраных справаў Юры Захаранка, — гэта прызначэнне на дзяржаўныя пасады людзей з "праблемамі з законам" у мінулым, што гарантавала лаяльнасць і магчымасць маніпуляцыі імі на новых пасадах. Заўважым, што амаль усе прадстаўнікі лукашэнкаўскага апарату, прыцягнутыя да крымінальнай адказнасці ў 1997–2000 гг., былі асуджаны за злачынствы, здзейсненыя перад сваім прызначэннем.

Нарэшце, Лукашэнка таксама стварыў сваю "паралельную дзяржаву", што складаецца з мноства кантрольных органаў (іх каля пятнаццаці), функцыі якіх звычайна перакрыжоўваюцца, а таксама інстытуцый, што знаходзяцца ў непасрэдным падпарадкаванні прэзідэнта (прэзідэнцкая адміністрацыя, кіраўніцтва справаў прэзідэнта, што дублююць урад, служба бяспекі прэзідэнта і рада бяспекі, што дублююць карныя органы, і г. д.) Трэба зазначыць, што такая структура ўлады ў комплексе з антырынкавай эканамічнай палітыкай Лукашэнкі і яго папулісцкім памкненнем заўжды звальваць правалы на "дрэнных баяраў" прывяла да таго, што наменклатура не магла канвертаваць свае назапашаныя пры дапамозе карупцыі багацці ва ўласнасць і незалежны ад улады палітычны ды эканамічны капітал. Тое, што ва ўмовах Мілошавіча (ці ва ўмовах Расіі і Украіны) аддавалася праўладным бізнэсоўцам (а паралеляў можна прывесці багата — гэта і вядомая справа "Гандальэкспа", і сакрэтны продаж зброі, і рээкспарт расійскай нафты), у Беларусі манапалізавалася самой дзяржавай. У Беларусі не з'явілася феномену алігархіі. Як зазначыла тая ж Віннікава, "багатыя людзі ў Беларусі адрозніваюцца ад багатых людзей у Расіі нават выглядам. Ім дазволілі мець вялікія грошы, але не

дазволілі іх траціць. Нельга паехаць у адпачынак, асабліва за мяжу. Не кожны ездзіць у камандзіроўкі. Рэспубліка невялікая, таму нельга пайсці ў начны клуб ці купіць шыкоўны дом ці вілу і застацца незаўважаным. Застаецца толькі многа есці і піць"[23]. Ва ўмовах, калі прадухілялася фарміраванне прыватных капіталаў і аўтаномных алігархій, вялікія грошы мелі мінімальны палітычны ўплыў, нават калі прадстаўнік "унутранага кола" сыходзіў у апазіцыю (што прадэманстраваў лёс колішняга кіраўніка справаў прэзідэнта Івана Ціцянкова). Болей за тое, гэта падтрымлівала нізкі ўзровень сацыяльнай няроўнасці, нізкі (паводле ацэнак заходніх аналітыкаў) узровень "маштабнай" карупцыі і прымальны для ўлады ўзровень сацыяльнай стабільнасці.

У цэлым лукашэнкаўскі рэжым можна вызначыць як "гегеманічную аўтакратыю", у якой "вонкавыя" дэмакратычныя інструменты (такія, як выбары) выкарыстоўваюцца ў абмежаваным выглядзе для пацверджання фактычна складзенага палітычнага статус-кво. Калі Мілошавіч хутка ператвараўся ў султана, чыю ўладу абмяжоўваў палітычны плюралізм, дык Лукашэнка на пэўны час застаўся папулістам і народным героем, што кіруе тыраніяй.

Стабільнасць аўтарытарных рэжымаў у абедзвюх краінах падтрымлівалася сістэматычнай палітыкай вынішчэння альтэрнатыў. Палітычныя альтэрнатывы знішчаліся злоўжываннем уладай у палітычным працэсе і рэпрэсіямі супраць апазіцыйных актывістаў. Рэпрэсіі праводзіліся як сродкамі "рэгулярных" карных органаў, так і спецыяльнымі аддзеламі, што наўпрост падпарадкоўваліся лідэрам ці сябрам іх "унутраных колаў". Манапалізацыя электронных і друкаваных СМІ дазваляла знішчыць ці значна зменшыць доступ грамадства да інфармацыйных альтэрнатыў (гэта, аднак, меней адчувалася ў Сербіі, дзе большасць часу існавалі апазіцыйныя тэле- і радыёстанцыі, якія, аднак, пакрывалі толькі буйныя гарады, не выходзячы такім

23 Московские новости. 2000 г. 1 лютага.

чынам за межы “жорсткага” апазіцыйнага электарату). Кантроль публічнай сферы рабіў магчымым вынішчэнне сацыяльных і культурных альтэрнатыў.

Актыўная і патэнцыйна апазіцыйная частка абодвух грамадстваў кантралявалася рэжымамі праз стварэнне адпаведнай сістэмы дзяржаўнага патранажу, што рабіў лаяльнасць перадумовай прафесійнага і кар’ернага росту ды паляпшэння дабрабыту. Да таго ж сам эканамічны крах, як гэта ні парадаксальна гучыць для тых, для каго галоўнай крыніцай надзеяў на змену палітычнага рэжыму быў эканамічны крызіс і рост народнай незадаволенасці, значны адрэзак часу працаваў на руку дыктатарам. Па-першае, падзенне ўзроўню жыцця павялічвала атамізацыю грамадства, ставячы людзей ва ўмовы, пры якіх любая сацыяльная актыўнасць і камунікацыя даражэлі настолькі, што людзі вымушаны былі замыкацца “ў чатырох сценах” свайго прыватнага жыцця. Напрыклад, у Беларусі за дзесяць год з 1990 да 2000 г. колькасць штодзённа прачытваных газетаў на 100 чалавек зменшылася з 29 да 11, колькасць дасланых лістоў — з 29 да 12, колькасць наведванняў кінатэатраў — з 11 да 1 на чалавека ў год[24]. У Сербіі за той жа перыяд часу амаль дзве траціны насельніцтва цалкам перасталі купляць газеты і “выходзіць у свет”, напрыклад, наведваць тэатры ці кавярні. У такіх умовах асноўным інфарматарам аб падзеях і стваральнікам грамадскай думкі было дзяржаўнае тэлебачанне, што прасоўвала аднабаковыя вертыкальныя каналы камунікацыі. У той жа час сацыяльнай атамізацыі спрыяла і рэакцыя грамадства на эканамічныя цяжкасці, якая зводзілася не да пратэсту, а да адаптацыі. Паводле ацэнак статыстычных агенцтваў, да 80% жыхароў абедзвюх краінаў займаліся фактычна натуральнай сельскай гаспадаркай. Беларусь за часамі Лукашэнкі выйшла на сёмае ў свеце месца ў валавым зборы бульбы і на першае — у зборы на душу насельніцтва. У Сербіі за гэты ж час адбылася значная міграцыя насельніцтва з

24 Belarus: Choices for the Future. National Human Development Report. Minsk: UNDP, 2000.

горада ў вёску (нешта падобнае адбывалася ў Беларусі падчас Другой сусветнай вайны), што нават прывяло да росту ў сельскагаспадарчым сектары (вядома ж, выключна экстэнсіўнага). Эканамічны крызіс тым самым адштурхоўваў грамадзян ад палітычнай і грамадскай актыўнасці.

Дадамо, што лаяльнасць да ўлады падтрымлівалася і стварэннем спецыфічнай "культуры ўлады" — ідэалагічнай апрацоўкі насельніцтва пры дапамозе манапалізаваных дзяржавай мастацкай, культурнай, музычнай, кінематаграфічнай і іншых сфераў. Напрыклад, у Сербіі выразнай праявай "культуры ўлады" быў "турба-фолк", сумесь поп-музыкі і традыцыйных сербскіх народных матываў, праз якія аўдыторыі даносілася афіцыйная палітычная рыторыка, вызначаліся "героі" і "ворагі". Мілошавіч трапна выкарыстоўваў для легітымізацыі сваёй улады і шматлікія поспехі сербскага спорту. Напрыклад, групоўкі фанатаў колішняга ўладальніка Кубку еўрапейскіх чэмпіёнаў клуба "Црвена звезда" выкарыстоўваліся ім для нападаў на апазіцыйных дэманстрантаў і збівання апанентаў. У Беларусі прыкладам прапаганды "культуры ўлады" могуць служыць і актыўнае культываванне савецкай "папсы" праз фестывалі "Славянскі базар" ды "Залаты шлягер", і палітычнае ангажаванне беларускіх і расійскіх поп-зорак ды вядомых спартоўцаў, і паказальныя хакейныя матчы ды лёгкаатлетычныя эстафеты "на лыжах па асфальце", на якіх прэзідэнт карцінна перамагае колішніх алімпійскіх чэмпіёнаў, і іншыя мерапрыемствы, што дапамагаюць умацаваць культ "моцнага лідэра". Рэжым выкарыстоўваў складзеныя дзесяцігоддзямі густы і сімпатыі свайго электарату для "мабілізацыі пасіўнасці", вываду грамадства за межы палітычнага поля. "Апазіцыйная" культура (напрыкад, "апальны" рок-н-рол у Сербіі ці беларускамоўная рок-музыка ў Беларусі) узнікалі ў андэрграўндзе не толькі як культурныя феномены, а і як палітычныя субкультуры. У гэтых умовах культура ператваралася ў частку палітыкі, а палітыка — у форму культурнага існавання.

Мабілізацыя пасіўнасці і актыўнае спрыянне сацыяльнай атамізацыі дапамагло Мілошавічу і Лукашэнку без значных палітычных стратаў перажыць працэс паступовага расчаравання грамадства ў іх, які, ва ўмовах знішчэння альтэрнатываў, прыводзіў страчаных прыхільнікаў не ў апазіцыйны электарат, а, выкарыстоўваючы папулярны ў Беларусі выраз, у "балота". Грамадства паступова дзялілася на тры групы: прыхільнікаў, апанентаў рэжыму і тых, хто не вызначыўся. Маніпуляцыя сацыяльнай, культурнай і палітычнай сферамі дазваляла рэжымам падтрымліваць упэўненасць "балота" ў тым, што "пры ўсіх недахопах і няўдачах існыя палітычныя інстытуты ўсё ж лепшыя за любыя іншыя"[25]. У электаральнай палітыцы такое становішча лёгка дазваляла лідэрам дамагчыся поспеху, дадаўшы да "цвёрдага" электарату старанна апрацаванае "балота". Разбурэнне гарызантальных сувязяў у грамадстве, якія складаюць аснову грамадзянскай супольнасці, не зачапіла аднабаковых вертыкальных сувязяў паміж уладай і грамадствам, што рабіла працу апазіцыі выключна цяжкай.

Абодва рэжымы праявілі не абы-якую здольнасць да выжывання, нягледзячы на эканамічныя цяжкасці і міжнародную ізаляцыю. Ізаляцыя, як ужо было падкрэслена раней, была надзвычай жорсткай у выпадку Сербіі, дзе краіна апынулася пад татальнымі санкцыямі ААН у перыяд з 1992 да 1995 гг. і зноў — з 1999 да 2000 г. Санкцыі знякровілі сербскую эканоміку, што за часамі камунізму была шчыльна інтэгравана ў заходнюю эканоміку. Краіна, што мела сярэднееўрапейскі ўзровень жыцця яшчэ
ў 1980-я гг., апусцілася на адзін узровень з Албаніяй (у найцяжэйшыя часы гіперінфляцыі ў 1992–1993 гг., калі цэны ўзрасталі на некалькі працэнтаў у гадзіну, сярэдні заробак не перавышаў 10 долараў на чалавека ў месяц). У выпадку Беларусі санкцыі былі хутчэй касметычнымі і прыпадалі больш на палітычную, чым на эканамічную

25 Juan J. Linz. The Breakdown of Democratic Regimes: Crisis, Breakdown, and Reequilibration. Baltimore: Johns Hopkins University Press, 1978. P. 16.

сферу. Краіна не мела тады ні вялікай замежнай пазыкі, ні шчыльных гандлёвых ці інвестыцыйных сувязяў з Захадам. Тыя, што ўзніклі за часамі незалежнасці і пачалі разбурацца дзякуючы як антырынкавай эканамічнай палітыцы Лукашэнкі, так і згортванню раней дасягнутых гандлёвых пагадненняў з Еўрасаюзам і ЗША, былі амаль бязбольна кампенсаваныя эканамічным і вайсковым саюзам з Расіяй. Заўважым, што не спрацавала ні жорсткая, ні мяккая ізаляцыя. У сербскім выпадку санкцыі далі лёгкі адказ на пытанне, хто вінаваты ў эканамічнай катастрофе. Тое самае выкарыстоўвалася і Лукашэнкам, які нават імкнуўся кампенсаваць адносную абыякавасць да сваёй асобы паслядоўным правакаваннем новых канфліктаў з заходнімі краінамі і інстытутамі. Самым трагікамічным прыкладам была каналізацыйная вайна ў Драздах.

## 3. Міжнародная ізаляцыя — сродак умацавання аўтарытарнай большасці?

Пад шумок санкцыяў паплечнікі Мілошавіча ажыццявілі некалькі буйных фінансавых махінацыяў (накшталт сумнавядомых пірамідных схемаў), што прывяло да ўзмацнення фінансавага становішча ўнутранага кола сербскага лідэра. Да таго ж абыход санкцыяўператварыўся ў буйны і крыміналізаваны бізнэс (які ўключаў у сябе кантрабанду, нелегальныя банкаўскія схемы, адмыванне грошай і інш.), што прыносіў вялікія дывідэнды паноўнаму рэжыму і тым падпарадкаваным яму бізнэс-колам, прыбыткі якіх залежалі выключна ад санкцыяў. Дарэчы, паводле некаторых крыніцаў, у саўдзеле ў кантрабандзе падазраваўся цэлы шэраг дзеячаў апазіцыі, што дапамагала Мілошавічу яе кантраляваць. Што да сацыяльнага эфекту санкцыяў, трэба зазначыць, ад іх найменей цярпела найбольш патрыярхальная частка грамадства ў сельскай мясцовасці, якая ніколі не была дастаткова заможнай
і ў той жа час, у адрозненне ад гарадскога насельніцтва, заўжды мела сродкі да існавання фактычна з натуральнай сельскай гаспадаркі і таму больш лёгка адаптавалася да эканамічных цяжкасцяў. У гэтым сэнсе эканамічны крызіс і галеча яшчэ больш узмацнялі стары падзел на прыхільнікаў і апанентаў рэжыму, толькі нязначна і паступова мяняючы баланс сілаў паміж імі.

**Табліца.** Стаўленне да заходніх краінаў і міжнародных інстытутаў у Сербіі

| | ЗША | ААН | АБСЕ | ЕС |
|---|---|---|---|---|
| **1992** | | | | |
| Давер | 19 | 21 | 11 | 12 |
| Недавер | 71 | 65 | 73 | 75 |
| **1993** | | | | |
| Давер | 21 | 11 | | 10 |
| Недавер | 67 | 80 | | 83 |

Крыніца: Liljana Bacevic. Srbi i Evropa. Beograd: Centar za antiratnu akciju, 2001.

Што да Беларусі, дык тут канфрантацыя з міжнароднай супольнасцю была скарыстаная Лукашэнкам на сваю карысць. Калі пашырэнне NATO на ўсход выклікала ў палітычных колах Расіі сапраўдную істэрыю, Лукашэнку ўдалося вытаргаваць эканамічныя саступкі, якія дазволілі яму падтрымаць сістэму сацыяльнага забеспячэння, прадухіліць сацыяльнае расслаенне, пазбегнуць росту беспрацоўя і “запусціць” вытворчыя магутнасці, пакінутыя ў спадчыну савецкай эканомікай. У гэтых варунках Беларусь захоўвала найбуйнейшы ў СНД ВУП на душу насельніцтва ў пераліку на прапарцыйную пакупніцкую здольнасць. У гэтыя гады Лукашэнка праводзіў палітыку “сацыяльнае згоды”: у абмен на лаяльнасць да рэжыму грамадству гарантаваўся стабільны ўзровень жыцця, няхай і не далёкі ад гарантаванага фізічнага выжывання. Пры гэтым палітыка “сацыяльнай згоды” суправаджалася актыўным запалохваннем насельніцтва рынкам, рэформамі і жабрацтвам, якое тыя прынеслі ў Расію ды Украіну. На гэтай ніве асабліва шчыравалі дзяржаўныя СМІ.

# 4. Малаімавернасць элітных і кампрамісных варыянтаў трансфармацыі

Сумяшчэнне папулісцкага і султанісцкага падмуркаў аўтарытарнай улады, механізмы “знішчэння альтэрнатываў” непазбежна абмяжоўвалі хоць якія магчымыя варыянты трансфармацыі палітычных рэжымаў ды стваралі падобныя выклікі для дэмакратычных апазіцыйных рухаў у абедзвюх краінах. Так, эфектыўны кантроль над уладным апаратам не пакідаў магчымасці для стварэння ў яго нетрах уплывовай групоўкі прыхільнікаў мяккай лініі, здольнай нейтралізаваць уплывы “ястрабаў” унутры дзяржаўнай эліты і дамагчыся пераменаў шляхам перамоваў з памяркоўна настроенымі прадстаўнікамі апазіцыі (да такой мадэлі трансфармацыі была больш прыдатная старая аднапартыйная сістэма з яе прынцыпам калектыўнага кіраўніцтва). Такі ход падзеяў быў прадухілены існаваннем унутранага кола актыўных паплечнікаў дыктатараў, якія эфектыўна адсоўвалі ад улады больш ліберальна настроеных калег (нагадаем хаця б кадравыяператасоўкі ў лукашэнкаўскім апараце падчас перамоваў з апазіцыяй у 1999 г. ці перад прэзідэнцкімі выбарамі пры канцы 2000 г.). Відавочна, што адсутнічала і магчымасць лібералізацыі зверху, бо самі дыктатары такога кшталту, як правіла, не маюць ілюзій наконт таго, што ім нясе нават невялікае аслабленне рэпрэсіўнага кантролю.

Ва ўмовах, калі элітныя і кампрамісныя варыянты трансфармацыі блакаваў сам рэжым, адзіным варыянтам

палітычнай трансфармацыі заставалася замена рэжыму пры дапамозе і ўдзеле апошняга і галоўнага палітычнага рэсурсу — грамадства (маецца на ўвазе вулічная ці электаральная рэвалюцыя). Аднак гэткая замена можа ажыццяўляцца ў іншых варунках. Між тым сацыяльныя і культурныя фактары, што спрыялі стабільнасці рэжымаў, пакідалі мала шанцаў для выкарыстання "нацыі" ці "грамадзянскай супольнасці" як мабілізацыйнага фактару для апазіцыі. Рэч у тым, што для паспяховага выкарыстання гэтай тактыкі апазіцыя мусіла б найперш усталяваць сваю ідэалагічную гегемонію ў грамадстве накшталт таго, як з блаславення касцёла гэта зрабіла "Салідарнасць" у Польшчы. Аднак ва ўмовах і Сербіі, і Беларусі фактычна не было палітычных і культурных сімвалаў, якія б аб'ядноўвалі, а не раз'ядноўвалі грамадствы, не выклікалі б рэзкага непрымання адной з яго частак. Такім чынам, большасць экстраінстытуцыйных формаў палітычнай барацьбы (такіх, як вулічныя акцыі ці падпольная барацьба) фактычна ажыццяўляліся ў асобных адносна невялікіх па сваіх памерах сацыяльных ды культурных асяродках і часцяком зводзіліся да "навяртання навернутых" — як мінімум да таго моманту, пакуль расчараванне статус-кво і змена палітычных арыентацый не дасягалі крытычнай масы. Фактычна, адзіным варыянтам выхаду з аўтарытарнага рэжыму заставалася фарміраванне "дэмакратычнай супербольшасці" ў грамадстве, прычым гутарка ідзе не проста пра крытычную масу апанентаў рэжыму, але і пра пераважную большасць свядомых прыхільнікаў канкрэтнай, персаніфікаванай у партыях, кааліцыях і персаналіях дэмакратычнай альтэрнатывы. Што, заўважым, не адно і тое ж. І ў выпадку Мілошавіча, і ў выпадку Лукашэнкі іх адмоўныя электараты стабільна перавышалі (цягам часу — у некалькі разоў) дадатныя электараты ўсіх іх апанентаў, разам узятых.

Чаму я раблю акцэнт менавіта на "супербольшасці"? Важным наступным крокам апазіцыі пасля заваявання падтрымкі ў грамадстве з'яўляецца мабілізацыя сваіх

прыхільнікаў для палітычнага дзеяння. Мабілізацыя ці то для вулічнага, ці то для электаральнага дзеяння мусіць пераадолець шэраг бар'ераў, якія натуральна ўзнікаюць у аўтарытарных умовах, — такія, як, напрыклад, страх і няўпэўненасць асобнага чалавека ў тым, што дзякуючы яму палітычнае дзеянне большасці можа дасягнуць поспеху. Ва ўмовах сацыяльнай атамізацыі і разбурэння гарызантальных каналаў камунікацыі паміж людзьмі такі стэрэатып амаль немагчыма пераадолець тым, чым можна дамагчыся перамогі ў дэмакратычных умовах, — перавагай у некалькі працэнтаў грамадскай падтрымкі. Да таго ж, калі гутарка ідзе аб электаральных дзеяннях, менавіта супербольшасць можа запярэчыць фальсіфікацыі выбараў, мабілізаваць грамадскі супраціў фальсіфікацыі (больш падрабязна пра гэта гл. ніжэй на прыкладзе Сербіі).

Перад дэмакратычнай апазіцыяй паўставала задача пераўтварэння нарастаючай масы пасіўных апанентаў рэжыму і значнай часткі "балота" ў сваіх актыўных прыхільнікаў. І тут апазіцыя сутыкалася з праблемай "гары і Магамета". Апазіцыя мусіла пераадолець і грамадскія стэрэатыпы, і культурныя бар'еры, што першапачаткова аддзялялі яе ад большай часткі электарату, дзеля чаго неабходна было збудаваць моцныя інстытуты камунікацыі з грамадствам, дасягнуць арганізацыйнага і ідэалагічнага адзінства ў сваіх шэрагах і, самае галоўнае, выпрацаваць дэмакратычную альтэрнатыву, якая знайшла б падтрымку ў сярэднестатыстычнага грамадзяніна. У апісаных раней палітычных і сацыяльных умовах, што прыводзілі да мінімізацыі грамадскай актыўнасці, адзіным практычным спосабам дайсці да людзей заставаўся ўдзел у палітычным працэсе, арганізаваным рэжымам, а менавіта — у выбарах. Неабходнасць удзелу ў "сістэмным" палітычным працэсе абумоўлівалася яшчэ й тым, што менавіта перамога на выбарах надае легітымнасць прэтэнзіям апазіцыі на ўладу і канчаткова разбурае "квазідэмакратычную" легітымнасць дыктатараў. Тым самым знікае лаяльнасць да лідэра і ягонага ўласнага апарату з боку грамадства, заснаваная на факце яго колішняга абрання народам і ўпэўненасці ў

яго неабмежаваных магчымасцях захавання ўлады праз "рэгуляваны" выбарчы працэс, што прадухіляе ў апазіцыі памкненне здабыць уладу, а ў дзяржапарату — да сабатажу і "здачы" свайго патрона. Забягаючы наперад, падкрэслім, што ў сербскім выпадку падзеі разгорталіся ў паслядоўнасці "выбары — сілавая акцыя — здача лідэра ўнутраным колам", прычым без першай часткі, пераканаўчай перамогі на выбарах, дзве іншыя былі б немагчымыя.

Вядома, перспектыва ўдзелу ў выбарах, арганізаваных рэжымам, стварала небяспеку яго легітымізацыі як унутры краіны, так і па-за яе межамі. Гэткая небяспека была больш адчувальнай у выпадку Беларусі, дзе палітычны працэс быў апанаваны рэпрэсіўным апаратам у значна большай ступені, чым у Сербіі. Аднак праўда і тое, што ў беларускім выпадку быў мацнейшым і папулісцкі падмурак улады, што рабіла яшчэ больш актуальным пытанне ліквідацыі "квазідэмакратычнай легітымнасці" прэзідэнта і пакідала яшчэ менш надзеяў — ва ўмовах старанна падтрымліванай ізаляцыі апазіцыі ад грамадства, — што неінстытуцыйныя метады палітычнага дзеяння змогуць дасягаць сацыяльнага асяроддзя, шырэйшага за апазіцыйную палітычную субкультуру.

Абодва лідэры не мелі ніякіх ілюзіяў наконт таго, да чаго можа давесці лібералізацыя выбарчага заканадаўства. Таму патрабаваць ад іх свабодных і справядлівых выбараў было тое самае, што прасіць іх застрэліцца. Фактычна, ва ўмовах, калі апазіцыя не мела сродкаў для масавай мабілізацыі на неінстытуцыйную палітычную дзейнасць (і болей за тое, як будзе зазначана ніжэй, вулічная мабілізацыя рабілася магчымай праз мабілізацыю электаральную), шлях да свабодных выбараў ляжаў праз перамогу ў выбарах несвабодных.

## 5. “Маральная” палітыка ці палітычная самаізаляцыя?

Важным чыннікам у ператварэнні палітычнай апазіцыі ў эфектыўную і канкурэнтную альтэрнатыву аўтарытарным рэжымам мусіла стаць узаемадзеянне апазіцыйнай палітычнай і грамадзянскай супольнасці. Дарма што гэтыя асяроддзі непазбежна разглядаліся ўладай як дзве часткі апазіцыі і што між імі існавала шчыльная ўзаемасувязь, у дзвюх супольнасцяў былі і ёсць свае спецыфічныя мэты і функцыі. Грамадзянская супольнасць, якая ўвасабляецца ў сетцы няўрадавых арганізацый, — гэта перш-наперш асяроддзе, што спрыяе незалежнай самаарганізацыі грамадзян для абароны грамадскіх (а не вузкапартыйных) інтарэсаў. Вядома, ва ўмовах, калі сама ідэя самаарганізацыі ўспрымаецца палітычным рэжымам як крыніца пагрозы для свайго існавання, грамадзянская супольнасць непазбежна становіцца апазіцыйнай і пераўтвараецца ў пэўную зону аўтаноміі для незалежнай думкі і дзеяння, у адпаведнасці з вядомым прынцыпам “жыць у свабодзе ў несвабоднай краіне”, сфармуляваным былым польскім дысідэнтам Адамам Міхнікам. Палітычная супольнасць непазбежна пераўтвараецца ў зону больш вузкіх інтарэсаў, што азначаюцца інтарэсамі і ідэнтычнасцямі палітычных партыяў і рухаў, а таксама амбіцыямі іх лідэраў. Ва ўмовах, калі і палітычная, і грамадзянская супольнасць з’яўляюцца па сутнасці апазіцыйнымі, на долю другой ускладаецца адказная і цяжкая місія падрыхтоўкі сацыяльнай глебы для палітычных пераменаў, а таксама ў некаторых выпадках — інтэлектуальнай і нават арганізацыйнай дапамогі

палітычнай апазіцыі, дзейнасць якой паводле азначэння рэгулюецца больш кароткімі “часавымі гарызонтамі”. Але каб выконваць сваю ролю, грамадзянская супольнасць павінна мець пэўную ступень арганізацыйнай і ідэалагічнай незалежнасці ад палітычнай апазіцыі — інакш яна пераўтвараецца ў служку вузкіх інтарэсаў у яе шэрагах.

Грамадзянская супольнасць імкнецца дасягнуць пэўных базавых умоваў у грамадстве, змагаецца за прынцыпы, а не за канкрэтных асобаў, і тым самым імкнецца да больш шырокіх мэт ды дзейнічае інакш, чым супольнасць палітычная, для якой прынцып і канчатковая мэта час ад часу саступаюць месца прагматычнаму разліку і кароткачасовым інтарэсам. У той жа час, грамадзянская супольнасць пры аўтарытарызме часта будуецца на спецыфічна вызначаных этычных прынцыпах, што вызнаюць маральным толькі існаванне ў вузкім коле “паралельнага грамадства” (дзе, адпаведна ідэі, і захоўваецца свабода), максімальна ізаляванага ад уплыву і ідэалагічнай апрацоўкі афіцыйнага грамадства. Гэтая ідэя “этычнасці” грамадзянскай супольнасці і самакаштоўнасці “паралельнага грамадства” сваімі каранямі ўзыходзіць да часоў дысідэнцкіх рухаў у Сярэдняй Еўропе, дзе яна ўвасобілася ў прынцыпе “антыпалітыкі”. Зазначым, аднак, што “маральнасць” антыпалітыкі можа быць прызнанай толькі ў выпадку жорстка кантраляваных таталітарных дзяржаваў, дзе дзейнічае вядомы прынцып, пра які добра сказаў Уінстан Чэрчыль: “Забаронена ўсё, а ўсё дазволенае — абавязковае”, і любы ўдзел у палітычным жыцці можа ажыццяўляцца толькі ў межах афіцыйнай ідэалогіі кіроўнай партыі. Відавочна, што аўтарытарныя рэжымы, асабліва тыя, што вызначаюцца пэўнай ступенню інстытуцыйнага “дуалізму”, пад гэтую катэгорыю не падпадаюць. У той жа час “этычная” грамадзянская супольнасць можа стаць і надзвычай эфектыўным сродкам палітычнай барацьбы, але, як я ўжо зазначыў у дачыненні да польскага досведу, гэта магчыма толькі тады, калі сама аўтарытарная ўлада (як правіла, навязаная грамадству звонку) ператвараецца ў палітычную субкультуру, што

не мае ідэалагічнага ўплыву на грамадства. Ва ўмовах, калі разбурэнне квазідэмакратычнай легітымнасці ўлады і стварэнне грамадскай супербольшасці ў падтрымку дэмакратычнай альтэрнатывы з’яўляюцца неабходнымі передумовамі дэмакратычнай трансфармацыі, падштурхоўванне “этычнай” грамадзянскай супольнасцю палітычнай апазіцыі да адыходу ў “паралельнае грамадства” фактычна дэмабілізуе апошнюю і пакідае грамадства без дэмакратычнай альтэрнатывы.

Калі вярнуцца да палітычнай апазіцыі, дык галоўнай прычынай, што перашкаджала яе эфектыўнай дзейнасці ў абедзвюх краінах, была стракатасць паходжання, палітычных, ідэалагічных і культурных арыентацыяў яе асобных плыняў і лідэраў. Часцяком сацыяльныя супярэчнасці ў расколатых грамадствах прыводзілі да расколаў у асяроддзі апазіцыі не толькі на “традыцыйнай ідэалагічнай” глебе (левыя супраць правых, лібералы супраць кансерватараў і г. д.), але і ў больш фундаментальных пытаннях, такіх, як дзяржаўнасць, нацыя і нават сама дэмакратыя. Да таго ж, новаўтвораныя апазіцыйныя рухі і партыі ва ўмовах адсутнасці сталых дэмакратычных традыцый часта больш клапаціліся пра ўласную самаідэнтыфікацыю і замацаванне на палітычнай арэне, чым пра абарону шырэйшых надпартыйных інтарэсаў, чаму спрыялі неабмежаваныя палітычныя амбіцыі іх лідэраў.

Вось жа, лёс дэмакратычнай трансфармацыі ў аўтарытарных умовах непасрэдна залежаў ад здольнасці прыхільнікаў пераменаў да змайстравання дэмакратычнай альтэрнатывы пры палітычных і сацыяльных умовах, што спрыялі яе заняпаду. Палітычная апазіцыя мусіла прайсці праз колы няўдач, расчараванняў і ўнутраных канфліктаў.

Галоўнымі чыннікамі поспеху сербскай апазіцыі было не толькі расчараванне пераканаўчай большасці сербскага грамадства ў Мілошавічы, але і плён доўгага перыяду навучання на ўласных памылках, што ўрэшце выпрацавала

ў апазіцыі волю да яднання і ўгрунтавала яе ў грамадстве дзякуючы ўдзелу ў “сістэмнай палітыцы”. Фактарам поспеху было таксама эфектыўнае супрацоўніцтва паміж палітычнай апазіцыяй і грамадзянскай супольнасцю, якая “загадзя падрыхтавала” дэмакратычныя перамены.

Галоўнымі чыннікамі дагэтулешняй палітычнай бездапаможнасці беларускай апазіцыі былі яе няздольнасць вырвацца з замкнутага кола існавання ў паралельным грамадстве і пераадолець унутраныя супярэчнасці, што працягвалі раз’ядноўваць яе нават тады, калі фармальна яна гуртавалася.

# Частка III

## 1. У замкнёным коле — досвед палітычнага самазабойства сербскай і беларускай апазіцыі

Сербская апазіцыя з самага пачатку была падзеленая на партыі і групоўкі, якія паміж сабой канкуравалі не менш, чым з уладай. Галоўнай лініяй падзелу былі супярэчнасці паміж нацыянальна-традыцыйнай і ліберальна-мадэрнізацыйнай плынямі ў яе шэрагах. Галоўным прадстаўніком першай плыні на працягу дзесяцігоддзя заставаўся Сербскі рух аднаўлення (СРА), які ўзначальваў Вук Драшкавіч. СРА паўстаў у 1989 г. як спроба палітычных аўтсайдэраў пагуляць на полі нацыянал-радыкальнага руху, ачоленага Мілошавічам, і, калі атрымаецца, перахапіць у яго ініцыятыву. Галоўным пунктам крытыкі Мілошавіча Драшкавічам заставалася яго малая адданасць ідэям “вялікай Сербіі”, а не мэты і метады “антыбюракратычнай рэвалюцыі”. Галоўным палітычным саюзнікам Драшкавіча ў той час быў пазнейшы лідэр крайне нацыяналістычнай Сербскай радыкальнай партыі Ваіслаў Шэшаль, з кім яны першапачаткова былі аднапартыйцамі. Ліберальную плынь у апазіцыі ўзначальвала Дэмакратычная партыя (ДП) філосафа, вучня Юргена Хабермаса Зорана Джынджыча. Гэтая плынь мела галоўнымі мэтамі эканамічнае развіццё і сацыяльную мадэрнізацыю сербскага грамадства. Калі СРА аддавала перавагу вулічнай палітыцы, ДП рабіла стаўку на “сістэмную палітыку”.

У той жа час, кожная частка апазіцыі імкнулася да таго, каб прыстасаваць свае праграмы да агульнай атмасферы істэрыі і ксенафобіі, якую распальвала тады афіцыйная прапаганда. У гэтых умовах сербскія апазіцыйныя партыі станавіліся выключна апартуністцкімі і лёгка мімікравалі ад “нацыянал-радыкалізму” да “памяркоўнага лібералізму”. Гэтыя пераходы былі матываваныя таксама памкненнем адмежавацца ад іншых апазіцыйных партый і атакаваць сваіх канкурэнтаў на адным і тым жа кавалку палітычнага поля. Адзінае, што іх амаль заўжды аб’ядноўвала, гэта апазіцыйнае стаўленне да ўлады. Апазіцыйныя партыі часцяком “адмаўляліся ад любых прынцыпаў, палітычнай праграмы, ідэі, а галоўным аб’ектам іх дзейнасці быў Слабадан Мілошавіч. (...) Іх галоўным прынцыпам было “быць супраць”, нават калі гэта патрабавала змянення партыйнай праграмы, расколу ў партыі ці кампрамісу з партыяй вайны ў Пале (сталіцы сербскіх паўстанцаў у Босніі. — **Аўт.**)”[26]. Так, СРА з нацыянальна-радыкальнага лагеру ў 1990–1991 гг. у 1992 г. перакінулася ў “партыю міру” (рэзка крытыкуючы Мілошавіча за развязванне ваеннага канфлікту). Аднак у 1997 г. гэта не перашкодзіла Драшкавічу падтрымаць авантуру ў Косаве і праз год нават заняць пасаду віцэ-прэм’ера федэральнага ўрада. Джынджыч, у сваю чаргу, прымкнуў да “партыі вайны” ў 1993–1994 гг., калі шукаў кантактаў з баевікамі Караджыча ў Босніі. За гэта ўлады нават дазволілі Джынджычу мець свой тэлевізійны канал.

З непаслядоўнасці і ўнутраных супярэчнасцяў у стане апазіцыі ўмела карыстаўся Мілошавіч, які ангажаваў асобных яе лідэраў і нават цэлыя партыі да супрацы ды пазіцыянаваў сябе грамадству як адзіную памяркоўную альтэрнатыву “фашыстам” (Шэшалю і пэўны час Драшкавічу) і “заходнім наймітам” (ліберальным партыям). Такія паводзіны апазіцыйных лідэраў таксама зніжалі давер да іх з боку грамадства, якое разглядала

26 Dubravka Stojanovic, “The Traumatic Circle of Serbian Opposition,” in The Road to War in Serbia: Trauma and Catharsis, ed. Nebojsa Popov (CEU Press, 2000), p. 469.

іх палітычную дзейнасць выключна як барацьбу за ўласныя інтарэсы. Адзінымі апазіцыйнымі партыямі, якія не супрацоўнічалі з Мілошавічам, былі Дэмакратычная партыя Сербіі (ДПС) Ваіслава Каштуніцы (памяркоўна-нацыяналістычная партыя, што ў 1992 г. адкалолася ад ДП) і Грамадзянскі саюз Сербіі (ГСС) Весны Пешыч. У рэшце рэшт, непрадказальнасць апазіцыйных палітыкаў (таксама як і стараннае падсілкоўванне ультрарадыкальнай альтэрнатывы ў асобе Шэшаля) дазволілі Мілошавічу прадставіць сябе як найбольш прадказальнага палітыка і для заходняй супольнасці. Дзякуючы гэтаму Мілошавіч выйшаў фактычна сухім з прайгранай ім вайны ў Босніі ў 1995 г., калі ЗША і Еўрасаюз зрабілі на яго стаўку як на партнёра пры падпісанні дэйтанаўскіх пагадненняў, спалохаўшыся прыходу да ўлады нацыянал-радыкалаў. Мілошавіч займеў імідж міратворца і нават здолеў умацаваць свой рэжым праз заходнія інвестыцыі.

Пачынаючы з першых шматпартыйных прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбараў у 1990 г., сербская апазіцыя канкуравала з рэжымам на федэральных і рэспубліканскіх парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбарах, а таксама на выбарах у мясцовыя органы ўлады. Апазіцыйныя перадвыбарныя кампаніі звычайна пачыналіся за пару дзён да галасавання, а перад гэтым партыйныя лідэры доўга высвятлялі, ці трэба ў іх наогул удзельнічаць, і выстаўлялі рэжыму ультыматумы з пагрозай байкоту, калі іх патрабаванні не будуць выкананыя. Пасля таго як іх ультыматумы адкідаліся, яны нарэшце пастанаўлялі ўзяць у выбарах удзел, звычайна праводзілі выключна негатыўныя кампаніі і нарэшце, пасля паразы, пратэставалі супраць фальсіфікацыі выбараў[27].

Адсутнасць унутранага адзінства каштавала апазіцыі палітычнага ўплыву і прыводзіла да таго, што магчымасці дасягнуць палітычных пераменаў раней за 2000 г.

27 Srecko Markovic, “The Parliamentary Elections of 1990, 1992, and 1993”, in Challenges of Parliamentarism: The Case of Serbia in Early 1990s (Belgrade: Institute of Social Sciences, 1995), p. 45—68.

сістэматычна страчваліся. Цікава, што ўжо ў 1993 г. сукупная выбарчая падтрымка апазіцыйных партый і рухаў, г. зн. складзеныя разам галасы іх выбарцаў, перасягнула адпаведную падтрымку СПС. Аднак галасы выбарцаў расцярушваліся між некалькімі партыямі і ва ўмовах прапарцыйнай выбарчай сістэмы, заснаванай на рэгіянальных спісах, партыі з найбольшай колькасцю галасоў атрымлівалі значную перавагу ў парламенце[28]. А гэтымі партыямі звычайна былі СПС і СРП.

Трэба адзначыць, што спробы аб’яднаць апазіцыю рабіліся ўвесь час. Першы апазіцыйны альянс — Аб’яднаная апазіцыя Сербіі — створаны для ўдзелу ў парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбарах 1990 г., распаўся яшчэ да выбараў. Другі, Дэмакратычны рух Сербіі (сербская абрэвіятура ДЭПОС), аб’яднаў толькі блізкія да Дражкавіча партыі і быў праігнараваны Джынджычам. Ён праіснаваў троху больш за год (1992–1993 гг.). Аднак акурат ДЭПОС даў першы сапраўдны бой Мілошавічу, калі на прэзідэнцкіх выбарах у Сербіі ў 1992 г. яго кандыдат, югаслаўскі прэм’ер і амерыканскі мільянер Мілан Паніч, дасягнуў неблагога выніку.

Першым сапраўды паспяховым прыкладам аб’яднання сербскай апазіцыі стала стварэнне ў 1996 г. кааліцыі “Заедна” (“Разам”) для ўдзелу ў федэральных і мясцовых выбарах у лістападзе таго ж года. “Заедна” ўпершыню аб’яднала дзве найбуйнейшыя апазіцыйныя партыі (СРА і ДП), а таксама мноства меншых апазіцыйных рухаў. Фактычна ўпершыню ў гісторыі Сербіі паўстаў не проста аб’яднаны апазіцыйны рух, але палітычная альтэрнатыва, якая выразна падкрэслівала сваю праеўрапейскую арыентацыю. Гэта не было адназначна прынята

28 У выбарах па рэгіянальных спісах колькасць мандатаў, якая аспрэчваецца ў адным дадзеным рэгіёне, невялікая і не гарантуе месцаў у парламенце, нават калі партыя перасягне праходны бар’ер у межах усёй краіны. Напрыклад, калі лічба меншая за 20, то для партыі, што набярэ 5 адсоткаў галасоў, гэтага можа быць недастаткова для здабыцця аднаго месца ў рэгіёне. Натуральна, гэтыя месцы адыходзяць да больш вялікіх партыяў.

грамадствам. “Заедна” прайграла выбары ў федэральны парламент, дзе зноў, другі раз пасля 1992 г., узнікла “чырвона-карычневая” кааліцыя, што аб’яднала СПС і СРП, аднак атрымала пераканаўчую перамогу на мясцовых выбарах у амаль усіх буйных гарадах (уключаючы Бялград), дзе была высокая канцэнтрацыя апазіцыйнага электарату. Як бачым, праца на “жорсткі электарат” прынесла плён менавіта на мясцовых выбарах.

У адказ Мілошавіч зрабіў адну са сваіх найбуйнейшых палітычных памылак: ён паспрабаваў скасаваць вынікі выбараў праз падкантрольную яму Цэнтральную выбарчую камісію пасля таго, як перамога апазіцыі ўжо была афіцыйна абвешчаная. Адказам на гэты крок была масавая і бесперапынная акцыя вулічнага пратэсту, што ахапіла Бялград ды іншыя “апазіцыйныя” гарады і працягвалася некалькі месяцаў, збіраючы толькі ў сталіцы да некалькіх сотняў тысячаў чалавек штодня. Аснову пратэстоўцаў складалі маладыя адукаваныя інтэлектуалы і студэнты.

Масавыя пратэсты зрабілі ўплыў на ўсё грамадства. Упершыню Мілошавічу быў кінуты сапраўды магутны выклік як на сістэмным, так і на пазасістэмным палітычным полі (заўважым, што ланцужок “перамога на выбарах — масавы вулічны пратэст” спрацаваў менавіта ў такой паслядоўнасці, якая потым паўтарылася і на прэзідэнцкіх выбарах у 2000 г.), што адбілася ў свядомасці і электаральнага “балота”, і прыхільнікаў рэжыму. СПС за тры месяцы згубіла каля паловы сваіх прыхільнікаў, і адгэтуль яе ніколі не падтрымлівала больш за чвэрць электарату[29]. Урэшце, масавасць і бесперапыннасць пратэсту зрабілі сваю справу, і ўлады прызналі вынікі мясцовых выбараў. Новая гарадская рада Бялграда абрала Джынджыча мэрам сталіцы. Гэта мела вялікія палітычныя і сацыяльныя наступствы. Па-першае, упершыню была

29 Zoran Slavujevic, “Partijska identifikacija gradjana pre i posle izbora 2000,” in Partijska scena Srbije posle 5 oktobra 2000, urednik Vladimir Goati (Beograd: Friedrich Ebert Stiftung i institut drustvenih nauka, 2002), p. 216.

даведзеная магчымасць перамогі над рэжымам у “сістэмнай палітыцы” (маецца на ўвазе сербскі досвед, у сусветным такіх выпадкаў “шокавых выбараў”, калі дыктатары прайгравалі, гуляючы паводле сваіх жа правілаў, не менш за дваццаць)[30]. Па-другое, да апазіцыі перайшоў кантроль за тэрыторыяй (а разам з гэтым і за адміністрацыйнымі, фінансавымі і інфармацыйнымі рэсурсамі), на якой пражывала каля траціны насельніцтва краіны. Мясцовыя газеты, радыё- і тэлестанцыі мелі вялікую долю ў сербскім інфармацыйным полі, і гэта дазволіла прабіць інфармацыйную блакаду, створаную ўладамі. Па-трэцяе, перамога апазіцыі прывяла да імклівага росту сацыяльнай актыўнасці. Мноства няўрадавых арганізацый, што адыгралі выключную ролю ў падзеях 2000 г., узніклі менавіта пасля лютага 1997 г. Сярод іх можна назваць рух “Адпор”, што ўзнік годам пазней у студэнцкім асяроддзі ўдзельнікаў зімовых падзей у Бялградзе, а таксама аналітычны асяродак G-17, які на пэўным этапе свайго існавання адыграў ролю “мазгавога цэнтру” дэмакратычнай апазіцыі. Фактычна былі створаныя неабходныя перадумовы для дэмакратычнай трансфармацыі ў Сербіі. Але гэтыя перадумовы яшчэ больш за тры гады не выкарыстоўваліся, паколькі новы вiток унутранай барацьбы ў апазіцыі адштурхнуў яе далёка назад.

Наступным этапам дзейнасці “Заедна” была падрыхтоўка да парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў у Рэспубліцы Сербскай, што мусілі адбыцца ўвосень 1997 г. Адразу пасля прызнання вынікаў мясцовых выбараў лідэры кааліцыі дамовіліся, што СРА вылучыць кандыдата на пасаду прэзідэнта, ДП — прэм’ер-міністра, а Грамадзянскі саюз Сербіі — спікера парламента. Гэта азначала, што пасада прэзідэнта мусіла адысці да Драшкавіча. Грамадзянскі саюз Сербіі, незадаволены гэтым, сабатаваў пагадненне фактычна з моманту яго падпісання, заявіўшы, што Драшкавіч не мае досведу для кіравання дзяржавай.

30 Гл. Samuel Huntington, *The Third Wave,* а таксама мой артыкул “Выборы в авторитарных режимах: фарс или шанс для перемен?”, *Адкрытае грамадства.* 2001. №1(10).

Незадаволеныя пераважалі і ў іншых апазіцыйных групоўках. Тактыкай іх барацьбы супраць Драшкавіча была абраная адмова ад удзелу ў выбарах. ГСС, ДП і ДПС заявілі ў траўні, што яны прымуць удзел у выбарах толькі тады, калі будуць выкананыя іх патрабаванні забяспечыць свабодныя і справядлівыя выбары. Джынджыч і Драшкавіч зноў змянілі сваю палітычную тактыку, што было абумоўлена выключна іх імкненнем рэалізаваць свае бягучыя палітычныя інтарэсы. Першы пазіцыянаваў сябе як радыкал, а другі — як памяркоўны "сістэмны" палітык.

Урэшце сітуацыю выкарыстаў Мілошавіч, які згуляў на падзелах у апазіцыі. Ён правёў сепаратныя перамовы з Драшкавічам і паабяцаў яму, калі той не здыме сваёй кандыдатуры, лібералізаваць інфармацыйную палітыку і запрасіць на выбары міжнародных назіральнікаў. Пасля перамоваў Драшкавіч заявіў аб кампрамісе, дасягнутым паміж "кіраўніком дзяржавы і лідэрам дэмакратычнай апазіцыі", і дадаў, што перашкоды для ўдзелу ў выбарах знятыя. За тое, што Джынджыч працягваў настойваць на байкоце, Драшкавіч сіламі сваёй фракцыі і СПС зняў яго з пасады мэра Бялграда. Такім чынам, Драшкавіч перайшоў у лагер Мілошавіча (з якога ён быў выгнаны падчас бамбардаванняў у 1999 г., калі зноў выступіў з крытыкай рэжыму). Аднак яго абвінавачанні ў адрас былых саюзнікаў, "чаму яны цяпер адмовіліся ўдзельнічаць у выбарах, калі ў папярэдніх выбарах згадзіліся ўдзельнічаць на тых жа самых, калі не горшых умовах"[31], мелі пад сабой грунт. Байкот, як паказалі выбары і падзеі, што адбыліся пасля іх, меў згубныя наступствы не толькі для самой апазіцыі, але і для ўсяго грамадства.

Вынікі першага туру прэзідэнцкіх выбараў аказаліся найгоршымі для СПС за ўвесь час яе існавання. Яе кандыдат Зоран Ліліч (Мілошавіч не мог удзельнічаць у выбарах праз канстытуцыйнае абмежаванне тэрмінаў і таму загадзя арганізаваў сваё абранне на пасаду прэзідэнта Югаславіі федэральным парламентам) набраў

31 Thomas, *Politics of Serbia in the 1990s,* p. 345.

35,6% галасоў — столькі ж, колькі Мілошавіч, калі прайграў выбары ў 2000 г. Драшкавіч праз частковы байкот выбараў апазіцыяй здолеў набраць толькі 20%. Сапраўдным шокам стаў поспех Шэшаля, што атрымаў 28% галасоў. Выбарцы, якія не прыйшлі галасаваць (у першым туры ўзялі ўдзел 57% выбарцаў, што азначала, што спробы дэлегітымізаваць выбары праз байкот праваліліся), а таксама значная частка тых, хто прагаласаваў за Шэшаля, былі нявыкарыстаным рэсурсам апазіцыі, які пры яе кансалідаваным удзеле мог прынесці ёй перамогу ўжо ў 1997 г. Шэшаль проста захапіў пратэстны электарат, што праз байкот і грамадскае расчараванне ў апазіцыі застаўся сам-насам з стаўленікам Мілошавіча! Болей за тое, такія ж самыя наступствы меў і байкот федэральных выбараў у 1992 г., якія апазіцыя ігнаравала з прычыны “нелегітымнасці” саюзнай канстытуцыі. Фактычна байкоты пайшлі на карысць самай небяспечнай для дэмакратаў аўтарытарнай палітычнай альтэрнатывы. У другім туры Шэшаль выйграў выбары, якія, аднак, былі прызнаны неадбытымі дзеля недастатковай яўкі (паводле дадзеных Цэнтрвыбаркама, яна склала 48,97%). Падчас перавыбараў з тымі ж самымі асноўнымі ўдзельнікамі (апазіцыя, за выняткам СРА, іх зноў байкатавала) Драшкавіч набраў толькі 15% галасоў, а перамогу ў другім туры атрымаў паплечнік Мілошавіча Мілан Мілуцінавіч, прычым выключна коштам фальсіфікацыі галасоў у Косаве (дзе за яго “прагаласавалі” 300 тысяч албанцаў).

Вынікам выбараў 1997 г. было тое, што Мілошавіч пры дапамозе апазіцыі пазбег падзення свайго рэжыму. Аднак для яго стабільнасці яму была неабходная кааліцыя з СРП. Адроджаная “чырвона-карычневая” кааліцыя (за якую прагаласавала, нават з улікам фальсіфікацый, усяго трэцяя частка ўсіх выбарцаў) вырашыла зрабіць палітычныя ачкі на антыалбанскай кампаніі ў Косаве і распальванні антызаходняй істэрыі ў грамадстве. Апазіцыя апынулася ў разгубленасці. Яе адна частка (ДП і ДПС) была маргіналізаваная, іншая (СРА) — цалкам абсарбаваная рэжымам.

Пачынаючы з 1997 г. у Сербіі склалася сталая антыпрэзідэнцкая большасць. Такім чынам, сацыяльныя ўмовы для змянення палітычнага рэжыму існавалі ўжо за тры гады да таго, калі гэта насамрэч адбылося.

Падзел у стане беларускай апазіцыі на працягу мінулага дзесяцігоддзя быў абумоўлены некалькімі фактарамі. Першы — супярэчнасці паміж нацыянальна-дэмакратычнымі сіламі, якія сімвалізаваў БНФ, з аднаго боку, і ліберальнымі ды левымі плынямі — з іншага. Фактарам падзелу тут было нацыянальнае пытанне (стаўленне да беларускай мовы і незалежнасці), а таксама персанальныя непаразуменні апазіцыйных лідэраў. Прэтэнзія лідэра БНФ Зянона Пазняка на выключны статус сваёй партыі ў апазіцыйным руху ў сярэдзіне 1990-х гг. абярнулася яе паслядоўнай адмовай супрацоўнічаць з іншымі апазіцыйнымі сіламі. Пасля правалу на парламенцкіх выбарах 1995 г. і адноснага поспеху лібералаў з АГП на давыбарах у тым жа годзе БНФ страціў ролю вядучай апазіцыйнай сілы. Яго стаўка на аднаасобнае лідэрства сярод дэмакратычных сілаў толькі спрыяла ягонаму палітычнаму заняпаду. Тым не менш БНФ з цягам часу здолеў выпрацаваць больш прагматычнае стаўленне да іншых апазіцыйных сілаў (чаму спрыяў рост у іх незалежніцкіх настрояў у другой палове 1990-х гг.), а таксама абнавіў сваю ўласную палітычную стратэгію (выявіў большую раскаванасць ува ўзаемадзеянні з "расійскамоўнымі" партыямі). Сам Зянон Пазняк пасля эміграцыі ў 1996 г. страціў уплыў на сваю партыю. Ён адкрыта сабатаваў "альтэрнатыўныя" прэзідэнцкія выбары 1999 г., дарма што раней даў згоду на ўдзел у іх. Болей за тое, пасля ён заявіў, што акурат іх зрыў быў мэтай яго вылучэння. У выніку Пазняк пазбавіўся пасады старшыні партыі БНФ і мусіў стварыць з рэштак сваіх сімпатыкаў Кансерватыўна-хрысціянскую партыю БНФ (КХП-БНФ), якую нават у апазіцыйным лагеры ніхто не ўспрымаў усур'ёз.

Беларускай дэмакратычнай апазіцыі таксама былі ўласцівыя ўнутраныя падзелы, у прыватнасці, на "нацыяналістаў" і "лібералаў". Акурат гэткі падзел прывёў да разгрому

апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах 1994 г. Іншым фактарам, што абумовіў пройгрыш, была яе няздольнасць да супрацы з прагматычна настроенымі прадстаўнікамі дзяржаўнай эліты. Маецца на ўвазе не толькі частка кебічаўскага атачэння, але і функцыянеры накшталт Генадзя Карпенкі, чый рэйтынг падчас прэзідэнцкай кампаніі 1994 г. набліжаўся да першай двойкі. Карпенка пазіцыянаваў сябе так, каб прывабіць "сярэдняга выбарца", чым выгадна адрозніваўся ад Пазняка з Шушкевічам, чый пік папулярнасці тады ўжо прайшоў. Яшчэ больш катастрафічным быў разгром у першым туры парламенцкіх выбараў у 1995 г., калі апазіцыя зноў падзялілася на "нацыянальны" і "ліберальны" блокі, а "ліберальны", у сваю чаргу, раскалоўся яшчэ на некалькі плыняў. Тады фрагментаванне дэмакратычных сілаў садзейнічала поспеху камуністаў, аграрыяў і лукашэнкаўскай вертыкалі. Толькі аб'яднанне ў другім туры, які адбыўся дзеля нізкай яўкі ў першым, дазволіла стварыць апазіцыйныя фракцыі ў Вярхоўным Савеце 13-га склікання, але магчымасць дасягнуць "крытычнай масы", што прадухіліла б рэферэндум лістапада 1996 г., усё роўна была страчаная.

Як гэта ні парадаксальна, але аб'яднанню апазіцыі пэўным чынам спрыяў сам Лукашэнка, чыё імкненне пазбавіць сваіх апанентаў хоць якога ўплыву на палітычны працэс падштурхоўвала да аб'яднання "нацыяналістаў" і "лібералаў", былых нефармалаў і прадстаўнікоў наменклатуры, левых і правых, нават былых паплечнікаў Лукашэнкі (чый уплыў на апазіцыю з цягам часу зрабіўся надзвычай моцным — дастаткова прыгадаць імёны Ганчара, Лябедзькі, Нісцюка, Захаранкі, Лявонава, Фядуты і іншых) і тых, хто ніколі з ім не супрацоўнічаў, г. зн., па сутнасці, усіх тых, хто ўтвараў палітычную сцэну краіны да 1994 г.

Такое згуртаванне, безумоўна, было сатканае з супярэчнасцяў, найважнейшае з якіх праявілася падчас падзеяў 1996 г. Новай лініяй расколу ўнутры апазіцыі стала пытанне палітычнай тактыкі, а менавіта — выбар паміж "вулічнай" і "сістэмнай" палітыкай. Каб зразумець крыніцы

гэтага расколу, трэба звярнуцца да генезісу беларускай апазіцыі. У адрозненне ад сербскай, якая паўстала ў перыяд "прамога" пераходу ад камуністычнай да посткамуністычнай дыктатуры і не мела перыяду, які вышэй быў азначаны як "дэмакратычны эпізод", беларуская апазіцыя паўстала і ўсталявалася ва ўмовах імклівай лібералізацыі, што распачалася яшчэ ў часы перабудовы. Сваімі першымі поспехамі яна абавязаная не толькі і не столькі ўласным намаганням, колькі той хвалі дэмакратычных пераменаў, якая захліснула Усходнюю Еўропу і аказала моцны ўплыў на палітычныя падзеі ўнутры Беларусі (абвяшчэнне незалежнасці ў жніўні 1991 г. было б наўрад ці магчымым без няўдачы жнівеньскага перавароту ў Маскве, болей за тое, сам апазіцыйны рух у форме БНФ быў фактычна скапіяваны сваімі стваральнікамі з прыбалтыйскіх першаўзораў).

У адрозненне ад Сербіі, якая была абкружаная з усіх бакоў аўтарытарнымі рэжымамі, часам створанымі былымі камуністычнымі функцыянерамі (Румынія, Харватыя, Боснія і Македонія), Беларусь знаходзілася ў адносна лепшым становішчы, і шмат каму здавалася, што лукашэнкаўскі рэжым — прыкрая выпадковасць, якая хутка згіне без астатку. Сярод багата якіх апазіцыйных дэпутатаў пераважала думка, што рэжым персанальнай улады, усталяваны пасля лістападаўскага рэферэндуму, пратрымаецца ўсяго пару месяцаў. Сёння, калі рост антыдэмакратычных тэндэнцый у суседніх "славянскіх" краінах (Расіі і Украіне) стаў відавочным, такая пазіцыя падаецца надзвычай наіўнай. Але апазіцыйна настроеная публіка спадзявалася, што эканамічны крызіс і палітычны ціск з боку міжнароднай супольнасці (сюды шмат кім з апазіцыянераў уключалася і Расія) зробяць сваю справу. Чаму менавіта эканоміка і расійскі фактар на працягу пэўнага часу спрыялі, а не пярэчылі мацаванню лукашэнкаўскага рэжыму, я дэталёва растлумачыў у сваіх папярэдніх публікацыях[32].

32 Гл. мае артыкулы "Эканамічная палітыка Лукашэнкі" і "Палітычная эканомія беларуска-расійскай інтэграцыі" ў зборніку "Беларуска-расійская

Стаўка на “вонкавыя” сілы была выкліканая таксама паразамі ў выбарчых кампаніях, а больш канкрэтна — адсутнасцю самааналізу ўласнай палітычнай стратэгіі, што абумовіла гэтыя паразы, а таксама схільнасцю тлумачыць іх не ўласным палітычным непрафесіяналізмам, а масавымі фальсіфікацыямі выбарчага працэсу і “дрымучай дурасцю беларускага народа”. Дзеля гэтага пэўныя колы апазіцыі перасталі ўспрымаць грамадства як саюзніка ў барацьбе за дэмакратычныя перамены (вынятак складала грамадска актыўная частка жорсткага апазіцыйнага электарату ў Менску і іншых буйных гарадах, што мела стварыць аснову для ўціску на ўлады). Да таго ж палітычная стратэгія апазіцыі пасля лістапада 1996 г. у асноўным зводзілася да таго, каб, дабіўшыся прызнання еўрапейскай супольнасцю і ЗША рэшткаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання як адзінага легітымнага парламента краіны, забяспечыць вонкавую дэлегітымізацыю Лукашэнкі. Удзел у “сістэмнай палітыцы” супярэчыў гэтай стратэгіі.

Такім чынам, чыннікамі, што вызначылі “пазасістэмную” палітычную стратэгію беларускай апазіцыі (з двума асноўнымі элементамі — “вуліцай” і “вонкавымі сіламі”) былі: 1) так і не спраўджаныя спадзяванні на глыбокі эканамічны крызіс, што выклікаў бы масавы сацыяльны пратэст супраць рэжыму (і, значыцца, недаацэнка яго сацыяльнай трываласці і пераацэнка пратэстных настрояў у беларускім грамадстве); 2) перабольшанне ролі вонкавых фактараў у беларускім палітычным працэсе (што азначала першынство вонкавай дэлегітымізацыі рэжыму перад разбурэннем яго ўнутранай легітымнасці, якая трымалася на палітычнай культуры той часткі грамадства, што падтрымлівала Лукашэнку менавіта за яго дыктатарскія метады, а таксама на азначаным вышэй “сацыяльным кантракце” рэжыму і грамадства ды няведанні большай часткай “нявызначаных” і пасіўных праціўнікаў рэжыму інфармацыі пра палітычныя альтэрнатывы); 3) паступовае расчараванне грамадства ў Лукашэнку і падзенне яго папулярнасці, што пачалося з 1998 г., памылкова

інтэграцыя. Аналітычныя артыкулы” (Менск: Энцыклапедыкс, 2002).

інтэрпрэтавалася апазіцыйнымі лідэрамі як сведчанне росту аўтарытэту апазіцыі і іх саміх. Лідэр АГП Анатоль Лябедзька ў сярэдзіне 2000 г. заявіў, што 30% беларускага электарату ўжо гатовыя галасаваць "нават за слуп, на якім напісаныя дэмакратычныя лозунгі". Цяжка сказаць, быў гэта самападман ці свядомая гульня, але на самай справе пры 30% "жорсткага" антылукашэнкаўскага электарату толькі трохі больш за 10% падтрымлівалі канкрэтную апазіцыйную альтэрнатыву. Астатняя частка на выбарах прагаласавала б так, як і "балота", якое, як сведчыць досвед, заўжды крочыць за мацнейшым. Такая пазіцыя, аднак, стварала ілюзію, што сацыяльная база апазіцыі ўзнікне сама сабой і асаблівых намаганняў для яе стварэння ці павелічэння прыкладаць не трэба.

Усё гэта стварыла дзіўную сітуацыю ў беларускай палітыцы. З аднаго боку, Лукашэнка сам паслядоўна выціскаў апазіцыю з палітычнага поля, выпхнуўшы яе лістападаўскім рэферэндумам з "першага" ў "трэці" сектар. Аднак апазіцыя сама свядома зрабіла стаўку на паралельнае грамадства як форму не толькі свайго існавання, але і палітычнай стратэгіі: у ім існавалі свае інстытуты (Вярхоўны Савет 13-га склікання, "паралельны ўрад" у форме Нацыянальнага выканаўчага камітэта і "паралельная" цэнтральная выбарчая камісія на чале з Віктарам Ганчаром), свае палітычныя працэсы ("альтэрнатыўныя" прэзідэнцкія выбары), свае медыі, нават свае святы, мастацтва, музыка і культура. Так арганізоўвалася не этнічная ці культурная, а менавіта палітычная меншасць, якая па логіцы мусіла пашыраць свой уплыў у "афіцыйным" грамадстве. Папросту кажучы, паралельнае грамадства на працягу доўгага часу чакала, што "гара прыйдзе да Магамета". Аднак палітычнае, арганізацыйнае і ў пэўнай ступені культурнае адасабленне ад асноўнай часткі электарату толькі павялічвала дыстанцыю паміж імі.

Як і ў Сербіі, у Беларусі фактычна не апраўдала сябе стаўка на масавыя пратэсты як адзіны альбо галоўны

сродак палітычнай барацьбы. Колькасць удзельнікаў "маршаў свабоды" 1999–2000 гг. не перавышала 30 тысячаў чалавек, што было яўна недастаткова, каб пераканаць грамадства ці хаця б уласных прыхільнікаў у колькаснай перавазе апазіцыі над уладай. Больш за тое, склад удзельнікаў быў звычайна аднолькавы: аснову ўсіх дэманстрацыяў складалі "ветэраны вулічнай барацьбы", што фактычна рабіла акцыі пратэсту "навярненнем ужо навернутых". Прадказальнымі былі дні, часы і нават мэты масавых акцыяў, што паступова пераўтварыліся ў дэманстрацыю субкультурнай тоеснасці, "прывязаную" да памятных датаў у палітычным календары (15 і 25 сакавіка, 6 красавіка і г. д.). Паступовае зніжэнне масавасці акцый адлюстравала расчараванне нават апазіцыйна настроенай часткі грамадства ў іх эфектыўнасці.

Бадай што першай спробай апазіцыі прыцягнуць да сябе ўвагу ўсяго грамадства было правядзенне альтэрнатыўных прэзідэнцкіх выбараў у 1999 г. (Гэтую акцыю можна прызнаць першай, калі не лічыць кампаніі збору подпісаў за "Хартыю-97". Сама "Хартыя", на жаль, з праваабарончай групы, заснаванай на прынцыпах грамадскай салідарнасці, паступова пераўтварылася ў звышпалітызаваную групоўку, якая, не маючы арганізацыйнага статусу, структуры і сістэмы адказнасці, імкнулася навязаць правілы паводзінаў для палітычных структураў і на нейкі час зрабілася механізмам "звядзення рахункаў" паміж рознымі плынямі ў апазіцыі). Сама па сабе акцыя мела рацыянальнае зерне. У разе поспеху яна магла пахіснуць легітымнасць Лукашэнкі ў грамадстве і пераўтварыцца ў своеасаблівыя "праймарыз" сярод апазіцыйных лідэраў перад сапраўднымі выбарамі. Аднак, на жаль, альтэрнатыўныя "прэзідэнцкія выбары" сталі закладнікам палітычных інтарэсаў іх арганізатараў і ўдзельнікаў ды скончыліся публічным скандалам паміж старшынём альтэрнатыўнага Цэнтрвыбаркама Ганчаром і лідэрам БНФ Пазняком. Акцыя мела і іншыя разбуральныя наступствы для апазіцыі. Па-першае, пасля яе правядзення сярод вялікага кола актывістаў, што пацярпелі за ўдзел у ёй, запанавала пачуццё

(па)кінутасці з боку яе арганізатараў. Па-другое, абвясціўшы неверагодныя вынікі выбараў (яўку выбарцаў у 54% і, на здзек, перамогу Пазняка), арганізатары выбараў фактычна апусцілі сябе на адзін узровень з лукашэнкаўскім Цэнтрвыбаркамам, за тым адно выключэннем, што фальсіфікацыя афіцыйных выбараў ніколі не дасягала такіх памераў (паводле дадзеных незалежных назіральнікаў, у "мабільных" выбарах узялі ўдзел крыху больш за пяць адсоткаў выбарцаў). Выбары 1999 г. засталіся ўзорам палітычнага бізнэсу і блефавання не столькі перад нацыянальнай, колькі перад міжнароднай супольнасцю.

Спроба перамоваў паміж уладай і апазіцыяй у 1999–2000 гг. наконт лібералізацыі выбарчага заканадаўства таксама была ад пачатку запраграмаваная на няўдачу. Па-першае, як я ўжо адзначаў, перамоўны працэс з персаналісцкім рэжымам немагчымы паводле азначэння (перамовы маюць поспех пры ўмове дэцэнтралізаванага размеркавання ўлады, пры якім рэфарматары ўнутры рэжыму маюць пэўную ступень аўтаноміі). Да таго ж, апазіцыя не мела магчымасці весці перамовы з пазіцыі сілы, бо аб'ектыўна не карысталася шырокай грамадскай падтрымкай. Гэта штурхала яе да пошуку "заступніка", які мог бы націснуць на рэжым. Гэтая роля выпала на АБСЕ. Паводле трапнага азначэння аналітыка Юрыя Дракахруста, "перамовы пераўтварыліся з перамоваў Лукашэнкі з апазіцыяй пры пасярэдніцтве Захаду ў перамовы Лукашэнкі з Захадам пры пасярэдніцтве апазіцыі"[33]. Але паколькі Захад не меў эфектыўных палітычных, эканамічных ці сілавых рычагоў ціску на беларускага прэзідэнта, пагроза адмовы ў прызнанні яго рэжыму значыла для Лукашэнкі прыкладна тое ж, што адмова дэмакратычным лідэрам у паўночнакарэйскай візе. Да таго ж, заклікі АБСЕ падчас перамоў да кампрамісаў увесь час выклікалі надзвычай рэзкую рэакцыю сярод апазіцыі, і нават даходзіла да абвінавачанняў у адрас кіраўніка місіі амбасадара Ганса-Георга Віка ў прасоўванні інтарэсаў Лукашэнкі, Расіі, нямецкага капіталу і г. д. Гэта,

33 Белорусская деловая газета. 26 студзеня. 2000.

аднак, не перашкаджала і Лукашэнку абвінавачваць місію АБСЕ ў выкананні ролі мазгавога цэнтру апазіцыі.

Вынік перамоваў быў прадказальны. Лукашэнка пазбавіў пасадаў сваіх прадстаўнікоў, якія падпісалі пагадненні аб доступе апазіцыі да сродкаў масавай інфармацыі, і замяніў самі перамовы "грамадскім дыялогам" з лаяльнымі яму грамадскімі арганізацыямі. Вылучэнне на пачатку 2000 г. апазіцыяй "чатырох умоваў" удзелу ў парламенцкіх выбарах (доступ да СМІ, прадстаўніцтва ў выбарчых камісіях, спыненне палітычных рэпрэсіяў і пашырэнне паўнамоцтваў парламента) было добрым публічным крокам, але, як і ў выпадку з сербскай апазіцыяй у 1997 г. (тады патрабаванні да Мілошавіча таксама ўкладаліся на падставе рэкамендацый місіі АБСЕ, якую ўзначальваў былы гішпанскі прэм'ер Феліпэ Гансалес), выглядалі як зачэпка для няўдзелу ў выбарах. Апазіцыя зноў апынулася ў замкнёным коле: каб дамагчыся вольных выбараў, ёй трэба было набрацца сілы, але ж набрацца сілы без удзелу ў "сістэмнай палітыцы" было, як засведчыў досвед, немагчыма. Было таксама няясна, што мелася падштурхнуць Лукашэнку да прыняцця такіх умоваў.

Важным фактарам, што адбіўся на вызначэнні апазіцыйнай стратэгіі і тактыкі, былі механізмы ўзаемадзеяння паміж палітычнай (партыі) і грамадзянскай (няўрадавыя арганізацыі) супольнасцю ў рамках паралельнага грамадства. Гэтыя два асяроддзі аб'ядналіся да такой ступені, што большасць апазіцыйных партыйных актывістаў былі сябрамі адной ці некалькіх НДА і наадварот, а партыйныя кіраўнікі былі адначасова лідэрамі няўрадавых арганізацый. Такая ўзаемасувязь склалася з аб'ектыўных прычын: палітычная апазіцыя не мела ўнутраных крыніцаў фінансавання, а карыстанне вонкавымі было забаронена законам. Трэці сектар, такім чынам, ператварыўся ў механізм забеспячэння жыццядзейнасці палітычнай апазіцыі. У беларускіх умовах гэта мела тры наступствы. Першае — гэта выключная палітызаванасць няўрадавага сектару, які выкарыстоўваўся як "гарматнае мяса" пры правядзенні палітычных кампаній. НДА пачалі абслугоўваць

кіраўнічыя структуры апазіцыі замест таго, каб выконваць "грамадскія паслугі" для дэмакратычнай супольнасці, у тым ліку даваць незалежны аналіз яе дзеянняў. Другое — палітычнае існаванне партыйных лідэраў залежала не ад дасягненняў у палітычнай барацьбе, а ад пазіцыі ў "трэцім сектары". Болей за тое, паколькі пазіцыі лідэраў НДА не залежалі ад іх палітычнай эфектыўнасці, то верхавіна палітычнай супольнасці не мела сур'ёзнай матывацыі для ўдзелу ў "сістэмнай палітыцы". Трэцяе — статус і роля НДА як паралельнай структуры апазіцыйнай іерархіі дазвалялі маніпуляваць апазіцыйнымі сіламі ў абыход іх фармальных кіроўных інстытутаў. Гэтаму спрыяла цэнтралізаваная структура няўрадавага сектару, арганізаваная вакол вядомых рэсурсных цэнтраў.

Падчас выбараў у Палату прадстаўнікоў у кастрычніку 2000 г. пытанні стратэгіі спрычынілі новы раскол у шэрагах апазіцыі. На першы погляд, ён не быў надта глыбокі. Байкот, што абвесціла рада КРДС, не падтрымала толькі Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная грамада) Мікалая Статкевіча, моладзевая арганізацыя "Грамадзянскі форум", якая праз сваё рашэнне пазбавілася статусу моладзевага крыла АГП, і шэраг вядомых палітыкаў (такіх, як Міхаіл Чыгір, Генадзь Грушавы, Гары Паганяйла і іншыя). Аднак, як паказалі прэзідэнцкія выбары 2001 г., менавіта гэтыя групоўкі здолелі стварыць каманду Уладзіміра Ганчарыка, якая сілаю была амаль роўнай камандзе, умоўна кажучы, "Домаша — КРДС". Аргументы "за" і "супраць" былі вядомыя: удзел у выбарах легітымізуе ўладу, а байкот вядзе апазіцыю да самаізаляцыі ў грамадстве. Аднак дзве палярныя тактыкі былі ўзведзеныя да абсалюту, і ў выніку выбары / байкот-2000 пераўтварыліся ў чарговую ўнутраную "разборку" ў шэрагах апазіцыі, якая падарвала адзінства дэмакратычных сілаў напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў. Высвятленне адносінаў працягвалася і пасля кампаніі — спачатку спробай арганізаваць раскол у БСДП, потым расколам самой КРДС і выхадам з яе сацыял-дэмакратычных партый ды ўтварэння імі кааліцыі "За сацыяльныя перамены".

Як кампанія дэлегітымізацыі Лукашэнкі байкот не меў сэнсу. Па-першае, легітымнасць выбараў адзначаецца іх адпаведнасцю агульнапрынятым стандартам, а не складам удзельнікаў. Падчас кампаніі рэжым прадэманстраваў выключную няздольнасць да захавання нават нейкага выгляду празрыстасці і справядлівасці выбарчага працэсу. Па-другое, байкот якраз-такі паспрыяў унутранай легітымізацыі Лукашэнкі тым, што ён практычна дэмабілізаваў дэмакратычны электарат і зноў пакінуў тых, што не вызначыліся, без альтэрнатывы існай уладзе. Каб пацвердзіць сказанае вышэй, звернемся да табліцы, якая паказвае, што сярод тых, хто не пайшоў на выбары ў Палату, пераважалі праціўнікі Лукашэнкі, а сярод удзельнікаў выбараў — яго прыхільнікі. Байкот спрацаваў на карысць дыктатара такім жа чынам, як і ў Сербіі. Сама колькасць удзельнікаў выбараў, згодна з незалежнымі апытаннямі, значна перавысіла 50%, так што лічба ў 45%, якая быццам бы сведчыла аб байкоце, была выведзена з вынікаў галасавання ў Менску (аб гэтым сведчаць і вынікі незалежнага назірання ў іншых гарадах, якія адрозніваюцца ад афіцыйных толькі на пару, а не на семнаццаць адсоткаў). Аб’ектыўна кажучы, нават афіцыйныя звесткі, пры ўмове што колькасць выбарцаў не была падкарочаная падчас галасавання, сведчылі, што выбары не адбыліся ў 39 акругах, а гэта быццам сведчыла пра поспех байкоту. Аднак зноў жа, гэта былі гарадскія акругі, дзе апаненты Лукашэнкі пераважалі!

Прызнанне паспяховасці байкоту было запраграмаваным актам апрацоўкі вонкавых назіральнікаў і ад пачатку грунтавалася на простых разліках: каля трэці выбарцаў ніколі не ходзіць на парламенцкія выбары, дастаткова далучыць да іх жорсткі апазіцыйны электарат, каб абвясціць поспех байкоту (дарэчы, сярод тых, хто не пайшоў на выбары, толькі 6% вызначылі прычынай байкот, астатнія — банальную абыякавасць да палітыкі ці нястачу часу). Фактычна байкот і быў накіраваны на жорсткі электарат, бо праводзіўся толькі ў 22 найбуйнейшых гарадах (іначай кажучы, гэта была чарговая кампанія

“навярнення навернутых”). Аднак пасіўнасць выбарцаў яшчэ не давала падстаў абвясціць электаральную рэвалюцыю: па кастрычніцкай кампаніі рэйтынг Лукашэнкі павысіўся, а грамадская падтрымка апазіцыі зменшылася. Палітычная перамога падобная да спартовай: перамагае той, хто забіў гол у чужую брамку, а не ў сваю, нават калі старанна таго дамагаўся. У выніку, падзеленая на антаганістычныя лагеры апазіцыя ўваходзіла ў год выбараў прэзідэнта без істотнага электарату. Пры гэтым нават прыхільнасць жорсткага лукашэнкаўскага электарату не была ёй гарантавана. Паводле звестак таго ж НІСЭПД, узровень даверу да большасці апазіцыйных інстытутаў (альтэрнатыўнага парламента і Цэнтрвыбаркама, палітычных партыяў і прафсаюзаў) быў ніжэйшы сярод апанентаў Лукашэнкі, а не яго прыхільнікаў!

**Табліца** “Байкот як сродак дэмабілізацыі апазіцыі” (Удзел у парламенцкіх выбарах-2000 у залежнасці ад стаўлення да прэзідэнта Лукашэнкі)

| | Удзельнічалі ў выбарах (58,8%) | Не ўдзельнічалі ў выбарах (41,2%) |
|---|---|---|
| Перакананыя прыхільнікі Лукашэнкі | 21,4 | 6,8 |
| Тыя, хто вагаецца | 56,9 | 46,9 |
| Перакананыя праціўнікі Лукашэнкі | 12,7 | 49,3 |

Крыніца: *Новости НИСЭПИ.* Вып. 1, 2001. Сакавік. С. 8.

**Табліца** “Давер да дзяржаўных і грамадскіх інстытутаў сярод прыхільнікаў і апанентаў Лукашэнкі”

| Грамадскія і дзяржаўныя інстытуты | Давяраюць прэзідэнту | Не давяраюць прэзідэнту |
|---|---|---|
| Адукацыйныя ўстановы | +0,465 | +0,144 |
| Царква | +0,436 | –0,121 |
| Армія | +0,445 | –0,289 |
| Дзяржаўныя СМІ | +0,608 | –0,581 |
| Урад | +0,433 | –0,699 |

| | | |
|---|---|---|
| Афіцыйны Цэнтрвыбаркам | +0,388 | –0,712 |
| Дзяржаўныя даследчыя цэнтры | +0,252 | –0,243 |
| Недзяржаўныя даследчыя цэнтры | +0,102 | +0,202 |
| Канстытуцыйны суд | +0,237 | –0,415 |
| Пракуратура | +0,159 | –0,481 |
| Адвакатура | +0,122 | –0,219 |
| Суды | +0,160 | –0,490 |
| КДБ | +0,130 | –0,503 |
| Федэрацыя прафсаюзаў | +0,153 | –0,538 |
| Праваабарончыя арганізацыі | –0,016 | –0,113 |
| Мясцовыя ўлады | +0,043 | –0,593 |
| Міліцыя | –0,017 | –0,654 |
| Незалежныя прафсаюзы | –0,158 | –0,149 |
| Нацыянальны сход | +0,030 | –0,726 |
| Палітычныя партыі | –0,223 | –0,423 |
| Апазіцыйны Цэнтрвыбаркам | –0,187 | –0,300 |
| Вярхоўны Савет 13-га склікання | –0,185 | –0,465 |
| Незалежныя СМІ | –0,335 | +0,107 |
| Саюзы прадпрымальнікаў | –0,227 | –0,253 |
| Банкі | –0,246 | –0,504 |

Кожная дзесятая доля азначае 10% апытаных; напрыклад, значэнне +0,1000 азначае, што на 10% больш апытаных давяраюць адпаведнаму інстытуту, чым не давяраюць.

Крыніца: НІСПЭД, *Belarus: Choices for the Future. National Human Development Report.* Minsk: UNDP, 2000. P. 58.

# Частка IV

## 1. Выбары, рэвалюцыя, разгром: прэзідэнцкія кампаніі ў Югаславіі і Беларусі

Мілошавіч і Лукашэнка мусілі абараняць сваю ўладу (і рэжымы) на прэзідэнцкіх выбарах, што адбыліся, адпаведна, у 2000 і 2001 гг. Гэтыя выбары таксама сталі экзаменам на сталасць для сербскай і беларускай апазіцыі. З самага пачатку прэзідэнцкай гонкі ў Сербіі пераканаўчае лідэрства захапіў прадстаўнік Дэмакратычнай апазіцыі Сербіі (ДАС) Ваіслаў Каштуніца, які паводле ўсіх апытанняў апярэджваў Мілошавіча на 15–20% галасоў. Пасля галасавання, што адбылося 24 верасня, улады не абвяшчалі вынікаў некалькі дзён. Спробы абʼявіць Мілошавіча лідэрам былі літаральна ўзнятыя на смех. Нарэшце 27 верасня апазіцыя заявіла аб перамозе свайго кандыдата з вынікам 52% галасоў супраць 35% у Мілошавіча. Улады падалі ўласныя звесткі, якія сведчылі аб выніку: 49% супраць, 39% на карысць Каштуніцы, і абʼявілі другі тур, фактычна прызнаўшы, што механізм фальсіфікацыі на гэты раз спрацаваў толькі на некалькі адсоткаў. ДАС рашуча адмовілася ад удзелу ў другім туры і заклікала сваіх паплечнікаў да масавых пратэстаў. Пратэсты дасягнулі кульмінацыі 5 кастрычніка, калі тысячы дэманстрантаў, што зʼехаліся з усёй Сербіі, запаланілі вуліцы Бялграда і ўзялі штурмам будынак федэральнага парламента. Паліцыя і службы бяспекі капітулявалі. Праз дзень Мілошавіч прызнаў паразу, а яшчэ праз дзень Каштуніца быў прыведзены да прысягі, што азначала канец перадапошняга аўтарытарнага рэжыму ў Еўропе. Падзеі

ў Бялградзе былі адначасова і электаральнай рэвалюцыяй, і вулічнай, і палацавым пераваротам, але разгортваліся менавіта ў гэткай паслядоўнасці.

Падзеі ў Беларусі падчас прэзідэнцкіх выбараў 2001 г. разгортваліся "з дакладнасцю да наадварот", за выключэннем таго, што апазіцыю таксама нібыта прадстаўляў адзіны кандыдат (тэхнічна поўнага адзінства не было і ў Сербіі: Сербскі рух адраджэння адмовіўся далучыцца да ДАС). Асноўным апанентам Лукашэнкі быў кандыдат ад "шырокай грамадзянскай кааліцыі", старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Уладзімір Ганчарык. Паводле афіцыйных звестак, у выбарах узялі ўдзел каля 82% выбаршчыкаў. Паводле гэтых жа звестак, Лукашэнка перамог з вынікам 75,65% галасоў супраць 15,65% Ганчарыкавых. Апазіцыя спрабавала пратэставаць і заявіла аб перавазе Лукашэнкі ўсяго ў шэсць адсоткаў (46% супраць 40%) і патрабавала другога туру. Паколькі незалежнае назіранне не здолела падаць сваіх звестак, адзіным спосабам праверкі заяваў абодвух бакоў могуць быць толькі вынікі незалежных сацыялагічных апытанняў перад выбарамі і пасля. Яны паказваюць, што за дзень да галасавання Лукашэнка меў падтрымку 46,8% усіх выбаршчыкаў, а Ганчарык — 26% (гл. табл. 1). Пры ўмове, што яўка была 82%, гэта ператвараецца ў 56% галасоў за Лукашэнку і 33% — за Ганчарыка. Нягледзячы на заявы перадвыбарнага штабу, пройгрыш быў відавочны нават заўзятым прыхільнікам апазіцыі. Таму пратэсты супраць парушэнняў выбарчага заканадаўства сабралі толькі некалькі тысячаў чалавек.

**Табліца 1.** Прагноз прэзідэнцкіх выбараў-2001 у Беларусі, %

| | ліп.8 | ліп.16 | ліп.24 | жн.1 | жн.9 | жн.16 | жн.25 | жн.31 | вер.8 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Звесткі апытанняў НІСЭПД, % | | | | | | | | | |
| Лукашэнка | 40,6 | 40,7 | 42,3 | 43,3 | 44,4 | 43,6 | 44 | 49,7 | 46,8 |
| Ганчарык | 3,4 | 4,2 | 4,8 | 8,4 | 13,7 | 21,1 | 20,3 | 23,2 | 27,8 |

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Праекцыя пры яўцы 83,86%* | | | | | | | | | |
| Лукашэнка | 48,4 | 48,5 | 50,4 | 51,6 | 52,9 | 52,0 | 52,5 | 59,3 | 55,8 |
| Ганчарык | 4,1 | 5,0 | 5,7 | 10,0 | 16,3 | 25,2 | 24,2 | 27,7 | 33,2 |

* Лічба яўкі, афіцыйна пададзеная Цэнтрвыбаркамам.

Як маглі скончыцца з такім розным вынікам дзве кампаніі, калі адна была фактычна скапіявана з другой? Трэба адзначыць, што тлумачэнне, нібыта рэжым Мілошавіча быў больш адкрытым, чым лукашэнкаўскі, можа быць прынятае з вялікімі агаворкамі. Так сапраўды было на працягу папярэдніх гадоў, але за перыяд 1998–2000 гг. рэжым Мілошавіча зблізіўся з лукашэнкаўскім. Тут варта нагадаць і рэпрэсіўны закон аб інфармацыі (які выліўся ў масавы пераслед незалежных СМІ: за два гады з іх было спагнана некалькі дзесяткаў мільёнаў доляраў штрафаў), і закон аб вышэйшай адукацыі (што ўсталяваў паліцэйскі кантроль над універсітэтамі), і пачатак палітычнага тэрору (забойства рэдактара найбуйнейшага апазіцыйнага выдання "Бліц", выкраданне былога прэзідэнта Сербіі Івана Стамбаліча за месяц да выбараў і два замахі на Драшкавіча), і няспынную прапаганду на карысць Мілошавіча ў дзяржаўных электронных і друкаваных медыях (яму адводзілася да 90% часу ці плошчы), і павальнае закрыццё няўрадавых арганізацый перад выбарамі. Падобнай да лукашэнкаўскай была і рыторыка Мілошавіча, які адмаўляўся прызнаць нават факт існавання апазіцыі ў Сербіі, заяўляючы, што гэта проста "група найманых круцялёў і зладзеяў, якая, карыстаючыся цяжкасцямі жыцця і атрымліваючы грошы з-за мяжы, маніпулюе пачуццямі некаторых людзей, пераважна вельмі маладых, сеючы хлусню, нібыта адзіны выхад з цяжкой сітуацыі — гэта скарыцца перад сілай, што заваявала ўвесь свет"[34].

34 Goati Vladimir. Elections in FRY from 1990 to 1998: Will of People or Electoral Manipulation? Addendum: Election 2000. Belgrade: CeSID, 2001. P. 223.

Нарэшце, калі разглядаць палітычныя інстытуты, то зазначым, што за два месяцы да выбараў у ліпені 2000 г. Мілошавіч правёў праз парламент “канстытуцыйную рэформу”, згодна з якой у Югаславіі ўводзілася прэзідэнцкая рэспубліка замест парламенцкай, ліквідаваўся парытэт у саюзным парламенце паміж Сербіяй і Чарнагорыяй (у апошняй апазіцыя прыйшла да ўлады яшчэ ў 1997 г.), і Мілошавіч атрымліваў фактычна ўжо нічым не абмежаваную ўладу. Дадамо важную дэталь: нягледзячы на наяўнасць у Сербіі сістэмы мясцовага самакіравання, выбарчыя камісіі для федэральных выбараў фарміраваліся цэнтрам і пераважна кантраляваліся рэжымам (апазіцыя мела ў іх па аднаму месцу, што не гарантавала аўтаматычнага прадухілення фальсіфікацыяў).

Падабенствы былі і ў арганізацыі кампаніі: у абодвух выпадках быў “адзіны кандыдат” і амаль што “аб’яднаная апазіцыя”, а палітычная кампанія падтрымлівалася кампаніяй няўрадавых арганізацый, якія зноў-такі ў Беларусі часам мадэляваліся на сербскі ўзор (прыгадаем хаця б беларускага клона “Адпору” — “Зубра”).

Але розніцу ў выніках выбараў немагчыма растлумачыць адрозненнямі ў палітычнай культуры і арыентацыях двух грамадстваў. І ў Сербіі, і ў Беларусі за часамі панавання аўтарытарных рэжымаў ішоў працэс імклівага звужэння сацыяльнай базы дыктатур. Гэта быў вынік сацыяльнай эвалюцыі, навучання на ўласным досведзе, у часе якога грамадства расчароўвалася ў ілюзіях і пераасэнсоўвала ўласны светапогляд. Гэтаму спрыяў і натуральны працэс змены пакаленняў. Такім чынам, у абодвух грамадствах большасць жадала палітычных пераменаў. Аб’ектыўна кажучы, у Сербіі гэта была супербольшасць (72% за змену ўрада за год да выбараў супраць 18%), у Беларусі — адносная большасць (54% гатовых падтрымаць кандыдата, праграма якога абяцала б кардынальны паварот ад палітыкі Лукашэнкі, супраць 40% тых, хто выступаў за працяг палітыкі Лукашэнкі). Аднак разгром апазіцыі немагчыма растлумачыць адсутнасцю электаральных

рэсурсаў для беларускай дэмакратыі. Больш падрабязна палітычныя арыентацыі грамадстваў паказаныя ў табліцах 3–9, якія сведчаць пра той самы расклад (супербольшасць у Сербіі, адносная большасць у Беларусі), але не аб радыкальнай розніцы паміж дзвюма краінамі. Зазначым, што за год да выбараў рэйтынгі Лукашэнкі і Мілошавіча розніліся толькі прыкладна на 10% (каля 23% у Мілошавіча і 33% у Лукашэнкі).

Магчымым тлумачэннем падзення Мілошавіча можа служыць ваенная параза ў косаўскай кампаніі. Адзначым, аднак, што натаўскія бамбаванні на нейкі час дазволілі сербскаму лідэру пераканаць грамадства ў сваім галоўным пастулаце — што ўвесь свет з’яднаўся супраць Сербіі. Да таго ж, вынікі апытанняў грамадскае думкі, атрыманых да бамбаванняў, сведчаць, што папулярнасць Мілошавіча вырасла падчас вайсковай акцыі НАТА і знізілася да перадваеннага ўзроўню праз некалькі месяцаў пасля яе заканчэння. Вядома, падзеі вясны 1999 г. адбіліся на палітычнай сітуацыі. Па-першае, яны прывялі да расчаравання часткі паплечнікаў Мілошавіча нават не ў ягоных ідэях,
а ў ягонай здольнасці іх абараніць. Па-другое, разам з Косавам Мілошавіч згубіў значную частку сваёй машыны фальсіфікацыі выбараў. Аднак, зноў жа, гэтыя фактары не былі вырашальнымі (Мілошавіч перамагаў
і ў больш цяжкія часы ізаляцыі і вайны).

Прэзідэнцкія выбары ў Югаславіі мелі адзін вельмі цікавы нюанс: у іх правядзенні для Мілошавіча не было відавочнай патрэбы. Федэральная канстытуцыя (да ліпеня 2000) прадугледжвала абранне прэзідэнта парламентам, які ён тады кантраляваў. Тэрмін ягоных паўнамоцтваў выгасаў толькі ў ліпені 2001 г. Дарма што канстытуцыя абмяжоўвала знаходжанне на пасадзе адным тэрмінам, Мілошавіч мог правесці канстытуцыйную папраўку. Аднак ён дапусціў, як мы цяпер ведаем, самую буйную палітычную памылку ў сваёй кар’еры і пайшоў на ўсеагульныя выбары. Чаму ён гэта зрабіў? Гэтаму могуць

быць тры тлумачэнні. Па-першае, сітуацыя ў Сербіі пасля бамбёжак і санкцыяў горшала з кожным днём. І паколькі партыя Мілошавіча была меней папулярнай, чым ён сам, гіпатэтычныя парламенцкія выбары ў 2001 г. маглі скончыцца яшчэ горшым вынікам. Тут Мілошавіч, напэўна, меў рацыю. Цікава, што, калі лічыць абсалютную колькасць галасоў, ён прайграў выбары з адным з лепшых для сабе вынікаў
за цэлае дзесяцігоддзе!

**Табліца 2.** Парадокс паразы Мілошавіча: колькасць галасоў, пададзеных за яго, ягоную партыю ці паплечнікаў на працягу дзесяцігоддзя.

| Год і характар выбараў | **1990** (прэзідэнцкія) | **1992** (прэзідэнцкія) | **1993** (парламенцкія) | **1996** (федэральныя) | **1997** (прэзідэнцкія, 1 тур) | **1997** (прэзідэнцкія, 2 тур) | **2000** (прэзідэнцкія) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць галасоў, тыс. | 3286 | 2515 | 1576 | 1848 | 1474 | 1665 | 1826 |

Па-другое, Мілошавіч трапіў у "папулісцкую пастку": як ужо адзначалася, масавая падтрымка была падмуркам яго ўлады, і Мілошавіч мусіў пацвердзіць яе любой цаной для дэмабілізацыі апазіцыі і пратэставых настрояў у грамадстве. Па-трэцяе, Мілошавіч перайшоў у тую стадыю, калі султаністскія тэндэнцыі ягонай улады ўзмацніліся настолькі, што ён пачаў губляць пачуццё рэальнасці. Тое самае адбывалася і ў большасці аўтарытарных рэжымаў, дзе здараліся "шокавыя" выбары, — дыктатары ішлі на іх, паколькі проста не маглі ўявіць, што могуць прайграць. Мілошавіч аказаўся ізаляваным у сваім "унутраным коле", што ўжо пачало плесці змову супраць свайго патрона і падавала яму інфармацыю, якая быццам бы сведчыла аб яго непераможнасці. У той жа час працэсы ў грамадстве, што прывялі да яго падзення, выйшлі з-пад ягонага кантролю.

*Мілошавіч верыў у сваю харызму. У яго не было сур'ёзнага апанента. Вук Драшкавіч хаваўся ў Будве (курортны*

*горад у Чарнагорыі. — **Аўт.**). Джынджыча прапаганда шальмавала як мафіёзі і найгоршае зло, а Шэшаль проста не пасмеў бы выступіць супраць Слабадана. Нават у кашмарным сне ён не мог уявіць апанентам Ваіслава Каштуніцу. (...) За некалькі дзён да выбараў Мілошавіч з самаўпэўненай фанабэрыяй распавёў начальніку генштаба Югаслаўскай арміі генералу Нябойшу Паўкавічу, што здабудзе семдзесят працэнтаў галасоў. Ён сказаў, што можа нават "падарыць" Каштуніцу трыста тысячаў косаўскіх галасоў, не разумеючы, што гадзіннік пачаў апошні адлік 27 ліпеня (дзень, калі былі абвешчаныя прэзідэнцкія выбары. — **Аўт.**). Гэта быў гадзіннік народнай незадаволенасці, сканцэнтраванай у такім выказванні: "Я не магу нават імя ягонага выгаварыць, такую яго маць"*[35].

З досведу Сербіі можна вывесці даволі простую формулу: па-першае, дыктатары кшталту Мілошавіча і Лукашэнкі заўжды знаходзяцца і будуць знаходзіцца "ў абцугах папулізму". Іх існаванне без "квазідэмакратычнай легітымізацыі", без таго, каб засведчыць і народу, і апазіцыі, і дзяржапарату, што яны ў прынцыпе здольныя атрымаць перамогу ў больш жорсткіх умовах, немагчыма. (Таму хутчэй за ўсё і Лукашэнка ніколі не пойдзе на працяг сваіх паўнамоцтваў праз абранне парламентам і нейкім "Усебеларускім народным сходам"; Мілошавіч мусіў пайсці на абранне парламентам у 1997 г. толькі таму, што не меў канстытуцыйнай большасці ў сербскай Скупшчыне, каб змяніць канстытуцыю рэспублікі). Аднак здольнасць здабыць квазідэмакратычную легітымнасць змяншаецца, калі дыктатар становіцца больш султанам, чым папулістам. І ў гэтым істотнае адрозненне паміж Мілошавічам і Лукашэнкам падчас прэзідэнцкіх выбараў. Беларускі лідэр, таксама як і ягоны югаслаўскі калега, выдатна разумеў, што калі ён "адпусціць гайкі" ў грамадстве і ўладным апараце, то гэта можа згуляць супраць яго. Беларускаму чытачу не варта дэталёва нагадваць усе яго захады

35 Bujosevic Dragan, Radovanovic Ivan. October 5: A 24-hour Coup. Belgrade: Media Centar, 2001. P. 13—14.

дзеля кансалідацыі ўласнага рэжыму перад выбарамі (узмацненне пазіцый сілавікоў ва ўладзе, увядзенне абмежаванняў на гуманітарную дапамогу і яшчэ больш жорсткіх правілаў правядзення мітынгаў і дэманстрацый, пераслед незалежных СМІ, атака на незалежнае назіранне ды інш.) Прыгадаем, аднак, што Лукашэнка быў выразна заклапочаны (калі не сказаць больш) магчымасцю яго “здачы” ўнутраным колам. Яго істэрычныя заявы падчас нарады з “вертыкальшчыкамі” 31 ліпеня 2001 г. сведчылі, што Лукашэнка быў інфармаваны аб магчымай унутранай фрондзе ў сваім атачэнні і загадзя прыняў меры для яе нейтралізацыі. Таксама відавочна, што Лукашэнку не заспакойвала яўная колькасная перавага сваіх прыхільнікаў у грамадстве. Ва ўмовах, калі кантраляваныя ім выбарчыя камісіі ўжо былі гатовыя выдаць пажаданы вынік і ён усё роўна перамагаў без фальсіфікацый, ён тым не менш пайшоў на рэзкае павышэнне зарплаты (на 23% у рэальным пераліку за паўгоду) з мэтай павелічэння сваёй падтрымкі да бяспечнага ўзроўню. Перакананасць у тым, што Лукашэнка перамог і без фальсіфікацый, урэшце дэмабілізавала і апазіцыю, і тыя часткі ўладнага апарату, якія патэнцыйна маглі яго “здаць”,
і незалежнае назіранне.

Самым адэкватным тлумачэннем, чаму выбары ў Югаславіі і Беларусі скончыліся з дыяметральна супрацьлеглымі вынікамі, можа быць наступнае: на выбарах ва ўмовах дыктатуры перамагае той, хто фактычна выйграў іх да пачатку кампаніі. У Сербіі ўжо за год да выбараў апазіцыйныя партыі мелі сукупны рэйтынг, што ў паўтара разы перавышаў рэйтынг прыхільнікаў Мілошавіча. Ужо тады з 72% сербаў, якія выступалі за перамены, 38% былі гатовыя прагаласаваць за апазіцыю. Падчас перадвыбарнай кампаніі падтрымка дэмакратычнай альтэрнатывы вырасла яшчэ ў паўтара разы. Важна зазначыць, што ў Сербіі быў скансалідаваны менавіта партыйны электарат: існаванне палітычных партыяў, што звязвалі грамадзянскі попыт і палітычнае прапанаванне, і дазволіла потым стварыць падтрымку адзінаму

кандыдату шляхам арыфметычнага складання партыйных электаратаў. Цікава, што і падтрымка Мілошавіча за час кампаніі ўзрасла ў паўтара разы, чаго яму ўжо не хапіла.

А ў Беларусі? Расклад за год да выбараў быў такі: 36% — за Лукашэнку (увесь яго электарат) і толькі 13% — за апазіцыю (толькі трэцяя частка жорсткага антылукашэнкаўскага электарату і чвэрць таго электарату, што выступаў за перамены). Болей за тое, калі гаварыць пра канкрэтных палітыкаў з апазіцыйнага лагеру (так званую "пяцёрку"), рэйтынг ніводнага не перавышаў 6%. Падчас кампаніі Лукашэнка толькі нязначна павялічыў свой электарат: "скочыўшы вышэй за галаву", ён атрымаў падтрымку 46% ад усіх грамадзянаў. Апазіцыя, тым часам, мусіла патраціць усю кампанію на кансалідацыю свайго базавага электарату. І хоць фактычна яна пашырыла сваю падтрымку амаль утрая (з 9% да 26% ад усяго грамадства) ці, калі гаварыць выключна пра Ганчарыка, нават у 13 разоў (з 2 да 26%), але ўсё роўна яна прыгарнула да сябе менш за палову таго электарату, што да выбараў выступаў за перамены!

Вывад просты: менавіта папярэдні ўдзел у "сістэмнай палітыцы" забяспечыў бачнасць дэмакратычнай альтэрнатывы і дазволіў скіраваць грамадскую незадаволенасць на яе падтрымку. Гэты фактар відавочна праігнаравалі беларускія апазіцыянеры, адзін з якіх падчас падзення Мілошавіча заявіў наступнае: "Перамога над Мілошавічам... сведчыць, што наша тактыка дасягнення адзінства верная, што мы павінны змагацца за рэальную ўладу на прэзідэнцкіх выбарах, што неабходна дасягнуць кампрамісу вакол адзінага кандыдата і правесці эфектыўную кампанію за тры месяцы да галасавання"[36]. Два фактары — адзінства і кампраміс — былі зразуметыя правільна, калі не лічыць унутраных апазіцыйных разборак да і падчас перадвыбарнай кампаніі, якія сведчаць аб тым, што вывучыць — гэта яшчэ не азначае эфектыўна

36 Price Joe. Yugoslavia Lesson for Belarusian Opposition // Belarusian Review. Vol.12. No.3. Fall 2000.

ўжыць веды. А вось навука, што перадвыбарныя кампаніі пачынаюцца не за тры месяцы да выбараў, а як мінімум з моманту заканчэння папярэдніх і што ўдзел у “прамежкавых” выбарах стварае падмурак для перамогі ў канчатковых, была праігнараваная. Адрознасць папярэдняга досведу і здольнасці навучацца на ўласных памылках была яскрава прадэманстравана ў ходзе самой перадвыбарнай кампаніі ў чатырох яе аспектах: аб’яднанне апазіцыі, арганізацыя кампаніі, перадвыбарная агітацыя і, нарэшце, прадухіленне фальсіфікацый.

# 2. Сацыяльныя перадумовы для палітычных пераменаў (і застою)

## 2. 1. Пратэставыя настроі ў грамадстве

**Табліца 3.** Як змянілася ваша эканамічнае становішча?

| | За апошні год | 1994-2001 |
|---|---|---|
| Сербія | | |
| Значна палепшала | 0,4 | |
| Палепшала | 3,5 | |
| Не змянілася | 22,5 | |
| Пагоршала | 34,3 | |
| Значна пагоршала | 38,6 | |
| Цяжка сказаць | 0.6 | |
| Беларусь | | |
| Палепшала | 16,9 | 22,8 |
| Не змянілася | 40,7 | 34,2 |
| Пагоршала | 35,9 | 38,3 |

**Крыніца:**
Partner-international www.partner-international.com/pmra/pollaug1999/english/
НІСЭПД http://www.iiseps.by

**Табліца 4.** Краіна ідзе правільным ці няправільным шляхам?

| | Сербія | Беларусь |
|---|---|---|
| Правільным шляхам | 14,4 | 38,1 |
| Няправільным шляхам | 71 | 37,6 |
| Няма адказу, цяжка адказаць | 14,6 | 25,2 |

**Крыніца:**
Partner-international www.partner-international.com/pmra/pollaug1999/english/
НІСЭПД http://www.iiseps.by

**Табліца 5.** Ці магчыма паляпшэнне эканамічнай сітуацыі ў Беларусі пры цяперашняй уладзе?

| | |
|---|---|
| Магчыма | 40,7 |
| Немагчыма | 39,2 |
| Цяжка адказаць, няма адказу | 20,1 |

**Крыніца:** НІСЭПД http://www.iiseps.by

## 2.2. Пытанні, што мелі ўплыў на выбаршчыкаў

### Сербія

**Табліца 6.** Што болей за ўсё вас пужае, калі вы думаеце пра будучыню?

| | |
|---|---|
| Эканамічныя праблемы | 42,1 |
| У тым ліку: | |
| адсутнасць электрычнасці | 7,3 |
| дэфіцыт прадуктаў | 3,4 |
| інфляцыя | 11,5 |
| рост цэнаў | 5,4 |
| беспрацоўе | 14,5 |
| грамадзянская вайна | 30,2 |
| міжнародная ізаляцыя | 6,4 |
| страта Косава | 3,2 |
| развал Югаславіі | 3,8 |
| іншае | 13,8 |

**Крыніца:**
Partner-international www.partner-international.com/pmra/pollaug1999/english/

**Беларусь**

**Табліца 7.** Праблемы, што найболей турбуюць (на лістапад 2000 г.)

| | |
|---|---|
| Сацыяльна-эканамічныя | 57,3 |
| У тым ліку: | |
| рост цэнаў | 21,1 |
| галеча | 18,5 |
| спад вытворчасці | 10,1 |
| эканамічны крызіс | 7,6 |
| правапарадак | 33,7 |
| У тым ліку: | |
| злачыннасць | 10,8 |
| карупцыя | 8,5 |
| адсутнасць парадку | 7,2 |
| парушэнні правоў чалавека | 9,0 |
| Іншае | |
| Чарнобыль | 5,6 |

**Крыніца:** НІСЭПД http://www.iiseps.by

## 2.3. Падтрымка эканамічных і палітычных пераўтварэнняў

**Сербія**

**Табліца 8.** Ці патрэбна нашай краіне

| | Так | Не | Цяжка сказаць |
|---|---|---|---|
| Прыватызацыя | 69,7 | 12,6 | 17 |
| Незалежныя СМІ | 71,4 | 14,5 | 13,8 |
| Адкрытасць Захаду | 81,4 | 5,1 | 13,3 |
| Змена ўрада | 72 | 18,9 | 8,8 |
| Фінансавая падтрымка з боку міжнароднай супольнасці | 86,7 | 5,3 | 7,9 |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Далучэнне да пакту стабільнасці на Балканах | 63,1 | 17,4 | 18,4 |
| Паляпшэнне стасункаў з NATO | 55,4 | 26,2 | 17,9 |

**Крыніца:**
Partner-international www.partner-international.com/pmra/pollaug1999/english/

## Беларусь

**Табліца 9.** Будучы прэзідэнт павінен (%)

| | |
|---|---|
| Быць прыхільнікам рынкавай эканомікі | 54,0 |
| Быць прыхільнікам планавай эканомікі | 24,1 |
| Прадстаўляць недзяржаўную арганізацыю | 29,2 |
| Прадстаўляць дзяржаўную арганізацыю | 10,8 |
| Быць прыхільнікам падзелу ўлады | 41,1 |
| Быць прыхільнікам канцэнтрацыі ўлады ў адных руках | 34,0 |
| Быць прыхільнікам незалежнасці | 37,5 |
| Быць прыхільнікам саюзу з Расіяй | 44,7 |
| Быць прыхільнікам працягу цяперашняга курсу | 32,6 |
| Быць прыхільнікам радыкальнай змены цяперашняга курсу | 49,0 |
| Беспартыйным | 35,3 |
| Сябрам палітычнай партыі | 9,0 |
| Аддаюць перавагу | |
| Рынкавай эканоміцы з нязначнай роляй дзяржавы | 41,4 |
| Рынкавай эканоміцы са значнай роляй дзяржавы | 32,1 |
| Планавай эканоміцы | 21,5 |
| Найболей эфектыўная форма ўласнасці | |
| Прыватная | 53,1 |
| Дзяржаўная | 39,7 |
| Ці павінна дзяржава абмяжоўваць даходы грамадзян | |
| Так | 16,1 |
| Не | 66,2 |

**Крыніца:** НІСЭПД http://www.iiseps.by

## 2.4. Падтрымка дэмакратычнай апазіцыі

### Сербія

**Табліца 10.** Стаўленне да палітычных партый

| | Жадаў бы бачыць ва ўладзе | Не жадаў бы бачыць ва ўладзе |
|---|---|---|
| Кіроўная кааліцыя | | |
| Сацыялістычная партыя | 13,7 | 32,9 |
| Югаслаўскія левыя | 2,5 | 11,4 |
| Радыкальная партыя | 7,8 | 10,8 |
| Усяго | 24,0 | 55,1 |
| Апазіцыя | | |
| Сербскі рух аднаўлення | 18,4 | 10 |
| Дэмакратычная партыя | 10,8 | 13,9 |
| Грамадзянскі саюз Сербіі | 0,6 | 1,6 |
| Дэмакратычная партыя Сербіі | 5,2 | 0,4 |
| Сацыял-дэмакраты | 3,3 | 0,2 |
| Дэмакратычная альтэрнатыва | 1,5 | 0,6 |
| Усяго | 39,8 | 26,8 |

**Крыніца:**
Partner-international www.partner-international.com/pmra/pollaug1999/english/

### Беларусь

**Табліца 11.** За каго вы будзеце галасаваць на прэзідэнцкіх выбарах

| | Жнівень 2000 | Люты 2001 |
|---|---|---|
| Лукашэнка | 36 | 41 |
| Кандыдат ад апазіцыйных партый | 13 | 9 |
| Незалежны кандыдат | 29 | 27 |

Крыніца: НІСЭПД http://www.iiseps.by

## 3. Аб’яднанне апазіцыі

Фармальна рашэнне аб вылучэнні Ваіслава Каштуніцы адзіным кандыдатам ад апазіцыі было прынята менш чым за два месяцы да даты выбараў (дарэчы, і самі выбары былі абвешчаныя дастаткова нечакана). Аднак прынцыповае рашэнне аб аб’яднанні і стварэнні Дэмакратычнай апазыцыі Сербіі (ДАС) было прынятае яшчэ ў сакавіку 2000 г. васемнаццацю партыямі і рухамі, якія гэтым разам праявілі волю да змагання і безумоўна падтрымлівалі адзінага кандыдата супраць Мілошавіча. Адзін Вук Драшкавіч, лідэр Руху аднаўлення, не далучыўся да ДАС. Аднак ягоныя спробы разбурыць апазіцыйнае адзінства скончыліся тым, што Каштуніца, погляды якога (сумесь ліберальна-дэмакратычнай палітычнай арыентацыі і памяркоўнага нацыяналізму) былі вельмі блізкімі да Драшкавічавых, хутка перацягнуў электарат СРА на свой бок.

Што прадвызначыла выбар менавіта Каштуніцы? Ён не быў самым вядомым з апазіцыйных палітыкаў, ягоны ўласны электарат не перавышаў 5%, і, кажучы мовай некаторых беларускіх аналітыкаў, мабілізацыйны патэнцыял яго партыі быў невялікі. Аднак Каштуніца на самай справе меў вялізныя няяўныя перавагі перад сваімі больш “раскручанымі” калегамі. Ён не быў найбольш папулярным, але, што вельмі важна, ён быў найменш ненавісным апазіцыйным палітыкам для грамадства. Каштуніцу заўжды вызначала персанальная прыстойнасць і паслядоўнасць, ён быў адзіным з вядомых апазіцыйных палітыкаў, які ніколі не ішоў на супрацоўніцтва

з Мілошавічам. Да таго ж, Каштуніца быў найбліжэйшы да "сярэдняга выбаршчыка" ў сэнсе, што яго персанальная пазіцыя, пры ўмове поўнай падтрымкі ўсіх апазіцыйных рухаў, была здольная прыцягнуць найбольшую колькасць выбаршчыкаў. "Сярэдні выбаршчык у Сербіі вызначаўся моцным пачуццём нацыянальнай самасвядомасці, але без экспансійных настрояў, без імкнення да палітычнай цэнтралізацыі Сербіі і так званага кітч-патрыятызму, што панаваў на пачатку 1990-х, і з сімпатыяй да парламентарызму, грамадзянскай супольнасці і прыватнай ініцыятывы"[37].

Каштуніца не быў самым празаходнім апазіцыянерам, але ён ніколі не быў сябрам кампартыі. Ён быў нацыяналістам, які выступаў у падтрымку баснійскіх сербаў і асудзіў натаўскія бамбаванні, аднак, у адрозненне ад больш "ліберальных" калег, ён ніколі не заігрываў з Караджычам і Младзічам у Босніі. Яго нацыяналістычная рыторыка была блізкая да Мілошавічавай ці Шэшалевай, але менавіта Каштуніца пераклаў на сербскую мову найвядомейшы твор амерыканскай дэмакратыі — "Запіскі федэраліста".

Ён, нарэшце, здолеў паяднаць тое, што раздзяляла да яго ўсіх сербскіх палітыкаў, — а менавіта дэмакратыю і нацыяналізм. І гэта не выглядала ў вачах грамадства палітыканствам. "Сёння мяне падтрымліваюць сербскія вугорцы і мусульмане. Можна быць нацыяналістам і не зневажаць пры гэтым іншых народаў", — такога да Каштуніцы сярод сербскіх палітыкаў не казаў ніхто[38]. Карыстаючыся беларускай палітычнай тэрміналогіяй, Каштуніца адваёўваў "балота" ў Мілошавіча. Назіральнікі сведчылі, што "ён прывабны для ўсіх — расчараваных нацыяналістаў, традыцыяналістаў, манархістаў, гарадскога насельніцтва, сялян, моладзі і вымушаных перасяленцаў"[39]. Аднак галоўнай зарукай поспеху Каштуніцы было тое,

37 Cohen. Serpent in the Bosom. P. 412.

38 Тамсама.

39 Тамсама.

што апазіцыйныя лідэры нарэшце спынілі высвятляць, хто з іх мацнейшы, і сканцэнтраваліся на галоўным: хто зможа перамагчы Мілошавіча. Асабліва трэба адзначыць памяркоўнасць будучага прэм’ера Зорана Джынджыча, які згадзіўся на ролю кіраўніка штаба Каштуніцы, а не кандыдата ў прэзідэнты. Пройдзе два месяцы, і на пазачарговых парламенцкіх выбарах ужо Джынджыч узначаліць Дэмакратычную апазіцыю Сербіі. Але гэта будзе пасля. А тады апазіцыя фактычна здолела знайсці адзіны выхад, выкарыстаць адзіны шанц, які яна мела, каб дабіцца палітычных пераменаў. Нягледзячы на стаўленне да Мілошавіча ў грамадстве, пры любым іншым варыянце ён застаўся бы пры ўладзе. Як сведчаць звесткі сацыялагічных апытанняў, праведзеных за некалькі месяцаў да выбараў, Мілошавіч здолеў бы перамагчы любога іншага, яшчэ менш папулярнага за сябе самога апазіцыйнага дзеяча. Адзіным палітыкам, які здолеў бы яго перамагчы пры ўмове апазіцыйнага адзінства, быў той, чыя індывідуальная палітычная вага была найменшай і хто сваімі поглядамі быў бадай што найбольш блізкім да самога дыктатара.

**Табліца 12.** Рэйтынгі партый і палітыкаў за чатыры месяцы да выбараў у Сербіі

| Партыі | Партыйныя рэйтынгі, снежань 1999 | Партыйныя рэйтынгі, май 2000 | Вынік прэзідэнцкіх выбараў, калі б кандыдатамі былі | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Мілошавіч / Шэшаль | Мілошавіч / Драшкавіч | Мілошавіч / Джынджыч | Мілошавіч / Каштуніца |
| СПС-АЮЛ, Мілошавіч | 13 | 19 | 27 | 33 | 32 | 28 |
| СРП, Шэшаль | 4 | 7 | 9 | | | |
| Уся кааліцыя | 17 | 26 | | | | |
| Альянс за перамены, ДП, Джынджыч | 12 | 20 | | | 30 | |
| СРА, Драшкавіч | 7 | 9 | | 27 | | |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| ДПС, Каштуніца | | | | | | |
| Тры найбуйнейшыя апазіцыйныя партыі | 22* | 34* | | | | |
| Іншыя партыі | 2 | 10 | | | | |
| Без пэўнай пазіцыі | 41 | 26 | 11 | 15 | 17 | 15 |
| Не пойдуць галасаваць | 20 | 4 | 53 | 25 | 21 | 13 |

**Крыніца:** Інстытут філасофіі і сацыяльных навук Сербскай акадэміі навук і мастацтваў, Бялград.

Такім чынам, тлумачэнні некаторых беларускіх аналітыкаў, што, "як сведчыць югаслаўскі досвед, грамадства само вылучае лідэраў, калі дасягае пэўнага ўзроўню сталасці", проста неадэкватныя. Нельга цалкам пагадзіцца і з цверджаннем, што "соцыум, які пасталеў да самастойнай гістарычнай творчасці, бярэ ўласны лёс у свае рукі, ні ў кога не пытаючыся дазволу. Як гэта зрабіў летась югаслаўскі народ"[40]. З табліцы 12 відаць, што "самастойная творчасць народа" пры чарговым самагубчым выбары апазіцыйнай эліты прывяла б толькі да чарговага ўзмацнення Мілошавіча. І як гэта ні парадаксальна — адзіным паратункам быў выбар на карысць, здавалася б, найслабейшага.

Відавочна, што больш шырокія палітычныя далягляды дапамаглі сербскім палітыкам у дасягненні адзінства. Так, яны раскруцілі аднаго з найслабейшых з іх у ранг нацыянальнага выратавальніка. Выключная гатоўнасць падтрымаць і працаваць на кандыдата, які не з'яўляецца ні наймацнейшым, ні самым прывабным для жорсткага апазіцыйнага электарату, безумоўна, была вынікам горкага ўроку мінулага: не ахвяруеш часткі — не здабудзеш нічога.

40 Карбалевич Валерий. Лукашизм — тяжелая патология нации. Главный урок президентских выборов // Гражданский форум. Информационно-аналитический бюллетень Объединенной гражданской партии. 2001. №1, ноябрь. С. 3.

Вось цікавае сведчанне Ліляны Бачавіч, адной з вядучых сацыёлагаў Сербіі і даўняй каляжанкі Каштуніцы ў Бялградскім інстытуце сацыяльных навук:

*“Ужо ў 1997-м апазіцыя магла выйграць, калі б з’ядналася вакол Каштуніцы. Я тады даказвала гэта сваёй сяброўцы Весне Пешыч (адной з лідэрак ліберальнай сербскай апазіцыі). Яна абуралася, кажучы, што гэта не варта высілкаў, бо Каштуніца сваімі поглядамі проста пачвара. Я казала: “Згодна, але падумайце, ці маеце вы іншы шанц для перамогі”. Тады яны адмовіліся зразумець гэта. Яны зразумелі толькі праз тры гады”.*

Нарэшце, выбар 21 ліпеня выпаў на Ганчарыка, што адразу ж прывяло да выбуху незадаволенасці ў штабе іншага кандыдата, які здолеў сабраць неабходную колькасць галасоў для вылучэння, — Домаша. За некалькі дзён Домаш і Ганчарык абмяняліся некарэктнымі заявамі адзін пра аднаго ў прэсе. Пасля пачалося ўзгадненне ўмоваў “канчатковага аб’яднання” і паралельна — выпрацоўка пагаднення паміж Ганчарыкам і палітычнымі партыямі, болей дакладна — партыйнымі лідэрамі, што цяпер ужо прэтэндавалі на важную ролю ў кампаніі. Гэта заняло яшчэ некалькі тыдняў, і за гэты час кампанія была паралізаваная ўнутраным гандлем.

На жаль, асобныя прадстаўнікі нашага апазіцыйнага асяроддзя, што адмаўляліся галасаваць за Ганчарыка, бо ён быў “такі ж, як Лукашэнка”, моцна нагадвалі сербскіх апазіцыянераў сярэдзіны дзесяцігоддзя. І справа тут не ў канкрэтным кандыдаце, а ў самім падыходзе да выбару. Апазіцыйнае асяроддзе ў Беларусі настолькі разнастайнае, што такія ж настроі паўсталі б сярод асобных групаў пры вылучэнні любога кандыдата, будзь ён Домаш, Чыгір ці Калякін. Стаўленне “альбо ўсё, альбо нічога”, няўменне ахвяраваць малым ці нават сярэднім дзеля галоўнага заўжды прывядзе да нулявога выніку. Тут варта прыгадаць выказванне старшыні сербскага НДА “Грамадзянскія ініцыятывы” Міленкі Дарэты аб

ягоным стаўленні да Каштуніцы: “Каштуніца для мяне быў персанальнай трагедыяй у тым сэнсе, што ён жыў у адным раёне Бялграда са мной і я быў вымушаны галасаваць за яго дзесяць гадоў, не падзяляючы ніводнай ягонай ідэі. Але ж як грамадзянін я мусіў праяўляць грамадзянскую сталасць і разуменне сітуацыі”.

У Беларусі апазіцыя фармальна аб’ядналася менш чым за чатыры тыдні да выбараў. Фактычна — за два, бо працэс “аб’ядноўвання перадвыбарных штабоў” (папросту кажучы, гандлю за пасады і ўплыў у кампаніі) не спыняўся да апошняга тыдня жніўня. Нагадаем, што падрыхтоўка да выбараў пачалася тады, калі асноўныя палітычныя партыі знаходзіліся ў працэсе высвятлення адносінаў наконт удзелу / байкоту выбараў-2001. Скандалы ўнутры апазіцыі (выключэнне “Народнай грамады” з КРДС, потым выхад астатніх сацыял-дэмакратаў, потым спробы расколу партыі Статкевіча) на нейкі час пакінулі апазіцыйных лідэраў па-за выбарчым працэсам. Болей за тое, партыйныя кіраўніцтвы знялі з сябе адказнасць за вылучэнне адзінага кандыдата, пасля таго як КРДС у снежні 2000 г. прапанавала трох (Сямёна Домаша, Міхаіла Чыгіра і Уладзіміра Ганчарыка), і пачалі чакаць падзеяў аж да лета, матывуючы сваю бяздзейнасць тым, што яны “будуць падтрымліваць толькі адзінага, а не канкрэтнага кандыдата”. Пасля самаразвалу КРДС і стварэння кааліцыі “За сацыяльныя перамены” механізму вылучэння адзінага кандыдата ўжо не існавала. Фактычна, аб’яднанне аддалі на водкуп самім кандыдатам, паколькі партыі выразна не вызначылі сваіх пазіцый (большасць з іх заявіла пра падтрымку ўсёй пяцёркі, хіба што некаторыя выключылі магчымасць падтрымкі Калякіна). Удзел у перадвыбарных штабах стаў асабістай справай сяброў партый. А раз аб’ектыўных крытэраў для вылучэння адзінага кандыдата сярод самой пяцёркі да сканчэння збору подпісаў не было, то вызначэнне адзінага ператварылася ў банальны палітычны гандаль, які суправаджаўся шматлікімі скандаламі (напрыклад, адзін штаб заўчасна распускаў плёткі аб тым, што іх кандыдат ужо вызначаны як адзіны).

Безумоўна, Ганчарык быў слабы і далёка не ідэальны кандыдат. Але тое самае можна было сказаць і пра ўсіх іншых з пяцёркі. Домаш быў замоцна пазіцыянаваны “справа”, Калякін — “злева”, Чыгір меў найбольшы адмоўны рэйтынг і шлейф крымінальных справаў, Казлоўскі проста не меў палітычнай базы. Моцным бокам Ганчарыка, аднак, было тое, што ён здабываў большую частку “балота” і найбольшую колькасць выбаршчыкаў пры ўмове безумоўнага адзінства сярод апазіцыі. Яго слабым бокам, аднак, было тое, што ён кіраваў цалкам здыскрэдытаванай у грамадскай свядомасці структурай — прафсаюзамі, а таксама дадавалі мінусаў даволі паважны век і адсутнасць харызмы.

Настроі актывістаў у абодвух буйнейшых штабах былі такімі, што скандалы і высвятленне адносінаў мелі б месца і тады, калі адзіным кандыдатам быў бы абраны Домаш. Самай галоўнай праблемай выбару адзінага кандыдата было тое, што выбару фактычна не было. Ніводны з двух мацнейшых апазіцыйных прэтэндэнтаў, нягледзячы на ўсе заявы і аргументы іх прыхільнікаў, не быў здольны кінуць Лукашэнку рэальнага выкліку.

**Табліца 13.** Ці сапраўды меў нейкае значэнне выбар адзінага кандыдата паміж Домашам і Ганчарыкам (гіпатэтычнае галасаванне паміж двума кандыдатамі)

| | красавік 2001 | чэрвень 2001 |
|---|---|---|
| Лукашэнка — Домаш: | | |
| за Лукашэнку | 38,3 | 43,2 |
| за Домаша | 11,6 | 14,8 |
| Лукашэнка — Ганчарык: | | |
| за Лукашэнку | 38,4 | 44,3 |
| за Ганчарыка | 14,1 | 13,1 |

**Крыніца:** *Новости НИСЭПИ*. Вып. 2, 2001. С. 51.

У гэтых умовах дзве палярныя тактыкі передвыбарных штабоў (штаб Домаша рабіў стаўку на жорсткі дэмакратычны электарат, а штаб Ганчарыка —

на “балота”) былі б аднолькава малапаспяховымі.
Пры 10%-м жорсткім дэмакратычным электараце першая тактыка аўтаматычна ператваралася ў барацьбу за другое месца, а другая (тэарэтычна больш перспектыўная) не падмацоўвалася кандыдатам, прывабным для таго самага “балота”. У гэтых умовах высвятленне адносінаў паміж Домашам і Ганчарыкам адлюстроўвала не толькі барацьбу іх персанальных амбіцый, але і канфрантацыю былых “байкатыстаў” (штаб Домаша складалі актывісты БНФ, АГП і рэсурсавых цэнтраў, што дамінавалі ў кампаніі “Байкот-2000”) і “калабарантаў” (асновай каманды Ганчарыка сталі сацыял-дэмакраты Статкевіча, а таксама Грамадзянскі форум і невялікая частка сяброў АГП, што адмовіліся ад удзелу ў байкоце).

Як паказалі падзеі, што разгарнуліся падчас і пасля вылучэння “адзінага”, палітычныя лідэры не здолелі пераадолець вузкагрупавых амбіцыяў на карысць адзінства і кампрамісу. Ужо пасля выбараў адзін з лідэраў БНФ, каментуючы паводзіны сваёй партыі падчас супольнай кампаніі, заявіў: “Цяжка прывесці сяброў БНФ на плошчу і прымусіць іх стаяць з людзьмі пад чырвонымі ці сінімі сцягамі”. Таксама як і некаторыя лідэры сацыял-дэмакратаў адкрыта шкадавалі, што пайшлі на аб’яднанне з правымі. Усё гэта выразна нагадвае досвед і настроі сербскай апазіцыі ў 1990-х. Фактычна аб’яднанне апазіцыі было фікцыяй — адзінай прычынай яго стала пазіцыя замежных донараў, што адмовіліся фінансаваць асобныя кампаніі. Такая пазіцыя сама сабою не была благой ці добрай: гэтая ж умова была пастаўлена яшчэ ўвесну 2000 г. перад сербскай апазіцыяй. Аднак купіць можна лаяльнасць, але не добрую волю.

## 4. Праграмы і рыторыка дэмакратычных кандыдатаў

Падтрымліваючы свайго кандыдата на югаслаўскіх выбарах, ДАС прад'явіла перадвыбарную платформу, што знайшла шырокую падтрымку грамадства. Гэтая праграма сумясціла "гуртовае" шырокае бачанне будучыні Сербіі як цывілізаванай еўрапейскай дзяржавы і "раздробную" частку, якая закранала пытанні, што найбольш турбавалі насельніцтва. Кароткачасовымі мэтамі праграмы было пераадоленне міжнароднай ізаляцыі, барацьба з карупцыяй, спыненне свавольства і адмена паліцэйскага кантролю за вышэйшай адукацыяй (што было выключна важным пытаннем для моладзі). Са словаў каардынатара кампаніі Зорана Джынджыча, апазіцыя "дала грамадству ясны выбар паміж дабром і злом", паказаўшы альтэрнатыву паміж сучаснай, дэмакратычнай і еўрапейскай Сербіяй ды міжнароднай ізаляцыяй, анархіяй, вайной, карупцыяй і злоўжываннем уладай з боку рэжыму. Доўгачасовымі мэтамі абвяшчаліся адбудова эканомікі і інтэграцыя Сербіі ў еўрапейскую супольнасць. Адначасова Джынджыч зазначыў, што "вельмі важна ссунуць акцэнт з пытанняў, якія цікавяць палітыкаў, да пытанняў, што цікавяць людзей. Важна пераканаць выбаршчыкаў, што перамога апазіцыі — гэта таксама і іх перамога"[41].

Апазіцыя, аднак, не скацілася да танных папулісцкіх абяцанак. Лепш за ўсё апазіцыйную праграму сфармуляваў сам Каштуніца:

41 Цытуецца паводле: Yugoslavia: Djindjic Speaks Of Hard Lessons Learned, Yugoslavia's Future. Tomiuc Eugen. RFE/RL report, http://www.rferl.org/ nca/features/2001/09/ 21092001110038.asp

*“Я ведаю, што вы хочаце таго ж, чаго і я. Жыць у звычайнай, сярэдняй еўрапейскай краіне. Краіне, вольнай унутры, дэмакратычнай. Краіне, вольнай звонку, незалежнай. Краіне з сярэднім узроўнем жыцця. З сярэднімі стасункамі з іншымі дзяржавамі. <...> Сярэдняй эканомікай. Сярэднім узроўнем зарплат і пенсій. <...> Сярэднімі банкамі. Сярэднім выбарам тавараў у крамах. Сярэдне стабільнай нацыянальнай валютай. З сярэдняй сістэмай сацыяльнага забеспячэння. Сярэдняй сістэмай аховы здароўя. Сярэднімі сродкамі масавай інфармацыі, дзе першыя старонкі будуць запаўняць навіны культуры. У дзяржаве, дзе ўсё будзе на сярэднім, звычайным еўрапейскім узроўні”*[42].

У той жа час Каштуніца гуляў і з антызаходняй, антынатаўскай рыторыкай, але ў дадатнай, а не антаганістычнай да яго дэмакратычных поглядаў манеры: “Мы не пераможам замежнага прымусу, пакуль не пазбавімся ад прымусу ўнутранага. І гэта мы павінны зрабіць самі, без дапамогі звонку, каб не мяняць адно рабства на другое і адну ганьбу на другую”[43].

Праграма апазіцыйнага кандыдата ў Беларусі была пазбаўленая гэткага ж яснага бачання, што здарыцца, калі пераможа апазіцыя. Спрабуючы палемізаваць з афіцыйнай прапагандай, Ганчарык зрабіў у сваёй праграме акцэнт на сацыяльную стабільнасць і грамадзянскі мір. Наагул, погляды Ганчарыка з прыхільнасцю сустракаліся там, дзе ён здолеў дайсці да выбаршчыкаў. Але ж праблемай яго кампаніі была невялікая колькасць перакананых прыхільнікаў, якія б успрынялі больш жорстка артыкуляванае рэфарматарскае пасланне. Гэта прымусіла Ганчарыка і яго штаб адчайна шукаць падтрымку сярод “балота”. У выніку ягоная праграма ператварылася ў набор супярэчлівых абяцанняў, такіх, як адначасовая падтрымка эканамічных рэформаў, захавання дзяржаўных

---

42 http://www.snd-us.com/Liberty/Koštunica_speech_sept20.htm

43 www.bbnet.org.yu/bdnet/elections/eng/0414Koštunica.htm

прадпрыемстваў і сацыяльнай сферы, а таксама зніжэнне падаткаў, узмацненне дзяржаўнага суверэнітэту і інтэграцыя з Расіяй. У адрозненне ад Сербіі, дзе апазіцыя ўжо мела жорсткае кола прыхільнікаў і таму Каштуніцу трэ было трохі зрушыцца да цэнтру, каб прывабіць абсалютную большасць, у Беларусі пагоня за "сярэднім" выбаршчыкам без скансалідаванага жорсткага электарату прымусіла выходзіць далёка за межы апазіцыйнага электарату, у выніку чаго праграма Ганчарыка стала амаль ідэнтычнай з лукашэнкаўскай. Выключэнне складала толькі палітычная частка, што дапамагло ўладзе паказаць апазіцыю як групоўку, якая змагаецца толькі за ўладу. Ганчарык паспрабаваў "узарваць" сітуацыю, прыцягнуўшы ўвагу да зніknення вядомых апазіцыйных палітыкаў. Але кампрамат, які ён выдаў у ліпені, фактычна не змяніў раскладу сіл. Яму паверылі жорсткія апаненты Лукашэнкі і не паверылі перакананыя прыхільнікі апошняга. У выніку "балота" галасавала пераважна за Лукашэнку ці не брала ўдзелу ў выбарах.

## 5. Арганізацыя кампаніі

Кампанія апазіцыі на выбарах у Сербіі была арганізаваная як тры цесна звязаныя кампаніі. Першая была ўласна кампаніяй Каштуніцы, другая — кампаніяй па выбарах у федэральны парламент, трэцяя — кампаніяй няўрадавых арганізацый. Усе тры кампаніі былі знітаваныя адной ідэяй і скаардынаваныя міжсобку. Кампанія Каштуніцы і парламенцкая кампанія былі пазітыўнымі палітычнымі кампаніямі. Кампанія НДА мела тры мэты. Першая — мабілізацыя выбаршчыкаў, асабліва маладых, якія, як і ў Беларусі, больш схільныя ігнараваць выбарчы працэс (у той жа час папулярнасць Мілошавіча сярод гэтай часткі электарату знізілася амаль да нуля). Другая — давядзенне простага паслання, якое сфармуляваў сам Каштуніца: "Мы ўжо выйгралі выбары, і наша задача цяпер — толькі пацвердзіць гэта". Гэта азначала мабілізацыю грамадзян для абароны вынікаў выбараў. Да грамадства даносілася думка, што перамены нарэшце сталі магчымыя і іх лёс цяпер залежыць ад палітычнай актыўнасці людзей. Трэцяя — негатыўная кампанія супраць Мілошавіча пад лозунгам "Выхад-2000". Поспеху трох кампаній спрыяла іх каардынацыя і праца на адзіны вынік. У адрозненне ад Беларусі, дзе некаторыя НДА вялі непрыхаваную барацьбу за адны і тыя ж функцыі, сербскія няўрадавыя арганізацыі аб'ядналіся пад парасонам адной кампаніі і падзялілі паміж сабой нішы. Болей за тое, яны фактычна дапамаглі палітычнай апазіцыі запоўніць яе інтэлектуальныя і арганізацыйныя прабелы. Напрыклад, праграма ДАС была загадзя распрацаваная даследчым інстытутам G17+, які таксама ўзяў на сябе распаўсюджванне праграмы

сярод выбаршчыкаў. Іншыя няўрадавыя арганізацыі (такія, як “Грамадзянскія ініцыятывы”, “Еўрапейскі рух у Сербіі” і дзесяткі іншых) рыхтавалі назіральнікаў і агітатараў. Студэнцкі рух “Адпор” (які налічваў падчас кампаніі некалькі дзесяткаў тысячаў сяброў) не толькі здолеў пераканаць грамадства ў магчымасці перамогі, але і сыграў выключную ролю ў аб’яднанні апазіцыі. Менавіта яго актывіст на мітынгу ў красавіку 2000 г., калі ДАС першы раз з’явіла сябе свету, паставіў перад апазіцыйнымі лідэрамі “пытанне рубамм”: альбо вы яднаецеся, альбо мы не будзем вам дапамагаць у чарговым акце самагубства. Нарэшце, мабілізацыя грамадзян для абароны вынікаў выбараў была ў вялікай ступені заслугай акурат НДА.

Зазначым адну акалічнасць, што абумовіла поспех такой арганізацыі кампаніі. Яна падзялялася на дзве часткі — электаральную (барацьбу за галасы) і мабілізацыйную (між іншага — мабілізацыю на абарону перамогі). Другая частка мела сэнс і поспех толькі таму, што першая, як гэта ні парадаксальна, была выкананая яшчэ да пачатку кампаніі! Электаральна апазіцыя выйграла тады, калі вылучыла Каштуніцу. Папярэдні гіпатэтычны расклад 43% на 28% трансфармаваўся ў прыкладна такія ж суадносіны галасоў паводле вынікаў выбараў. Калі хто і прыдбаў галасы за час перадвыбарнай кампаніі, дык толькі Мілошавіч.

**Табліца 14.** Ці паўплывала перадвыбарная кампанія на выбар выбаршчыкаў?

| | **Рэйтынг за 4 месяцы да выбараў (ад усяго электарату)** | **Гіпатэтычная колькасць галасоў* (тыс. чалавек)** | **Рэальная колькасць галасоў паводле вынікаў выбараў, афіцыйныя звесткі** |
|---|---|---|---|
| Каштуніца | 43% | 2,494 | 2,470 |
| Мілошавіч | 28% | 1,624 | 1,826 |

* Разлік пры ўмове, што электарат складае 5,8 мільёнаў чалавек, г. зн. без Косава і Чарнагорыі, дзе выбары байкатаваліся ці не

праводзіліся. **Крыніца:** CeSID, Бялградскі Інстытут філасофіі і сацыяльных навук, уласныя падлікі.

Што тычыцца Беларусі, то тут можна вызначыць некалькі істотных адрозненняў ад сербскай кампаніі. Па-першае, наступствам папярэдняй палітычнай тактыкі "навяртання навернутых" было тое, што кампанія зноў фактычна праводзілася толькі ў гарадах, не закрануўшы тым самым большасці лукашэнкаўскага і нават "балотнага" электарату. Так, з шасці тысячаў валанцёраў, задзейнічаных на апошнім этапе кампаніі (а з іх звычайна працавала каля паловы), амаль дзве тысячы працавалі ў Менску.

Кажучы пра арганізацыю кампаніі, трэба зазначыць, што "палітычны" прынцып аб'яднання штабоў прывёў да таго, што адзіны штаб быў паралізаваны ўнутранай барацьбой, дыскусіямі, амбіцыямі, а час ад часу і амаль непрыхаваным сабатажам. Напрыклад, велізарная колькасць агітацыйных матэрыялаў ці то паступала ў апошні момант, ці наагул не была распаўсюджаная. Болей за тое, на выбарах не было і намёку на каардынацыю палітычнай кампаніі з кампаніяй недзяржаўных арганізацый. Апошняя, асабліва контрагітацыйная кампанія, вялася сама сабою, часам з дапамогай рыторыкі, дыяметральна супрацьлеглай той, якую несла палітычная кампанія. Некаторыя сімвалы і лозунгі, што ў ёй выкарыстоўваліся, працавалі толькі на некалькі працэнтаў жорсткага электарату і адштурхоўвалі большую частку выбаршчыкаў. Яны былі потым старанна выкарыстаныя афіцыйнай прапагандай для дыскрэдытацыі апазіцыі (выявы "Снікерса", Рэмба з узнятым кулаком, гульца ў амерыканскі футбол, лучніка, што ўзмацняла афіцыйныя абвінавачанні ў бок апазіцыі як згуртавання экстрэмістаў і заходніх запраданцаў)[44]. Гаворачы шчыра, кампанія асобных НДА стала па сутнасці спосабам

---

44 Цікавая думка аднаго з сяброў сербскага "Адпору" пра агітацыйную працу "Зубра": "Калі я пабачыў іхнія ўлёткі, дык адразу падумаў, што яны робяць памылку. Яны былі надрукаваныя ў колеры і на добрай паперы. У беднай краіне гэта непатрэбная раскоша".

пасіўнага ігнаравання палітычнай кампаніі тымі, хто не пагадзіўся з вынікамі вылучэння адзінага кандыдата. Болей за тое, праз раней адзначаную ўзаемасувязь паміж партыямі і НДА, яна адцягнула большасць чалавечых і матэрыяльных рэсурсаў ад палітычнай кампаніі.

Здаецца, і тут "усё, як у людзей". І ў Сербіі кампанія няўрадавых арганізацый была больш заўважная, чым палітычная. Але, як я ўжо зазначыў, палітычная частка кампаніі была выкананая загадзя: апазіцыя мела пераканаўчую перавагу задоўга да таго, як увайшла ў выбарчы марафон, — і толькі таму мабілізацыйная кампанія мела сэнс! Кампанія недзяржаўнага сектару ў Беларусі таксама вялася гэтак, быццам бы кандыдат апазіцыі ўжо стаў лідэрам, у той час як ён адчайна імкнуўся скансалідаваць хаця б базавы апазіцыйны электарат. Першаснай неабходнасцю беларускай кампаніі было стварыць грамадскую падтрымку для кандыдата і, шчыра кажучы, хаця б пазнаёміць грамадства з ім. Без гэтага контрагітацыя і мабілізацыя проста не мелі сэнсу. Яны не давалі выбаршчыку інфармацыі, за каго галасаваць і чаму галасаваць менавіта за яго. А гэта не давала адказу на пытанне той часткі выбаршчыкаў, якая ўжо расчаравалася ў Лукашэнку, але не ведала альтэрнатывы. Звычайна гэтае пытанне гучала так: "Ён благі, але хто замест яго?" Такім чынам, канфрантацыя з рэжымам мела невялікі сэнс без паспяховай канкурэнцыі з ім. І тут узаемадзеянне палітычнай супольнасці і недзяржаўных арганізацый нагадвала стары анекдот пра двух рабочых, адзін з якіх ішоў па вуліцы і адкопваў ямку, а другі адразу пасля яго закопваў яе. На пытанне, чаму першы робіць адно, а другі другое, было адказана: "Гэта не другі, гэта трэці. Другі садзіць дрэвы, але ён на працу не выйшаў". Фактычна беларускае грамадства мабілізавалася на абарону не перамогі, а годнай паразы. І не дзіўна, што гэтая даволі бессэнсоўная мабілізацыя не мела поспеху.

# 6. Абарона ад фальсіфікацый, вулічная барацьба і палацавы пераварот: логіка падзей

Выбары ў аўтарытарных рэжымах маюць адну асаблівасць, якую калісьці вызначыў Сталін: “Неістотна, як галасуюць, істотна, хто лічыць галасы”. Удакладню — важна і першае, і другое. Параўнанне досведу Сербіі і Беларусі дазваляе зрабіць вывад: калі апазіцыя перамагае са значнай перавагай, яна мае шанцы абараніць перамогу. Калі не — яна атрымае столькі галасоў, колькі ёй “напішуць” улады. (А з гэтага вынікае і наступнае: перамога апазіцыі магчымая толькі ў першым туры. Разумення гэтага былі пазбаўлены ўсе апазіцыйныя штабы, уключаючы штаб Ганчарыка, на які працаваў аўтар гэтых радкоў: усімі імі планавалася стратэгія на два туры, раўназначная прызнанню паразы загадзя).

Важным і неабходным чыннікам таго, што перамога ў Сербіі была паспяхова абароненая, было здабыццё сербскай апазіцыяй значна большай колькасці галасоў, чым Мілошавіч здолеў сфальсіфікаваць. Тут адыграла ролю і прафесійна арганізаванае назіранне, і ўдзел сяброў апазіцыі ў выбарчых камісіях. Гэта дапамагло апазіцыі абвесціць свае падлікі вынікаў да таго, як гэта зрабіў рэжым. Самае галоўнае, аднак, у тым, што абвяшчэнне перамогі апазіцыі гучала як праўда і для самой апазіцыі, і для грамадства, і для рэжыму. Самі выбарчыя камісіі (а гэта некалькі дзесяткаў тысячаў чалавек) — гэта каласальны зрэз грамадства, які пэўным чынам рэпрадукуе

сацыяльную атмасферу. Калі ў грамадстве пераважная большасць настроеная супраць рэжыму, то, хутчэй за ўсё, такая ж атмасфера і ў выбарчых камісіях — і наадварот. Безумоўна, на пэўным этапе імі кіруе страх. Страх, аднак, памяншаецца, калі бачная магчымасць перамогі іншага боку, болей за тое, ён можа саступаць месца іншаму страху — быць прыцягнутым новымі ўладамі да адказнасці за фальсіфікацыі.

Існуе, аднак, іншы слой інсайдэраў, якіх рэжым можа выкарыстаць для выкрадання перамогі, — гэта карныя органы і, у выпадку фіксацыі вынікаў выбараў, цэнтральныя выбарчыя камісіі. Гэтыя рычагі кантралююцца "ўнутраным колам" рэжыму, і любая спроба непадпарадкавання жорстка караецца. Арганізацыя "апаратнага перавароту" ва ўмовах персаналізаванай дыктатуры максімальна абцяжараная менавіта наяўнасцю рычагоў кантролю за ўладнай вертыкаллю з боку "ўнутранага кола". Любая "праца з наменклатурай" адсочваецца, а яе ўдзельнікі нейтралізуюцца. Арганізаваць пераварот у стане і само "ўнутранае кола", але яно занадта шчыльна павязваецца "кругавой парукай" з лідэрам (удзел у карупцыі, нелегальным бізнэсе, палітычных рэпрэсіях і г. д.), каб мець матывацыі здаць яго (выключэннем у Сербіі быў кіраўнік аналагу беларускага КДБ, што зноў пацвярджае: праца з "наменклатурай" мае поспех, толькі калі яна закранае "ўнутранае кола").

Адзіным выйсцем у гэтай сітуацыі з'яўляецца арганізацыя масавага вулічнага ціску на ўрад, што сам па сабе немагчымы без усведамлення грамадствам сваёй перамогі і веры ў яе (зноў падкрэсліваем неабходнасць папярэдняга, выбарчага этапу для эфектыўных неінстытуцыйных дзеянняў). Прычым перамога павінна быць рэальнай, а не выдуманай у прапагандысцкіх мэтах. Сацыяльны канфармізм у аўтарытарным грамадстве фарміруецца не столькі "спіраллю маўчання" (неабгрунтаванай перакананасцю ў тым, што лідэр усё роўна больш папулярны), колькі адэкватнай ацэнкай сітуацыі

на падставе ўласнага жыццёвага досведу. Калі апытанні сведчаць, што, напрыклад, 10% падтрымлівае апазіцыю, а 35% — Лукашэнку, гэта азначае, што з кожных дзесяці чалавек, з якімі сярэднестатыстычны беларус паўсядзённа сутыкаецца, тры ці чатыры падтрымліваюць рэжым, адзін — апазіцыю, а пяць або шэсць ці абыякавыя да палітыкі, ці не вераць Лукашэнку, але не ведаюць, за каго галасаваць. Таму 75% тых, хто лічыць, што прэзідэнтам зноў будзе Лукашэнка, прагназуюць вынікі адэкватна. Было б дзіўна, каб пры ліку 4:1 падчас футбольнага матчу хтосьці сумняваўся ў перамозе каманды, якая вядзе ў ліку. Грамадская думка была адэкватнай і на падзенне рэйтынгу Лукашэнкі. Калі ён знізіўся за год з 46 да 27%, больш за палову апытаных адчулі гэтае паніжэнне рэйтынгу, і толькі 16% заўзятых прыхільнікаў Лукашэнкі гэтага не заўважылі.

Важна падкрэсліць, што вулічныя пратэсты ў Сербіі пачаліся не з Бялграда, а з правінцыі, з тых гарадоў, дзе ў 1996 г. перамагла апазіцыя і дзе мясцовыя ўлады здолелі перацягнуць частку адміністрацыйнага рэсурсу для арганізацыі пратэсту. Дарэчы, тое, што можна назваць "сербскай апазіцыйнай наменклатурай" (апазіцыйныя лідэры паходжаннем з дзяржапарату), аказалася надзвычай эфектыўным у справе супрацьдзеяння магчымым карным акцыям супраць дэманстрантаў. Менавіта яны здолелі правесці сакрэтныя перамовы з кіраўніцтвам "чырвоных берэтаў" (аналаг беларускага спецназу) аб неўмяшальніцтве. У сваёй масе гэта былі былыя вайскоўцы і паліцыянты. Як зацеміў адзін з іх, "не кожны ведае, як размаўляць з паліцэйскім, як пераканаць узброенага вайскоўца"[45].

Якраз адэкватнае разуменне рэчаіснасці, абумоўленае перавагай прыхільнікаў апазіцыі ў грамадстве, і зрабіла магчымымі масавыя акцыі пратэсту падчас падзеяў 5–6 кастрычніка 2000 г. у Бялградзе. І акурат вулічныя пратэсты прывялі да калапсу ўладнай сістэмы Мілошавіча.

45 Bujosevic Dragan, Radovanovic Ivan. Op. cit. P. 57

“Палацавы пераварот” быў толькі апошняй, а не першай яго стадыяй. Галоўныя апоры ўлады — унутраныя войскі, паліцыя і паравайсковыя фармаванні кшталту САХРу ды “службы бяспекі прэзідэнта” (усім ім быў дадзены загад страляць) — здаліся перад абліччам колькаснай перавагі дэманстрантаў (дарэчы, паводле некаторых звестак, за Мілошавіча галасавалі толькі 18% паліцэйскіх — удвая менш, чым у сярэднім па грамадстве). Вось як гэта растлумачыў былы загадчык службы дзяржаўнай бяспекі Сербіі Радамір Маркавіч: “Пасля выбараў усведамленне таго, што Каштуніца перамог, засела ў галовах паліцэйскіх. <...> Ці набраў ён 49, ці 50 адсоткаў, для іх гэта не мела значэння. Для іх важна было тое, што Каштуніца набраў нашмат болей галасоў, чым Мілошавіч. “Каштуніца безумоўна перамог, — сказаў мне адзін афіцэр, — я сам за яго галасаваў!” <...> Паліцэйскіх бянтэжыла адно пытанне — ці варта ім было абараняць гэты адсотак ці адну дзесятую адсотка на карысць Мілошавіча”[46].

Карныя структуры, такім чынам, былі ў асноўным дэзарганізаваныя знізу. Акрамя службы дзяржаўнай бяспекі, кіраўнік якой вёў перамовы з апазіцыяй ужо з красавіка, другой структурай, дзе сабатаж Мілошавіча пачаўся з галавы, была армія. Яе статус быў прыніжаны на карысць іншых элементаў паліцэйскай дзяржавы (паліцыі і паравайсковых фармаванняў), якая не была асабліва зацікаўленая ў яе існаванні. (Як распавёў пасля падзеяў 5 кастрычніка былы шэф генеральнага штаба Югаслаўскай арміі Перышыч, ён яшчэ ў канцы 1990-х падумваў пра пераварот, але адмовіўся ад гэтай ідэі, бо не быў упэўнены, што атрымае пасля яго ўнутраную і міжнародную падтрымку). У астатнім спрацаваў прынцып “той, хто атрымлівае ўладу на вуліцах, губляе яе таксама на вуліцах”.

Калі параўнаць фальсіфікацыю вынікаў выбараў у дзвюх краінах, можна зрабіць цікавы вывад: у адрозненне ад Беларусі, фальсіфікацыі ў Сербіі былі мінімальнымі.

46 Bujosevic Dragan, Radovanovic Ivan. Op. cit. P. 57

У той жа час, у адрозненне ад Сербіі, фальсіфікацыі прынцыпова не мянялі выніку выбараў у Беларусі. Менавіта гэты факт, таксама як і безумоўная ўпэўненасць і саміх сяброў выбарчых камісій, і назіральнікаў, і публікі ў канчатковым выніку выбараў зрабілі супраціў фальсіфікацыі немагчымым. Урэшце, абарона "розніцы ў галасах" не мела вялікага сэнсу: яна не мяняла канчатковага выніку выбараў, але пэўна выклікала б рэпрэсіі з боку пераможцы. Болей за тое, да абароны вынікаў не была падрыхтавана і сама апазіцыя.

Варта прыгадаць успаміны аднаго з кіраўнікоў Сербскага цэнтру за свабодныя выбары і дэмакратыю Зорана Лучыча, які быў назіральнікам на выбарах 9 верасня.

*"Я быў назіральнікам на ўчастку №1 у Ленінскім раёне Менска. Пасля таго як галасаванне скончылася, а галасы яшчэ не былі падлічаныя, я паспеў разгледзець, як разбіраюць купу бюлетэняў, і быў уражаны, што тут, у цэнтры Менска, вельмі шмат людзей галасавала за Лукашэнку. Паводле маіх назіранняў, Ганчарык усё ж выйграваў на гэтым участку, але толькі з вынікам прыкладна чатыры галасы супраць трох. І калі перавага тут, у сталіцы, толькі чатыры на тры, безумоўна, ва ўсёй краіне Лукашэнка пераканаўча перамагае. Гэта я ведаю з свайго сербскага досведу. Да мяне падышоў мясцовы незалежны назіральнік. Ён спытаўся ў мяне, ці бачыў я, як падтасоўваліся вынікі. Я адказаў, што так, бачыў. "Што мне рабіць?" — "Калі б гэта здарылася ў маей краіне, я проста адчыніў бы вокны і паклікаў бы людзей з вуліцы на дапамогу".*

Што перашкаджала гэтаму назіральніку зрабіць менавіта так? Магчыма, уласны страх. Магчыма, ілюзія, што "заграніца нам дапаможа", якая доўга культывавалася ў шэрагах апазіцыі. Магчыма, усведамленне таго, што яго заклік не будзе пачуты, і таго, што гэтая кампанія была прайграная яшчэ да яе пачатку.

У адрозненне ад Сербіі, дзе апазіцыяй была вытрыманая паслядоўнасць "выбары — вулічныя пратэсты — палацавы пераварот", у Беларусі апазіцыйная стратэгія канцэнтравалася толькі на апошніх двух этапах, прычым акцэнт рабіўся на трэцім. Усе базавыя элементы кампаніі — і выбар кандыдата, і падрыхтоўка да выбараў, і пераадоленне адміністрацыйнага рэсурсу — былі ўскладзеныя апазіцыяй на былую партыйна-гаспадарчую наменклатуру, якая, на яе думку, была здольная выкарыстаць свае старыя сувязі ў дзяржапараце для нейтралізацыі дзеянняў лукашэнкаўскай вертыкалі і карных органаў. Заўважым, што ініцыятыва выкарыстання наменклатуры зыходзіла менавіта ад апазіцыі: менавіта КРДС у снежні 2001 г. прапанавала, паводле рэкамендацыі сваіх "мазгавых цэнтраў", апаратную тройку "Домаш — Чыгір — Ганчарык" у якасці сваіх кандыдатаў. Таму з паслявыбарнымі заўвагамі аднаго з лідэраў БНФ, што "наменклатура нясе адказнасць за правал кампаніі. Мы таксама нясём адказнасць за тое, што паставілі на наменклатуру. Яны казалі нам, што змогуць забяспечыць сапраўдны кантроль над выбарамі і падтрымку Расіі. Яны нам сказалі, наша справа — мабілізаваць масы. І мы гэта зрабілі"[47], можна згадзіцца толькі ў плане "размеркавання адказнасці". Але ж, папраўдзе кажучы, менавіта апазіцыйныя СМІ і апазіцыйныя лідэры за паўгода-год да выбараў рэкламавалі грамадству (да таго ж, далёка не змабілізаванаму) перавагі "наменклатурнага сцэнара". Фактычна, яго ажыццяўленне прывяло да электаральных страт і нічога не дало ў плане нейтралізацыі адміністрацыйнага рэсурсу. У электаральным плане гэты сцэнар сутыкаўся са старанна культываваным рэжымам на працягу апошніх год стэрэатыпам аб дзяржаўным апараце як асяроддзі карумпаваных жулікаў. Гэта толькі ўзмацніла лукашэнкаўскую контрагітацыю супраць апазіцыі, якую ён паказваў як кучку былых апаратчыкаў, што цяпер прагнуць рэваншу.

47 Отдельные мухи на политической кухне // Белорусская деловая газета. 2001. 30 октября.

Што да нейтралізацыі адміністрацыйнага рэсурсу, то было б дзіўна, калі б цяперашнія апаратчыкі, значная частка якіх прыйшлі ва ўладу з ніжніх эшалонаў наменклатуры, добраахвотна вярнулі на свае пасады былых апаратчыкаў. Наменклатура кіравала перадвыбарнай кампаніяй прыкладна так, як перадвыбарны штаб Кебіча падчас выбараў 1994 г. "Наменклатурны сцэнар" быў абраны хутчэй таму, што ацэнка лідэрамі апазіцыі шанцаў на ўласны поспех насамрэч была невысокай, а паколькі сярод іх не знайшлося нікога, хто б адважыўся "падставіцца", на гэтую ролю быў запрошаны "ахвярны казёл".

# 7. Заходняя дапамога апазіцыйным кампаніям

Нарэшце, ці паўплывалі на паразу дэмакратычных сілаў у Беларусі дзеянні заходняй супольнасці? Безумоўна, у беларускім выпадку прэсінг з боку пэўных сіл у справе вылучэння адзінага кандыдата справакаваў канфлікты ў стане апазіцыі, але, як здавалася, заходняя супольнасць дзейнічала паводле ўжо апрабаванага югаслаўскага сцэнара!

Каб зразумець прычыны поспеху заходняй дапамогі дэмакратычным сілам у Сербіі, варта прыгадаць тыя чыннікі, што акрэсліў адзін з актыўных назіральнікаў тамтэйшага выбарчага працэсу:

*“Дапамога была вялікай. Толькі Злучанымі Штатамі ў кампанію было ўкладзена каля 40 мільёнаў даляраў. Заходнееўрапейскія фундатары выдаткавалі прыкладна такую ж суму. Падтрымка дэмакратыі доўжылася цягам некалькіх год. Падтрымка была дэцэнтралізаваная і распаўсюджвалася на ўсю краіну. Падтрымка ішла скаардынавана ад розных агенцыяў, што працавалі на адзін сцэнар. Болей за тое, фінансавая падтрымка і дыпламатычныя высілкі таксама каардынаваліся”.*

Але самае галоўнае, фінансавая падтрымка “ўзмацняла тыя аспекты палітычнага жыцця ў Югаславіі, што ўжо там існавалі”[48].

---

48 Carothers Thomas. Ousting Foreign Strongman: Lessons from Serbia // CIPE Policy Brief. Vol.1. No.5. May 2001.

Сам сабою "югаслаўскі сцэнар" быў раней рэалізаваны ў меней аўтарытарных умовах (напрыклад, у Славаччыне) і абапіраўся на тыя грамадскія арганізацыі, што ўзніклі раней і ўжо паспелі зрабіць моцны ўплыў на палітычнае жыццё Сербіі (асновамі сербскага апазіцыйнага руху былі "G17+" і "Адпор"). У Сербіі заходняя дапамога стала паступаць надзвычай позна: фінансаванне ўсіх кампаній пачалося толькі за месяц да выбараў. Аднак сербскія недзяржаўныя арганізацыі здолелі распачаць працу задоўга да пачатку фінансавай падтрымкі, што сведчыць аб адным: кампанія-2000 была для іх у першую чаргу справай жыцця і смерці, і толькі ў другую — сродкам зарабіць грошы. Сама палітычная апазіцыя зрабіла ўсё, каб не акцэнтаваць увагі на заходняй падтрымцы. Каштуніца, напрыклад, выступіў супраць стварэння каардынацыйнага цэнтру фундатараў у Будапешце падчас выбараў.

У адрозненне ад некаторых беларускіх апазіцыйных лідэраў, якія падавалі як сваё дасягненне той факт, што "хамут санкцыяў будзе накінуты на рэжым", высілкі сербскай апазіцыі былі накіраваныя на палягчэнне наступстваў эканамічных і вайсковых акцыяў для насельніцтва. (Прыгадаем хаця б праграмы дапамогі "Энергія для дэмакратыі" і "Асфальт для дэмакратыі", рэалізаваныя сеткаю "G17+" у раёнах, дзе да ўлады ў 1997 г. прыйшла апазіцыя). Вядомая фраза Каштуніцы "Нам не патрэбна дапамога ні Вашынгтона, ні Масквы" таксама гучала дысанансам у параўнанні з беларускай апазіцыйнай рыторыкай. І справа тут у стратэгіі самавызначэння апазіцыйных сілаў: ці яны вызначаюць сябе як адказная палітычная сіла, што дзеліць уласны лёс з лёсам свайго народа, ці афармляюцца ў дысідэнцкае кола і кліентуру замежных акцёраў.

У адрозненне ад Сербіі, заходняя дапамога ў Беларусі не была ні вялікай, ні скаардынаванай (да таго ж заўважалася канкурэнцыя паміж Злучанымі Штатамі і місіяй АБСЕ ды іх імкненне падтрымліваць сваіх "любімчыкаў").

Яна пераважна падмацоўвала адпаведныя ўнутраныя высілкі дзеля кланавання югаслаўскага досведу. Кампанію-2001 падтрымлівалі як спробу скапіяваць паспяховы досвед ДАС, але дапамога прыйшла толькі для пэўных аспектаў беларускага апазіцыйнага палітычнага жыцця. На жаль, гэта не прывяло да палітычнай перамогі.

## Высновы

Сербскі і беларускі досвед могуць пацвердзіць вядомую аксіёму, якую ў свой час вывеў Сэмюэл Гантынгтан: “Аўтарытарныя рэжымы паўстаюць, калі сілы дыктатуры аказваюцца мацнейшымі за сілы дэмакратыі. Аўтарытарныя рэжымы падаюць, калі сілы дэмакратыі аказваюцца мацнейшымі за сілы дыктатуры”. Аўтарытарызм у поставецкую эпоху — гэта свайго роду кампраміс паміж таталітарызмам і дэмакратыяй, сітуацыя раўнавагі, у якой механізмы таталітарнага панавання ўжо нельга адрадзіць, а дэмакратычныя інстытуты яшчэ не здолелі ўсталявацца. Посткамуністычны аўтарытарызм у той форме, у якой ён існаваў у Сербіі і існуе ў Беларусі, — даволі трывалая канструкцыя, што сумяшчае ў сабе элементы, наяўнасць якіх можа назірацца і ў дэмакратычных сістэмах (такія, як пэўная ступень дэмакратычнай легітымнасці гэтых рэжымаў), з найбольш жорсткімі механізмамі падтрымання дыктатарскага панавання, што існуюць у найбольш зачыненых для палітычных зменаў аўтакратыях. Ён будуецца як на “структурных” падмурках (палітычная культура грамадства ды інстытуцыйная сістэма, што спрыяе знішчэнню альтэрнатываў), так і на пэўных стратэгіях асноўных палітычных актораў, што спрыяюць яго мацаванню (у гэтай сувязі варта нагадаць і самагубчую тактыку дэмакратычнай апазіцыі, і нізкавокасць замежных акцёраў, якія, імкнучыся дапамагчы дэмакратыі, на самай справе нярэдка спрыялі мацаванню дыктатур).

Можа, Беларусь застаецца ў аўтарытарным стане проста таму, што яна яшчэ “не дарасла” да дэмакратыі? З гэтым можна было б пагадзіцца, калі б сербскі досвед не засведчыў, што ва ўмовах, калі апазіцыя не здольная

стварыць эфектыўную палітычную альтэрнатыву дыктатуры, аўтарытарызм здольны выжываць вельмі доўгі час — нават тады, калі зрухі ў грамадскай свядомасці вымываюць у яго з-пад ног сацыяльную базу, падчас эканамічных крызісаў і сапраўдных эканамічных катастроф, пры нашмат больш, чым у сучаснай Беларусі, ліберальным палітычным клімаце. Амаль паўдзесяцігоддзя тры з чатырох падмуркаў рэжыму Мілошавіча — масавая падтрымка грамадства, адміністрацыйны рэсурс улады і спрыяльнае спалучэнне міжнародных фактараў — знаходзіліся ў стане, які правакаваў яго крызіс. І толькі апошні падмурак — адсутнасць эфектыўнай апазіцыі — дазволіў яму пратрымацца яшчэ некалькі год. Гэта варта памятаць усім, хто тлумачыць стабільнасць лукашэнкаўскага рэжыму толькі расійскім фактарам ці панаваннем рэпрэсіўнага апарату. Безумоўна, бег часу ды натуральныя працэсы сацыяльнай эвалюцыі і навучання падточваюць падмурак аўтарытарызму. Такая эвалюцыя — неабходны, але абсалютна недастатковы чыннік дэмакратычнай трансфармацыі ў будучыні. Дэмакратыю наўрад ці можна прыспешыць, але яе лёгка можна адкласці на няпэўны перыяд, калі яе пратаганісты не зацікаўленыя ў тым, каб пэўныя палітычныя тэндэнцыі ў краіне выклікалі лагічныя палітычныя наступствы.

На наш погляд, існуе вялікая імавернасць штучнага замаруджвання працэсаў дэмакратызацыі ў Беларусі акурат з прычыны дэфіцыту прапановы, а не попыту. Да гэтай высновы падводзіць той факт, што за два гады, якія прайшлі з моманту пераабрання Лукашэнкі на пасаду прэзідэнта *(рэд. — у 2001 г.)*, імкліва (прыкладна ў паўтара разы) скарацілася сацыяльная база паноўнага рэжыму, працягвалася эвалюцыя масавай свядомасці ў бок усё большага прыняцця дэмакратычных і заходніх вартасцяў. Таксама акрэсліўся крызіс у беларуска-расійскіх дачыненнях, што прывяло да сітуацыі, калі колішні галоўны замежны спонсар беларускай аўтакратыі можа ператварыцца ў адзін з галоўных фактараў яе

дэстабілізацыі. У той жа час не пахіснуўся кантроль рэжыму за адміністрацыйнымі і карнымі рэсурсамі свайго апарату. І самае галоўнае — нельга не заўважыць відавочнага крызісу апазіцыі, які складаецца з дэмабілізацыі і дэмаралізацыі яе чалавечых рэсурсаў ды разгубленасці, адсутнасці стратэгічнага мыслення і страты палітычных арыенціраў яе элітай.

Пры такім раскладзе першы магчымы сцэнар развіцця падзеяў у Беларусі — гэта захаванне сітуацыі, якую я вызначаю як "перадумовы без дэмакратыі". Ён прадугледжвае развіццё падзеяў, пры якім далейшая сацыяльная эвалюцыя, паступовыя змены ў эканамічнай сістэме, ладзе жыцця грамадства будуць весці да стварэння ўсё больш глыбокіх перадумоваў для развіцця краіны ў дэмакратычным кірунку. Аднак пры гэтым існы палітычны баланс сілаў будзе захоўвацца на карысць паноўнага рэжыму дзякуючы ўсё тым жа чыннікам (слабасць і "несістэмнасць" апазіцыі плюс эфектыўнае вынішчэнне паноўным рэжымам палітычных альтэрнатываў). Такое становішча здольнае справакаваць маштабныя сацыяльныя канфлікты ў тым выпадку, калі "квазідэмакратычная легітымнасць" цяперашняга рэжыму будзе цалкам (ці амаль цалкам) страчаная і ён пяройдзе да выкарыстання выключна султанісцкіх метадаў самазахавання. Магчымасцяў негвалтоўнага выхаду з аўтарытарызму пры такім сцэнары амаль не застанецца. З іншага боку, лукашэнкаўскі рэжым можа пазбегнуць такога сцэнара, калі ў будучым праявіць здольнасць да пэўнай саматрансфармацыі. Для гэтага патрабуецца адначасова працягнуць паўнамоцтвы дзейнага прэзідэнта і ажыццявіць частковую канстытуцыйную рэформу, якая перавядзе Беларусь з "гегеманічнага" аўтарытарызму да аўтарытарызму канкурэнтнага (напрыклад, праз пашырэнне паўнамоцтваў парламента і мясцовых уладаў). Але такі сцэнар, дарма што ён здольны ўзмацніць стабільнасць паноўнага рэжыму і легітымнасць прэтэнзій Лукашэнкі да ўлады, урэшце здольны прывесці да фарміравання мацнейшай і больш структураванай

апазіцыі, што пакідае мала шанцаў на тое, што ён калінебудзь зматэрыялізуецца.

Другі варыянт развіцця падзеяў — гэта трансфармацыя існага рэжыму пад уздзеяннем вонкавых фактараў, у першую чаргу расійскага. Наўрад ці гэты сцэнар набудзе рысы югаслаўскага, паколькі стварэнне ў Беларусі ўнутранай апазіцыі, якая б кантралявалася з Расіі, малаімаверна. Аднак магчыма такое развіццё падзеяў, пры якім ціск звонку (у першую чаргу эканамічнымі сродкамі) згальванізуе крызісныя працэсы ўнутры рэжыму ці не дазволіць яму ажыццявіць дзеянні для працягу свайго існавання, напрыклад, праз рэферэндум. Гэты сцэнар можа выліцца ў захоп улады існай наменклатурай, і максімум, да чаго ён прывядзе, — гэта трансфармацыя персаналісцкай дыктатуры ў канкурэнтную аўтакратыю на расійскі ці ўкраінскі ўзор.

На жаль, найменш імаверным сёння ўяўляецца сцэнар прарыву, пры якім апазіцыя здолее не толькі супрацьпаставіць лукашэнкаўскаму рэжыму эфектыўную дэмакратычную альтэрнатыву, але і рэалізаваць яе ў “сістэмнай” ці “пазасістэмнай” палітыцы, гэта значыць забяспечыць пераход да дэмакратыі ці праз выбары, ці праз масавую кампанію грамадскага непадпарадкавання. Каб зрабіць гэты сцэнар больш імаверным, беларуская апазіцыя і апазіцыйная грамадзянская супольнасць мусяць за кароткі час вырашыць як мінімум тры задачы. Першая — гэта ператварэнне ўжо складзенай грамадскай дэмакратычнай большасці ва ўласны электарат, што перадугледжвае прафесійны ўдзел у “сістэмнай палітыцы”. Другая — гэта мацаванне ў грамадстве “пачуцця адзінага лёсу”, што стварае аснову для нацыянальнага самавызначэння. Важна знівеляваць і зменшыць разбуральную для сябе сілу тых культурных падзелаў, што стваралі на працягу дзесяцігоддзя сацыяльную базу аўтарытарызму. Нарэшце, трэцяе: апазіцыя мусіць быць здольнай да стварэння пазітыўнага іміджу сваёй

палітычнай дзейнасці і мэтаў у вачах існых у Беларусі элітаў, чыё асяроддзе не абмяжоўваецца “паралельным грамадствам”.

Любы іншы варыянт трансфармацыі, пры якім дэмакратычныя сілы не будуць кантраляваць яе працэс, хутчэй за ўсё, прывядзе да ўсталявання новай аўтарытарнай сістэмы, хоць, магчыма, і мякчэйшай за лукашэнкаўскую.

*2003*

# Біяграфія

Віталь Сіліцкі скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (аддзяленне сацыялогіі) у 1994 годзе. Атрымаў ступені магістра (Цэнтральнаеўрапейскі універсітэт, Венгрыя) і доктара паліталогіі (Ратгерскі універсітэт, ЗША).
У 1999–2003 гадах працаваў у Еўрапейскім гуманітарным універсітэце ў Мінску. Быў звольнены адміністрацыяй па загаду ўладаў за публічную крытыку палітыкі прэзідэнта краіны. Пасля стажаваўся ў Міжнародным форуме даследаванняў дэмакратыі (Нацыянальны фонд у падтрымку дэмакратыі, ЗША) і Стэнфардскім універсітэце. Мае больш за 100 публікацыяў у выданнях Беларусі, ЗША, краінах ЕС, Расіі. Спецыялізуецца ў галінах палітыкі эканамічных рэформ, дэмакратызацыі на постсавецкай прасторы, электаральных рэвалюцый і прэвентыўнага аўтарытарызму, палітыкі ЕС на постсавецкай прасторы, дачыненняў Беларусі з Расіяй і ЕС. У 2007 годзе ўзначаліў Беларускі інстытут стратэгічных даследаванняў.

Памёр ад цяжкой хваробы на 39 годзе жыцця 11 чэрвеня 2011 года.

Аналітычныя эсэ
**ВІТАЛЬ СІЛІЦКІ**
**Адкладзеная свабода**

Аўтар ідэі серыі *Максім Жбанкоў*
Каардынатар *Алесь Анціпенка*
Галоўны рэдактар серыі *Валянцін Акудовіч*
Рэдактар *Алесь Анціпенка*
Карэктар *Ліка Жабацінская*
Дызайн вокладкі *Сяргей Ждановіч*

Падпісана да друку 05. 08. 2011. Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$
Папера афсетная. Гарнітура «Tahoma». Друк афсетны.
Наклад 300 асобнікаў.

Паліграф. Выкананне:
Вільня